

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 12(71) Сьнежань 1999 December Год выд. 7.




## Вясёлых Калядаў, Шчасьлівага Новага 2000-га Году і Сьв. Богаяўленьня!!!



Жадае Ўсім чытачом газэты — выдавец і рэдактар.



**Спадар Міхась КАЛЕНІК — ведамы грамадзка-царкоўны працаўнік у Чыкага, ЗША., доўгагадовы старшыня Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады і былы старшыня Царкоўнага Камітэту праваслаўнага прыходу сьв. Юр'я, вялікі патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Міхась! Вітаем Цябе з 75-годзьдзем жыцьця і жадаем Табе ўсяго найлепшага.**

ВЯСЁЛЫХ СЬВЯТАЎ

### НОВА РАДАСЬЦЬ

Нова радасьць стала,
што йшчэ ня бывала:
над Бэтлеей зьвязда ясна
Сьвету зазіяла.

Дзе Хрыстос радзіўся,
з Дзевы ўцелавіўся —
як чалавек пялёнкамі
убога спавіўся.

Пастушкі з ягняткам
перад тым Дзіцяткам
на калені ўпадаюць
Хрыста-Бога ўслаўляюць.

І мы засьпявайма
Хрыста праслаўляйма;
народжанага з Марыі
пакорна ўпрашайма.

Просім Цябе, Божа,
просімо як можам:
дай нам у небе жыцьцё шчасна,
на зямлі жыцьцё прыгожа.

(Старая беларуская калядка.)





### ХРЫСТОС РАДЖАЕЦЦА

*Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, азарыла сьвет сьвятлом розуму; у ім-жа, зоры вывучаючы зоркаю навучоныя Табе пакланяцца, Сонцу Праўды, і Цябе пазнаваць з вышыні усходу, Госпадзе, слава Табе.*



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Праўдзівы крытычны погляд на гісторыю блізкіх і далёкіх узаемаадносінаў нашых дзяржаў зусім не пярэчыў-бы шматлікім прыкладам праяўленьня сапраўднай дружбы і ўзаемадапамогі беларусаў і рускіх. Усе такія прыклады – асабовыя, чалавечыя, тое, што спрадвеку уласьціва беларускай талерантнасьці у адносінах не толькі да рускіх, але і да іншых народаў; многа такіх прыкладаў і ў галіне ўзаемасувязяў духоўных, мастацкіх, культуровых. Але гэта адбывалася, як правіла, зусім не дзякуючы уладам і рэжымам, якія ажыцьцяўлялі ўладу, а ў большасьці сваёй насуперак ім, пераадольваючы ўсемагчымыя палітычныя і розныя іншыя таталітарныя рэгламентацыі.

**Ванкарэм Нікіфаровіч,** Чыкага, ЗША.

# Ад якой Расіі мы адмаўляемся

## Не зусім вясёлыя перадкалядныя развагі



Заканчваецца год, стагодзьдзе, тысячагодзьдзе. Што ж будзе? Што чакае кожнага, яго сям'ю, што чакае ўвесь наш беларускі народ і нашу Бацькаўшчыну? Нікуды не зьбегчы ад Гэтых пытаньняў. “Мне сьніцца сны аб Беларусі…” Гэта ня проста купалаўскі радок, што запаў у сэрца. Гэта нязбытны цяперашні стан, клопат, боль, трывогі, роздум…

З кожнай новай палітычнай акцыяй, што адбываюцца апошнім часам на Беларусі, усё болей і болей заяўляе аб сабе моладзь, тое пакаленьне, чыя сьвядомасьць фармавалася ўжо ў апошняе амаль дзесяцігодзьдзе, пасьля распаду савецкае імпэрыі і абвяшчэньня незалежнай Рэспублікі Беларусь. Моладзь складала ледзьве не большасьць сярод тых, хто прыняў удзел у Маршы свабоды ў Менску 17 кастрычніка, ёй-жа і дасталося больш за ўсіх ад дыктатарскай улады.

Нашы рэальныя спадзяваньні і надзеі на карэнныя зьмены на Бацькаўшчыне, - так думаецца, - звязаны сёньня менавіта з гэтымі юнакамі і дзяўчатамі, з тым, што скажа і куды пойдзе гэтае пакаленьне. Як і ў якім напрамку развіваецца яго самасьвядомасьць? Хто ўплывае на яго адукацыю? Ці атрымала яно неабходны багаж ведаў, арыентыраў гістарычных, палітычных, духоўных? Усё гэта ня можа непакоіць сёньня, асабліва напярэдадні магчымага падпісаньня Дагавора аб стварэньні так званай Саюзнай дзяржавы, фактычнага аншлюса фармальна яшчэ сувярэннай Беларусі з боку Расіі, сутнасьць зьнешняй і унутранай палітыкі якой становіцца усё больш і больш імперскакамуністычнай, больш амбіцыёзна-агрэсыўнай, чымсьці нават у апошнія савецкія дзесяцігодзьдзі.

Мне здаецца, што вялізную ролю ў правільным патрыятычным выхаваньні новай моладзі, у зьвернутым да яе адукацыйным і інфармацыйным працэсе магла-б адыграць наша беларуская эміграцыя, яе грамадзкія арганізацыі і культуровыя цэнтры. Актыўная прапаганда (не пабаюся гэтага слова) праўдзівай гісторыі Беларусі ў перыяд, калі яна была гвалтоўна далучана спачатку да царскай, а потым да савецкай Расіі, дапамагла-б многім пазбавіцца ад салодкіх ілюзій аб “непарушнай гістарычнай дружбе народаў-братоў”, аб “адзіным шляху, лёсам наканаваным”, аб “спрадвечнай дапамозе беларусам з боку рускага народа” і гэтак далей. Вось і ў праекце Дагавора аб стварэньні Саюзнай дзяржавы сказана, што усе гэта робіцца, “абапіраючыся на агульнасьць гістарычных лёсаў” Расіі і Беларусі.

Прыгадваю, як нас, маё пакаленьне яшчэ ў школах прымушалі вучыць напамяць верш афіцыйнага і ўплывовага тады паэта Кастуся Кірэенкі “Беларусь – Расія”. Дагэтуль помняцца гэтыя хвацка-пафасныя радкі: “На шчасьлівым шляху з рускім братам вітаюся я. “Добры дзень!” – і у адказе лаўлю дружбакоў галасы я. Я кажу: “Беларусь, Беларусь дарагая мая…” І адразу, як звон, адгукаецца ў сэрцы: “Расія…” Пакінем усё гэта на сумленьні аўтара, які інакш ня мог напісаць тады. Толькі вось ці быў той шлях шчасьлівы?

Так, у нас былі і ёсьць вельмі добрыя сябры і знаёмыя там, у Расіі, у многіх – сваякі. Пасьля Другой сусьветнай вайны чвэрць насельніцтва Беларусі загінула, а сотні тысячаў не захацелі вяртацца з эвакуацыі альбо зьехалі, баючыся камуністычных рэпрэсіяў, на Захад. І вось у апустошаную краіну хлынуў натоўп людзей з таксама галодных вобласьцяў Расіі. Беларусы прынялі гэтых людзей, жылі з імі побач. Гэтым аргументам актыўна спекулюе сёньня такі адмысловы папуліст, як Лукашэнка, заклікаючы да аб'яднаньня дзяржаў. Але пры гэтым зусім забывае прыгадаць, што пасьляваенная міграцыя толькі спрыяла разгорнутаму Масквой нечуванаму працэсу духоўнай асыміляцыі беларусаў, амаль катастрафічнаму згортваньню сферы ўжываньня беларускай мовы, палітыцы рэзкіх абмежаваньняў у развіцьці нацыянальнай культуры. У былым СССР за гады савецкай улады зьніклі многія мовы; беларуская, адна з найпрыгажэйшых сярод славянскіх, усім на дзіва, яшчэ жыве. У тым, што наша мова выстаяла, трэба аддаць належнае мужнасьці нацыянальнай інтэлігенцыі ў дыяспары і актыўнай пазіцыі і стаўленьню да праблем захаваньня нацыянальнай духоўнасьці з боку беларусаў-эмігрантаў у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі і іншых краінаў.

“На шчасьлівым шляху…” Можа, “шчасьлівымі” былі тыя дні, калі расейскі цар Іван Грозны-Жахлівы загадаў тапіць усіх палачан у Дзьвіне? Больш за тры мільёны беларусаў загінула падчас захопніцкіх войнаў, што вялі, далучаючы беларускія землі да Расіі, цары Аляксей Міхайлавіч і Пётр І. Дарэчы, апошні уласнаручна забіваў у беларускіх храмах уніяцкіх сьвятароў, усталёўваючы і сваю ўладу, і сваю рэлігію. Знішчалі беларусаў падчас вызвольных паўстаньняў і войска Суворава, і атрады казакаў, і розныя іншыя узброеныя палкі, што прыходзілі адтуль, з Усходу.

А можа, “шчасьлівай” была палітыка расейскіх бальшавікоў, што захапілі уладу у 1917 годзе і праз некаторы час утварылі марыянэтачную па сваёй сутнасьці Беларускую ССР?

Нечуваныя безпадстаўныя рэпрэсіі – фактычна генацыд беларусаў, вынішчэньне сьвядомай нацыянальнай інтэлігенцыі, вынішчэньне ў выніку гвалтоўнай калектывізацыі клясу сялянства – асноўнага вытворцы нацыянальнага валавага прадукту на гэтай зямлі, - вось што было тады ў Беларусі. А потым па камандзе з Масквы на тэрыторыі рэспублікі праводзіліся розныя эканамічныя экспэрыменты, якія, што хутка высьвятлялася, наносілі толькі шкоду. У выніку меліярацыі зьнікалі тысячы рэчкаў і азёраў, многія раёны Палесься ператварыліся ў пустэльню, парушаны агульны экалагічны баланс усёй Беларусі. Ненавукова, не на рэальных эканамічных падставах, без позірку ў перспэктыву ўлады з Масквы прымушалі будаваць на Беларусі розныя прамысловыя прадпрыемствы, адарваныя ад крыніц сыравіны і не забяспечаныя рабочай сілай і інжынерна-тэхнічнымі кадрамі (трактарны, аўтамабільны і іншыя ў Менску, нафтахімкамбінат каля Полацака, - такіх прыкладаў можна прывесьці мноства), што рана ці позна не магло не выклікаць і спад вытворчасьці, і сур'ёзныя іншыя эканамічныя праблемы. Дадамо сюды праблемы, выкліканыя разьмяшчэньнем на Беларусі велізарнейшых кантынгентаў з усіх відаў войскаў Савецкай Арміі, - усе гэтыя стартавыя пляцоўкі, ваенныя гарадкі, агромністыя тэрыторыі, застаўленыя дзеючымі і спісанымі танкамі і артылерыяй. Прычым амаль усё гэта засталося некранутым і дагэтуль, а ў Баранавічах і ў Вілейцы дзейнічаюць унікальнейшыя цэнтры супрацьпаветранай абароны і сувязі з падводнымі лодкамі ў сусьветным акіяне, што належаць Расійскай арміі і якія, вядома, стануць першымі аб'ектамі ядзерна-ракетнага ўдару, калі, ня дай Божа, пачнецца які-небудзь канфлікт…

Мне здаецца, што сёньня вельмі важна, каб моладзь на Беларусі перш за ўсё добра ведала аб усім вышэйназваным і пра многае, многае іншае. Асьветніцкія, прапагандысцкія акцыі павінны стаць галоўнымі ў дзейнасьці ўсіх беларускіх арганізацый у эміграцыі, у дзейнасьці Рады БНР. Да гэтага варта актыўна далучыць і вольную прэсу, і радыё “Свабода”, думаючы пра магчымасьці пашырэньня і радыёвяшчаньня на Беларусь і павелічэньня адпаведных друкаваных выданьняў. Безумоўна, варта шукаць магчымасьці больш дзейснага і выніковага лабіраваньня ў Кангрэсе ЗША і ў іншай амерыканскай дзяржаўнай інстытуцыі.

Думаецца, што вельмі важна сёньня і адсюль, з іміграцкіх берагоў, яшчэ і яшчэ раз кінуць заклік усім апазіцыйным партыям і групоўкам да аб'яднаньня. Такое яднаньне магло-б быць на адной сур'ёзнай падставе: вяртаньне, як першы крок, да заканадаўчых нормаў Канстытуцыі Беларусі 1994 года. Дзеля гэтага апазіцыі варта было-б забыцца на дробнае рознагалосьсе і амбіцыёзнасьць, на несупадзеньне пэўных тактычных задач, часам ужо зусім састарэлых, што выявілася, напрыклад, у гісторыі з расколам БНФ. Палітычная сытуацыя сёньня на Беларусі такая, што незвычайна карысным было-б бачыць аб'яднаньне ўсіх, хто супроць цяперашняга рэжыму. Адкіньце, паважаныя калегі, хаця-б на нейкі час, розныя тактычныя і нават практычныя падыходы, не шукайце, хто “больш падатлівы” і на каго хто зрабіў стаўку. Сёньня, на жаль, не максімалізм можа вызначыць посьпех так неабходнай на Беларусі зьмены рэжыму, а наадварот, схільнасьць да кампрамісаў, да тактычных манеўраў на адной аснове: вяртаньне да нормаў Канстытуцыі 1994 года, дэмакратычная форма дзяржаўнага кіраваньня, элементарныя грамадзянскія свабоды, рын-

кавая эканоміка. Вядома, я выказваю чыста суб'ектыўную думку, і прыму папрок, скіраваны да бэксітдрайвэра: добра быць стратэгам, бачучы бой збоку. Даруйце, людзі... Але ўсё ж... "Толькі ў сэрцы трывожным пачую...", – гэтыя і многія іншыя радкі часта ўспамінаюцца, і не магу ня думаць пра тых, хто сёньня там, на Радзіме.

Прадбачу і зусім непажаданае: хуткае магчымае падпісаньне Дагавору аб стварэньні Саюзнай дзяржавы, афіцыйнай мовай якой, згодна гэтаму дакументу, стане адна руская. Але ня толькі ў гэтым трагедыя: Беларусь страціць свой сувэрынітэт, ператворыцца ў калонію новай Расіі. Тыя, хто кіраваў гэтай краінай, нават у паслякамуністычны, так званы дэмакратычна-рынкавы пэрыяд не былі пазбаўлены вялікадзяржаўных імперскіх амбіцыяў; цяпер-жа, пасьля падпісаньня такога дагавору Расія стане імперыяй ня толькі па-сутнасьці, але і па форме.

Аляксандра Лукашэнку яшчэ можна зразумець: для яго аб'яднаньне з Расіяй ёсьць своеасаблівая панацэя, спосаб пазбавіцца наступстваў шматлікіх палітычных і эканамічных памылак і пралікаў, парушэньняў законаў, надзея спісаць запазычанасьці, магчымасьць, як гэта ён разумее, пазбавіцца гневу свайго народу, жыцьцё якога горшае і горшае з кожным днём па ўсіх паказчыках. Цяжэй растлумачыць цяперашнюю пазыцыю прэзыдэнта Расіі Барыса Ельцына. Вядома, і ў Расіі сёння – глыбокі эканамічны, фінансавы, сацыяльны, палітычны крызіс, як бы не выхваляўся пра апошнія посьпехі эканомікі новы прэм'ер-чэкіст Уладзімір Пуцін. І наўрад ці можна паправіць нешта ў расейскай палітыцы і эканоміцы аб'яднаньнем з Беларусьсю. Вядома, Расія атрымае заходні стратэгічны рубеж для супрацьстаяньня, для канфрантацыі (і ў першую чаргу ваеннай) з Захадам, якая пасьля прызначэньня Пуціна прэм'ерам рэзка актывізавалася і паскорылася.

Шкада і крыўдна, што паступова ў кіраўніцтве Расіі вялікадзяржаўная імперская ідэя стала паступова усеабдымнай; яна цалкам паглынула магчымыя кволыя альтэрнатывы. Дэмакрат, прыхільнік рэформаў Ельцын выступае цяпер у адной шарэнзе з камуністамі, з тымі, хто кліча назад, да аднаўленьня і новага СССР і таталітарнага ладу. Новая вайна ў Чачні яшчэ болей пацвердзіла, што ў Расіі па-сутнасьці ўжо адбыўся ціхі дзяржаўны пераварот, калі ўлада фактычна забылася на ідэалы дэмакратыі і рынкавых пераўтварэньняў. На хвалі гэтай імперскай плыні нікога ня здзівіць і тое, што Расія праглыне і Беларусь. Толькі рызыкну прадбачыць пасьля гэтага новае ўзмацненьне цэнтрабежных тэндэнцыяў у той жа Расіі, новыя крывавыя канфлікты: многамільённая Татарыя, напрыклад, гэта - не маленькая Чачня.

Увесь сусьвет павінен ведаць праўду аб тым, што хаваецца за магчымым стварэньнем так званай Саюзнай дзяржавы. Пра гэта трэба гаварыць на ўвесь голас, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя сродкі масавай прапаганды і агітацыі. Мы добра ведаем, якой моцнай і дзейснай была антыкамуністычная прапаганда ў гады так званай халоднай вайны. Чаму-ж з крахам камунізму і зьменай таталітарных рэжымаў у былым СССР і краінах Усходняй Еўропы сьцішыўся, фактычна зьнікнуў антыкамунізм у друку, на радыё і тэлебачаньні, у розных інфармацыйных і публіцыстычных жанрах? Чаму сёньня сталі такі бездапаможны антыкамунізм у параўнаньні з усё яшчэ жывучым камунізмам? Настаў час сур'ёзна задумацца аб гэтым і паспрабаваць узмацніць антыімперскую, антыкамуністычную прапаганду.

Нам, беларусам, эмігрантам розных пакаленьняў, што пакінулі ў розны час Бацькаўшчыну, зусім не абыякава тое, што будзе з зямлей, дзе мы нарадзіліся і расьлі, што будзе з народам, які жыве на гэтай зямлі, цярплівым і адкрытым да дружбы. У тым ліку і да традыцыйнай дружбы і ўзаемасувязям з народамі Расіі, з людзьмі гэтай краіны, з іх духоўнасьцю і культурай. Але мы рашуча адмаўляемся ад Расіі імперскай, вялікадзяржаўнай, чырвона-карычневай. Адмаўляемся ад аб'яднаньня з краінай, дзе сёньня вельмі блізкае вяртаньне да ранейшай таталітарнай дыктатуры.

# Страх

«Народная Воля»

Знаёмы прадпрымальнік, мужчына ў гадах, пры сустрэчы ў яго службовым кабінеце, калі размова зайшла аб апошніх падзеях у краіне і блізкім замежжы, нечакана выцягнуў з разеткі тэлефонны шнур. З усмешкай зазначыў: "Так будзе спакайней".

Страх! Нават на вуліцы можна пачуць трывожны шэпат аднаго з двух суразмоўцаў: "Нас могуць падслухаць — цішэй гавары". З падобнымі праявамі страху можна сутыкнуцца пры сустрэчы не толькі з прадпрымальнікамі.

Не адно пакаленне савецкіх людзей вырасла ў атмасферы пастаяннага страху ва ўмовах таталітарнай сістэмы. У часы калектывізацыі і раскулачвання селянін жыў у страху перад магчымай адпраўкай за Котлас і яго сям'і. Пазней, у страшным 37-м, ён уначы прыслухоўваўся да шораху і гукаў з вуліцы — ці не за ім прыехаў "чорны воран"? Ведаю, што некаторыя мужчыны з нашай вёскі ў той год дома не начавалі — хаваліся ў гумнах, летам — у кустоўі за аселіцай, бо ведалі, што "хапун" днём не прыязджае.

Пасля распаду СССР паявілася магчымасць доступу да дзяржаўных і часткова партыйных архіваў. Нашымі вучонымі-гісторыкамі за кароткія гады "адлігі" было выдадзена некалькі кніжак, у якіх даволі грунтоўна яны раскрылі тайны бальшавіцкіх рэпрэсій 20—50-х гадоў у БССР. Але ніхто не задаўся мэтай прасачыць, як склаўся лёс высланых на Поўнач, у Сібір, на Далёкі Усход нявольнікаў, колькі іх ацалела ад непасільнай працы на шахтах, лесапавале, колькі вярнулася да родных мясцін.

У нашу невялікую вёску адразу пасля вайны, летам 45-га, вярнуліся з-за Котласа 76-гадовы Язэп Кісялевіч з яго жонкай Марыляй, якая была на тры гады маладзей за мужа. Глянулі старыя на сваю колішнюю сядзібу — і заплакалі: там ужо ў невялікай хаціне жыў чужы чалавек, з надворных пабудоў былога гаспадара ацалела толькі гумно, хату і хлявы калгас перавёз у суседнюю вёску.

Прыехалі старыя з дзвюма рэчавымі торбамі — і толькі. Да ўсяго і не пад сваім прозвішчам, бо выехалі з "зоны", дзе пражывалі раскулачаныя з усёй Беларусі, без дазволу ўлад. Нехта дапамог аформіць ім дакументы пад чужым прозвішчам. Кісялевічы яшчэ памяталі добра той дзень у 1930 годзе, калі іх, у ліку пяці раскулачаных сем'яў, адпраўлялі ў няволю, і ніхто з вяскоўцаў не прыйшоў развітацца з нядаўнімі суседзямі. Баяліся! Каб часам не залічылі ў спіс "падкулачнікаў", а гэта магло абярнуцца для іх непрыемнасцямі, а то і высылкай.

Па вяртанні ў вёску перад Кісялевічамі паўстала сур'ёзная праблема — дзе жыць? З блізкай радні іх сустрэла ўнучка, дзевятнаццацігадовая дзяўчына — яе з Котласа ў 1930 годзе вывез родны дзядзька і яна да паўналецця выхоўвалася ў яго сям'і. Бацька яе, Пятрусь, сын Язэпа, загінуў у 1942 годзе пад Сталінградам, а маці яшчэ заставалася на чужыне адзінокай удавой.

Праявіць бы вяскоўцам спагаду да старых людзей і прапанаваць праўленню калгаса разабраць Язэпава гумно, а з бярвенняў скласці яму хаціну. Збаяліся! Яшчэ свежымі ў памяці кожнага былі візіты ў вёску "чорных воранаў" і актывістаў па раскулачванні. Праўда, праўленцы дазволілі Кісялевічам выкарыстаць пад жыллё кармацэх, дзе да вайны ў катлах варылі бульбу для размешчанай паблізу свінафермы. Язэп склаў там рускую печ, прарэзаў вокны, накрыў саломай дах. Паколькі ніякіх сродкаў (нават на хлеб надзённы) у іх з жонкай не было, то яны ускапалі пад градкі дворышча ля закінутай фермы. З таго і жылі. Дапамагала ім унучка, якая ад дзядзькі перайшла жыць у тую хацінку. Адтуль і замуж выйшла ў сваёй жа вёсцы. Старыя пражылі там аж тры гады, пакуль не вярнулася з высылкі іх нявестка, Пятрова жонка. Ёй з дачкой дазволілі выкарыстаць пад жыллё адну з дзвюх палавін хаты старэйшага сына Язэпа — Андрэя, таксама рэпрэсіраванага ў 30-я гады.

Памятаю, як па вяртанні ў вёску ў 50-я гады па дэмабілізацыі з арміі я аднойчы сустрэўся на вуліцы з хударлявым, але лёгкім на хаду дзядулям з барадкай клінам і кіёчкам у руцэ. Ён першы прывітаўся з вясковым акцэнтам "добры дзень", я адказаў узаемна... На тым і разышліся. Нашпігаваны за доўгія шэсць гадоў службы ў арміі "беседами" палітрукоў пра класавую барацьбу і "ўсёперамагаючае" вучэнне марксізму-ленінізму, я, шчыра кажучы, не праяўляў тады жадання распытаць у Язэпа пра яго жыццё-быццё на высылцы, паглядаў з недаверам — як і многія вяскоўцы нават старэйшага пакалення. Ды і сам ён хутчэй за ўсё не стаў бы тады дзяліцца перажытым і выпакутаваным. Тым болей што неўзабаве пасля вяртання да іх з Марыляй двойчы прыязджаў супрацоўнік міліцыі, правяраў дакументы, пасля чаго яны не спалі начамі. Ад страху, што нехта "застукаў" іх. Але ўсё абышлося.

...Памерлі яны ў адзін год: Язэп — на 85-м, Марыля — на 83-м годзе жыцця, і пахаваны на вясковых могілках. Там жа знайшлі апошні прытулак яшчэ чацвёра іх землякоў-выгнаннікаў, што вярнуліся пасля вайны ў вёску. Астатнія (а гэта звыш дваццаці чалавек, дарослых і дзяцей) або паўміралі ў тайзе, або загінулі ў вайну на фронце, некаторых лёс параскідваў па абшарах былога СССР і яны страцілі ўсялякія сувязі з Бацькаўшчынай. Назаўсёды — як і многія тысячы беларусаў-выгнаннікаў.

Сёння, здавалася б, калгасніку няма каго баяцца — ён ужо можа кінуць у бок улад "салёнае" слоўца крыўды, паляць з прыяцелем на кухні за чаркай старшыню калгаса, брыгадзіра. Толькі за вочы яны могуць дазволіць сабе такую смеласць. Таму што цалкам ва ўсім залежаць ад іх — як і трыццаць, сорак гадоў таму. Вось і змушаны кланяцца перад імі, каб не застацца "незаўважанымі", калі справа дойдзе да выдзялення каня, сена для каровы і г.д.

Баяцца выказаць праўдумятку ўслых не толькі вяскоўцы — страх запаўзае ў душы многіх інтэлігентаў, сельскіх і гарадскіх, асабліва тых, хто мае работу, чыноўны "статус". Некаторыя з іх апасаюцца нават выпісваць незалежныя газеты: каб потым на іх коса не глядзела "начальства", не ўлічыла ў прыхільнасці да дэмакратычных суполак. "Я куплю і ў шапіку незалежную газету", — такое чуў не раз ад знаёмых.

А калі штогод у канцы лістапада мясцовая суполка сацыял-дэмакратычнай партыі з дазволу ўлад праводзіць у гарадскім парку мітынг з нагоды чарговых угодкаў Слуцкага Збройнага чыну, з інтэлігенцыі там можна ўбачыць чалавек восем-дзесяць, больш пенсіянераў. Маладыя баяцца! Падчас з горыччу думаеш: прыйдзі сёння на Беларусь наш Майсей, ці пайшлі б з ім многія нашы інтэлігенты, не кажучы пра вяскоўцаў і рабочых-гараджан, блукаць па пустыні, каб вярнуцца да зямлі "абетаванай" — свабоднай, незалежнай, якую б паважалі і цанілі народы? І пачынаеш сумнявацца, бо вельмі хліпенькая ў нас нацыянальная ідэя, самасвядомасць, вельмі моцнай застаецца іншая традыцыя, навязаная расійска-савецкім каланіялізмам. Для выкаранення яе патрэбен не адзін год, каб адышло ў нябыт шматлікае пакаленне, што не ўяўляе сёння жыцця без "жалезнай" усёўладнай рукі.

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ,**
**пенсіянер.**
г.Слуцк.

# Без роднай мовы нельга людзьмі звацца

У дзяржаўных сродках масавай інфармацыі ідуць шалёныя наскокі на нашу дзяржаўную мову і саму дзяржаўнасць. Ці не абсурд? І робіцца гэта з боку адыёзных сіл, чыя мэта даўно зразумелая: аднаўленне былой імперыі, знявага беларускай культуры, гісторыі, мовы. Гэтыя "народныя патрыёты" заклікаюць нас да памяркоўнасці, да талерантнасці і рахманасці, а самі абражаюць нашу мову, нашы гістарычныя нацыянальныя сімвалы, ідуць на адкрытую канфрантацыю, на раскол грамадства, распальванне варожасці сярод грамадзян краіны.

Яны разумеюць: калі напачатку вынішчыць адусюль беларускую мову, то і беларускую дзяржаву знішчыць будзе проста: без нацыянальнай свядомасці хто будзе супраціўляцца паглынанню Беларусі Расіяй?. Так што, разлічваюць яны, потым замацаваць беларусаў у складзе Расійскай імперыі асаблівых цяжкасцей не будзе...

Будзе! Я думаю, што гісторыя не даруе тым, хто цяпер абражае наш нацыянальны гонар, як бы ні развіваліся падзеі ў Беларусі.

І не трэба тут арганізоўваць усялякія рэферэндумы. Лукашэнка вунь колькі правёў гэтых рэферэндумаў. І што — нашаму народу стала лепш жыць ад гэтага? Лукашэнка толькі мацаваў сваю ўладу, якую не збіраецца нікому аддаваць. Нам жа ўсім неабходна мацаваць незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Будзе жыць Беларусь, калі будзе жыць наша родная мова. Трэба толькі кожнаму выхоўваць у сабе пачуццё сапраўднага патрыятызму і высокай нацыянальнай самасвядомасці. Каб людзьмі звацца і людзьмі быць, а не бясслоўным быдлам ісці ў чужы хлеў.

**Алесь ЗАРАНОК.**
**Калінкавіцкі раён.**

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

# РАЗВАЛ БЭРЛІНСКАЕ СЬЦЯНЫ І БЕЛАРУСКАЯ РЭЧАІСНАСЬЦЬ



9-га лістапада 1999 году краіны Заходняга Сьвету адзначалі дзесяцігодзьдзе развалу Бэрлінскае сьцяны. Развал гэтае ганебнае сьцяны стаўся пачаткам распаду савецка-расейскае імпэрыі, адным з надзвычайных падзеяў 20-га стагодзьдзя, сьвятам волі людзкасьці.

Сьвяткаваньне развалу Бэрлінскае сьцяны ў афіцыйным Вашынгтоне адзачалася ў Джорджтаўнскім Унівэрсытэце 8-га лістапада. На запросіны Белага Дому, прысланыя Беларускаму Кангрэсаваму Камітэту Амэрыкі, на сьвяткаваньні прысутнічаў і аўтар гэтых радкоў. У адзначэньні гэтага вялікага дзесяцігодзьдзя ў Вашынгтоне, падчас якога выступіў прэзыдэнт Клінтан з сваёю ·праграмнаю прамоваю на міжнародныя тэмы, прымала ўдзел Дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў сп-ня Олбрайт, а таксама спэцыяльна прыехаўшыя на гэтую ўрачыстасьць, прэм'ер міністр Чэхіі Мілос Зэман і прэм'ер міністр Славаччыны Мікулас Дзурында.

Цёпла прывітаўшы сваіх эўрапейскіх гасьцей, прэзыдэнт Клінтан у сваёй прамове адзначыў, што развал ганебнае сьцяны быў вынікам таго, што ад самага пачатку захвату ўлады камуністамі ў краінах цэнтральнай і ўсходняй Эўропы, народы гэтых краінаў адмовіліся зьмірыцца з накінутай ім няволяй. Камунізм ня мог задушыць дух народаў і іхнага імкненьня да здабыцьця свабоды. Шматгадовая хлусьня рабіла адваротнае — яна падштурхоўвала людзей да дасягненьня праўды. Аднак, паводле прэзыдэнта, распад савецкай імпэрыі выклікаў новыя вымогі ў пераўтварэньні грамадзтва, асабліва ў цэнтры гэтае імпэрыі — Расеі і на Балканах. І, згадваючы Косава і Чэчню, прэзыдэнт адзначыў, што гэтыя пераўтварэньні часта не адзначаюцца прыгажосьцю дзейнасьці ўрадаў Расеі і Сэрбіі. Ён заклікаў Амэрыку і краіны, якія вызваліліся ад камуністычнага панаваньня, ня кідацца ў роспач пад уплывам гэтае непрыгажосьці, а прадоўжваць змаганьне за вызваленьне ўсіх народаў сьвету ад цемры, дыктатуры і няволі.

Дзякуючы Злучаным Штатам Амэрыкі за дапамогу ў здабыцьці волі і сапраўднае незалежнасьці, абодва прэм'ер міністры адзначылі шчырую блізасьць паміж іхнімі краінамі і народамі, якая ня толькі не паменшылася, а, наадварот, павялічылася пасьля іхнага аксамітнага падзелу.

Слухаючы гэтыя словы, міжвольна, з пэўнаю зайдрасьцю, перакідаешся думкамі да нашае гаротнае Бацькаўшчыны і яе гісторыі апошніх стагодзьдзяў.

Напрацягу ўсяго 18-га стагодзьдзя, у Рэчыпаспалітай у 1696 годзе, пасьля забароны ўжытку беларускае мовы ў дзяржаўных установах, беларускі народ апалячвалі, вынішчалі беларускую сьвядомасьць, а беларускія землі безсаромна лічылі землямі польскае дзяржавы. Такое пачуцьцё да нашага краю, як да ўсходніх ускраін Польшчы, існавала сярод многіх, калі нават ня большасьці, палякаў і толькі зараз прыняло больш памяркоўныя, нават, можна сказаць, разумныя формы адносінаў да Беларусі.

Пасьля акупацыі Беларусі Расеяй напрыканцы 18-га стагодзьдзя, пачалася інтэнсыўная русыфікацыя нашага народу і вынішчэньне нашае мовы. На Беларусь была навалілася новая бяда, якая па сутнасьці мала чым адрозьнівалася ад папярэдняй. Расейскі ўрад, як і палякі перад гэтым, не прызнаваў і да сёньняшняга дня не прызнае існаваньня нашага народу, як асобнае нацыі. Усякую праяву беларушчыны ён тлумачыў не як выяўленьне беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, а як нейкі польскі падкоп, шкодніцкую дзейнасьць палякаў — гістарычных ворагаў Расеі. Цікава, што нават паўстаньне Кастуся Каліноўскага трактавалася з боку палякаў і расейцаў амаль аднолькава. Палякі лічылі яго, а ў некаторых колах лічаць і зараз, сваім вызвольным актам, а расейцы — польскай інтрыгай. І гэта ўсё нягледзячы на тое, што Кастусь Каліноўскі да самага канца свайго кароткага жыцьця ніколі не пакідаў свае беларускае мовы і народу, што тысячы беларусаў-удзельнікаў паўстаньня 1863 году былі вывезены ў Сібір, што інтэлігенцыя Беларусі таго часу была разагнаная па ўсёй імпэрыі, што такія выдатныя яе людзі, як Францішак Багушэвіч, павінны былі хавацца ў чужых мясьцінах, каб ня трапіць у рукі мураўёўцаў. На месца вывезеных у Сібір беларускіх паўстанцаў і іхных аднадумцаў, расейскі ўрад запаланяў Беларусь сваімі, прывезенымі з цэнтру Расеі, настаўнікамі, судзьдзямі, сьвятарамі, паліцыянтамі і адміністратарамі ўсіх рангаў.

Цытуючы расейскі часопіс "Вестник Западной России", выдаўніцтва якога пасьля задушэньня паўстаньня 1863 году было, дарэчы, пераведзена з Кіева ў Вільню (пэўна-ж для "асьветніцкіх мэтаў"), Аляксандар Цьвікевіч у сваёй працы "Западно-Руссизм" падае наступнае: "У мэтах фактычнага абрусеньня заходняга краю Расеі, расейскі ўрад выдаў цэлы шэраг пастановаў, накіраваных на тое, каб узмацніць тут расейскую земляўласнасьць. ...Цяпер шмат якія рускія ня хочуць заставацца на сталае жыхарства ў Заходнім Краі, між іншым, таму, што няма тут расейскага грамадзтва, няма дзе адпачыць душой. Гэтая непрыемнасьць сама сабой зьнікла-б, калі-б край засяліўся расейскімі земляўласьнікамі, і, як-бы па знаку чароўнае рукі, хутка адбылося-б жаданае абрусеньне» (Спадчына, Мн. 4, 1991, ст. 49).

Русыфікацыя Беларусі не прайшла "як-бы па знаку чароўнае рукі", але, хоць і павольней, Беларусь была ператворана ў новую, на гэты раз заходнюю, ускраіну, быў зроблены замах на нашую культурную спадчыну, было забаронена беларускае друкаванае слова, зроблена ўсё тое, што робяць сёньня нашыя вонкавыя і ўнутраныя ворагі беларушчыны.

Асабліва жорсткім было стаўленьне Расеі да Беларусі падчас савецкага панаваньня. Напрацягу 73-х гадоў беларускі народ разьдзялялі, руйнавалі і зьневажалі яго сьвятыні, масава высялялі і вынішчалі яго сялянства і красу народу — беларускую інтэлігенцыю, забаранялі адчыняць рот нашаму народу, пазбаўляючы яго роднае мовы і школы, запаланялі Беларусь масавымі магіламі яе лепшых сыноў і, нарэшце, стварылі Чарнобыль — атруцілі нашых людзей і зьнішчылі амаль чацьвертую частку зямлі беларускай. Усе бядоты павязаныя з Чарнобылем трактуюцца Расеяю так, як быццам-бы толькі стыхія ў гэтым вінаватая. Дзе і калі расейскі ўрад выказаў Беларусі спачуваньне за Чарнобыль, ня кажучы ўжо пра кампэнсацыю ахвярам пацярпеўшае краіны?

Вядомы тлумачальнік палітыкі сярэдневяковай Італіі Ніколо Мікіявэлі меў рэпутацыю цыніка, бо ён досыць адчынена гаварыў пра палітычныя матывы і мэты. Макіявэлі, аднак, не ўсхваляў ашуканства ў людзкіх адносінах так сыстэматычна, як гэта рабілі камуністычныя лідэры. Ленін, гэты кумір нелегітымнага прэзыдэнта Беларусі, ніколі не стрымоўваўся гаварыць няпраўду, калі бачыў, што хлусьня прыносіць больш эфэкт для справы ягонае бальшавіцкае рэвалюцыі. Ленін, чыя статуя стаіць яшчэ і сёньня перад Домам ураду на нашай Бацькаўшчыне, быў першым у Эўропе, хто пачаў масавае вынішчэньне людзей, бо-ж гэта ён быў стваральнікам у Расеі палітыкі рабаўнічага ваеннага камунізму, вынішчальнага чырвонага тэрору і чэкісцкіх лягероў.

Ад самага пачатку свайго ганебнага прэзыдэнцтва Лукашэнка падкрэсьліваў, што ён ня толькі на словах, але і ў сваіх дзеяньнях робіць зварот да ленінскіх прынцыпаў у дзяржаўным кіраўніцтве Беларусяй. А гэта былі прынцыпы, на якіх улада ў савецка-расейскай імпэрыі напрацягу ўсіх 74-х пасьлярэвалюцыйных гадоў грунтавалася на ашуканстве, гвалце і тэроры.

Удумваючыся ў беларускую сучасную рэчаіснасьць і слухаючы прамовы прадстаўнікоў шчасьлівых чэхаў і славацкага народаў на сьвяткаваньні развалу ганебнае Бэрлінскае сьцяны, вострыя боль працінае душу за той нічым незаслужаны жах, які перажыла і далей перажывае Беларусь і яе народ. Дзе і калі ў сьвеце было такое, каб людзі, жывучы дома, у сваёй краіне, зайдросьцілі долі эмігрантаў, якія пакінулі свой родны кут, каб захаваць сваю Бацькаўшчыну на чужыне? Такое пачуцьцё [illegible] зайдрасьці выказаў наш паэт Алесь Пісарык у сваім вершы "Родныя Гнёзды", у якім ён адчыняе сваю і свае Бацькаўшчыны пакрыўджаныя душы, пішучы вось гэтыя радкі да сваіх братоў за акіянам:

Карэньне роду нашага пасеклі
Віхуры веку,
Дух не замялі!
Вы на чужыне не зазналі бедаў
Такіх, як тут — на здаўленай зямлі.
Захопніцкім, каваным крута ботам
Растоптвалі сьвятыні на вачах,
Паскудзілі душу хлусьнёю...
Потым —
Гімн з пашчы крыважэрнае гучаў.
А ты, мой брат, радзіўся на чужыне,
Дзе сонца не захмарвала туга
І бацяны анёламі кружылі
У недаспаных, казачных лугах.
Ты мовы маці не цураўся з роду,
Мяне-ж — за слова роднае пяклі
Насьмешкамі, што выйшаў я з народу,
Як вешальнік з надрэзанай пятлі.

Робячы гэты кароткі агляд беларускае рэчаіснасьці, хочацца верыць, што нягледзячы на ўсе расейска-лукашэнкаўскія аб'ядпальныя захады, Беларусь ня згубіць свае незалежнасьці, што яна разваліць ганебную Бэрлінскую сьцяну, якую пабудавалі расейска-лукашэнкаўскія інтэгратары уздоўж беларускае мяжы паміж Беларусяй і вольнай, цывілізаванай Эўропай.

Спадзяемся, што не зьвяліся ў Беларусі яшчэ людзі, патрыёты свае Бацькаўшчыны, якія вераць у перамогу праўды і не пакідаюць абароны нацыі і волі свайго народу. Наш народ зашмат перацярпеў, каб зараз, дачакаўшыся рэальнае магчымасьці стаць незалежным, выпусьціў з рук гэтую магчымасьць.

Дык няхай зьвіняць званы свабоды з заходу на ўсход і з поўначы на поўдзень ва ўсёй шматпакутнай Беларусі!. Словамі нашага выдатнага Якуба Коласа, якога народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч гэтак трапна назваў настаўнікам нацыі, мы клічам цябе, Беларусь, да новага ўздыму, да шчасьця народнага:

Змоўкні ты, сьціхні песьня пакуты,
Заварушыся наш край!
Люд беларускі, рві свае путы!
Новую песьню сьпявай!

*—*—*—*—*

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ

# ТЭРАРЫЗМ ЦІ БАРАЦЬБА ЗА ВОЛЮ НАЦЫІ?

### (Аналітычныя нататкі)

Напрацягу 1999 году расейскі прэзыдэнт Барыс Ельцын зьмяніў некалькі прэм'ер міністраў ад Кірыенкі да Чарнамырдзіна, Прымакова, Сьцяпашына і, нарэшце, да Уладзімера Пуціна. Усе гэтыя перамены рабіліся пад выглядам таго, што расейскі прэзыдэнт шукаў усё лепшага і лепшага эканамічнага рэфарматара. На самай справе ўсё гэта было ня так, бо, акрамя Чарнамырдзіна, ніхто з новапрызначаных прэм'ераў ніколі ніякім экспэртам ў эканоміцы ня быў і ў гэтай галіне ніколі не працаваў.

Напрацягу апошніх трох гадоў Ельцын таксама мала цікавіўся эканамічнымі рэформамі. Ягоная ўся ўвага была скіраваная на сваё ўласнае выжываньне. У 1996 годзе Ельцын меў апэрацыю на сэрца і, як паведамлялася, пачаў быў сур'ёзна думаць пра выхад на пэнсію ў 2000-м годзе, тым больш, што, пры ягонай катастрафічна нізкай папулярнасьці ў краіне, перамога ў прэзыдэнцкіх выбарах у тым годзе, для яго рабілася нерэальнай. У дадатак — і над гэтым ён, напэўна, задумваўся — расейскі прэзыдэнт, пачаў баяцца, што, выйшаўшы на пэнсію, ён гэтай пэнсіяй ня зможа пакарыстацца. Справа ў тым, што ў Расеі не было традыцыі мірнае зьмены ўлады, а варожыя да яго сілы ў расейскай Думе нагэтулькі актывізаваліся, што пагражалі адкліканьнем яго з прэзыдэнцкае пасады, гэтак званым імпічмэнтам, яшчэ нават далёка перад выбарамі. Пасьля таго, як расейскі прэзыдэнт публічна абвясьціў, што ён ня будзе кандыдатам у прэзыдэнты, яго не магла не пакідаць думка,

што выйшаўшы на пэнсію, яго могуць прыцягнуць да адказнасьці, прышыўшы яму здраду інтарэсаў Расеі. Першым вестуном разгортваньня такіх магчымых непрыемных падзеяў для Ельцына быў пачатак працэсу імпічмэнту ў расейскай Думе ў мінулым траўні. Супроць яго высоўваліся тры абвінавачваньні развалу расейскай эканомікі і два галоўных, палітычных абвінавачваньні, якія тычыліся развалу Савецкага Саюзу і зьневажальнае, для расейскага войска і Расеі, страты Чэчні.

Як і трэба было чакаць, эканамічныя пытаньні, якія прывялі да бязладзьдзя гаспадаркі ў краіне, у Думе амаль не разглядаліся, бо напрацягу ўсяго існаваньня імпэрыі, расейскі імпэрскі гонар, а не дабрабыт уласнага насельніцтва, быў галоўным пунктам зацікаўленьня расейскае эліты ўсіх часоў.

Дык вось, частыя зьмены прэм'ер міністраў зводзіліся да адшуканьня рашучага, хітрага і, зразумела, адданага Ельцыну прэм'ера, які змогбы замяніць расейскага прэзыдэнта на ягонай пасадзе і, разам з тым, гарантаваць безклапотны статус будучага прэзыдэнта-пэнсіянера. Карацей кажучы, шукаліся людзі, якія неабавязкова павінны былі быць зацікаўленыя эканамічнымі праблемамі, бо для Ельцына гэтыя праблемы не былі ўжо ключавымі. Пра іх толькі гаварылася, як кажуць, для адводу вачэй падчас чарговага прызначэньня прэм'ера. Расейскі прэзыдэнт шукаў кандыдата на пасаду прэм'ер міністра сярод найбольш уплывовых, гэтак званых сілавых дзяржаўных структураў таких, як КГБ альбо Міністэрства ўнутраных справаў, да якога належыць ОМОН — спэцыяльная міліцыя, якая зрабілася вядомаю ў народзе сваімі функцыямі "цягнуць і разганяць".

Такім чынам, пасьля Чарнамырдзіна і Кірыенкі, на пасаду прэм'ера быў прызначаны "непахісны прадстаўнік ідэалаў КГБ" Аўген Прымакоў. Флегматычныя паводзіны новага міністра і яго блізасьць да ворагаў Ельцына ў расейскай Думе, прымусілі расейскага прэзыдэнта зьмяніць стаўку і выбраць малодшага векам Сяргея Сьцяпашына, міністра ўнутраных справаў Расеі. Сьцяпашын, не зразумеўшы, мабыць, свае галоўнае місіі ахоўніка жыцьцёвых інтарэсаў прэзыдэнта, узяў сваё прызначэньне ўсур'ёз і пачаў падыймаць расейскае прэм'ерства да статусу нейкай такой асабліва рэспэктабельнай дзяржаўнай установы. Нам здаецца, што ў выніку гэтага, Сьцяпашын, нават добра не абсядзеўшы свайго прэм'ерскага крэсла, быў звольнены і на яго месца быў прызначаны энэргічны кіраўнік былога КГБ Уладзімер Пуцін. Каб у гэтага кандыдата не было ніякага сумненьня наконт таго, што ягонае прызначэньне ёсьць выключна палітычным крокам, які патрэбны больш для прэзыдэнта, чым для краіны, якою гэты прэзыдэнт кіруе, Ельцын адразу публічна заявіў, што Пуцін — гэта дастойны спадкаемец прэзыдэнта, кандыдатуру якога ён, прэзыдэнт, будзе падтрымоўваць на выбарах на пасаду прэзыдэнта Расеі ў 2000-м годзе. І Пуцін усё выдатна зразумеў, што ён павінен рабіць і, галоўнае, што ад яго чакаецца...

Праз адзін-два месяцы, у пачатку мінулага верасьня ўзьняўся ў Расеі саромны для ўраду скандал, які быў выкліканы завалам эканамічных рэформаў, грашовым махлярствам, у які, нібыта, былі ўцягнутыя швайцарскія і нью-ёрскія банкі, ды агульнай карупцыяй у расейскіх дзяржаўных урадавых структурах. Паводзіны расейскага ўраду крытыкаваліся ня толькі на Захадзе, але і ў самой Расеі. У ліквідацыі гэтага скандалу быў, безумоўна, найперш зацікаўлены расейскі прэзыдэнт.

І вось тут, нам здаецца, яму вельмі спатрэбіўся новы прэм'ер міністр Уладзімер Пуцін, чалавек які, напэўна, мае вельмі добрую кэгэбэўскую адукацыю ў справах пачынаньня і задушэньня цёмных, заблытаных працэсаў, якія тычацца людзкога жыцьця і сьмерці.

У звычайных умовах трэба, бадай, быць вялікім цынікам, каб казаць, як гэта робяць некаторыя канспірацыйныя тэарэтыкі, што расейскі ўрад і ў прыватнасьці прэм'ер міністр гэтага ўраду, стварыў, дзеля сваіх цёмных разьлікаў, надзвычайнае становішча ў мінулым верасьні, узарваўшы 4 жылыя будынкі ў Расеі, у якіх загінула каля трохсот чалавек. Аднак, цынічна гэта ці не, а ўсё-ж цікава, чаму ўсё гэта сталася ў той самы час, калі, шалёна аблаяны расейскім урадам Шаміль Басаеў, кіраўнік чачэнскіх узброеных адзінак, пайшоў быў дапамагаць сваім дагэстанскім братам-паўстанцам вызваліцца ад расейскае акупацыі? Чаму Пуцін адразу-ж не даючы абсалютна ніякіх довадаў, абвінавациў гэтак званых чачэнскіх тэрарыстаў у дзікім забойстве трохсот жанчын і дзяцей, мірных жыхароў "мірнае" Расеі?

У аўтара гэтых радкоў, які сябе да цынікаў не залічае, неабгрунтованыя абвінавачваньні расейскага прэм'ера міжвольна выклікалі насьцярожанасьць і, нават, глыбокае падазрэньне. І сапраўды, чаму ўзрывы будынкаў і расейскія абвінавачваньні зьбегліся па часе з актыўнасьцю чачэнцаў у Дагэстане? Чаму Басаеў, чалавек, які ніколі ня толькі не адмаўляўся, а наадварот, заўсёды ганарыўся сваімі хоць і адважнымі, але мяжуючымі з брутальнасьцю актамі, на гэты раз катэгарычна адкідае расейскія абвінавачваньні? Можа сапраўды трэба зьвярнуць увагу на цынізм і шукаць яго ў дзейнасьці... расейскага прэм'ера?

Зразумела, выказваючы такія падазрэньні трэба кіравацца ня толькі інтуіцыяй, але прааналізаваць хто робіць абвінавачваньні ў тэрарызьме і да якое дзяржаўнае структуры ён належыць.

Дык вось, Уладзімер Пуцін перад сваім прэм'ерствам быў кіраўніком КГБ, арганізацыі, якая нічым не зьмянілася, хіба што толькі сваімі назвамі, пачынаючы ад ГПУ, НКВД і канчаючы цяперашняю ФСБ (Фэдэральная Служба Бясьпекі). (Дарэчы, у лукашэнкаўскае Беларусі нават і назва засталася старая). Мяркуючы па здымках па тэлебачаньні, Пуцін — гэта чалавек рашучы і энэргічны, які нічым не ўступае сваім папярэднікам такім, як Бэрыю, альбо нейкаму там Кручкову.

Пуцін кіраваў тою самаю арганізацыяй, якая вывозіла на сьмерць беларускіх сялянаў у халодную сібірскую тайгу і тундру; якая катавала нашых паэтаў, пісьменьнікаў і ўсіх гэтак званых нацдэмаў за сяброўства ў неіснуючым Саюзе Вызваленьня Беларусі; якая расстрэльвала польскіх палонных афіцэраў у Катыні; якая, прадаючы збожжа замяжой, марыла голадам народ Украіны, які быў нічым невінаватым перад матухнай Расеяй; якая зганіўшы татараў, калмыкаў і гэтых самых-жа чачэнцаў, іх жанок і дзяцей, за выдуманае супрацоўніцтва з нацызмам, масава вывозіла гэтыя народы з сваіх краёў з мэтаю іх поўнага вынішчэньня. Усіх гэтых злачынстваў не пералічыш. Вось хто, пад выглядам барацьбы з тэрарызмам, паліць і руйнуе чачэнскія вёскі, няміласьліва забівае старых і малых, назаўсёды, так-бы мовіць, "вызваляе" гэтых апошніх ад уплыву барацьбітоў за волю Чэчні, абразьліва абзываючы іх бандытамі і баевікамі.

Тым, хто, не пагадзіўшыся з такімі поглядамі, хоча, прыпусьцім, запярэчыць і сказаць, што цяпер іншы час, што, прайшоўшы перабудовачны шлях, Расея перамянілася, дык, паўтарыўшы яшчэ раз вышэйпададзеную праўду, трэба, мабыць, зьвярнуць іхную ўвагу на расейскую цяперашнюю рэчаіснасьць і гэтым паказаць, што перабудова ў Расеі зрабіла яшчэ вельмі мала. Яна ніяк не закранула дзейнасьці ФСБ, бо чаму-ж тады гэтая арганізацыя ня хоча ачысьціцца ад старога дзікунскага багажу, чаму яшчэ і зараз яна гэтак упарта і старанна ахоўвае архівы НКВД і КГБ ад зацікаўленага вока сваі-жа грамадзянаў?

Расейскае войска ізноў навалілася на Чэчню. Пачалося забойства не тэрарыстаў, а вынішчэньне чачэнскага народу. З усіх бакоў вялічэзная вайсковая машына агнём і мячом нішчыць чачэнскія вёскі, забівае старых, жанчынаў і дзяцей, паўтарае тое, што Расея рабіла ў папярэдняй вайне 1994 - 1996 гадоў, калі было вынішчана звыш 50-ці тысяч чачэнскіх жыхароў, спалена і зруйнавана тысячы чачэнскіх хатаў і будынкаў. І ўсё гэта, як і цяпер, рабілася пад выглядам барацьбы супроць тэрарыстаў.

Трэба прызнаць, што на сёньняшні дзень, расейскі дзяржаўны тэраризм мае посьпех, да якога імкнуліся Пуцін і ягоны прэзыдэнт — апякун. Вайна ў Чэчні адразу поўнасьцю спыніла крытыку расейскага ўраду і створанага ім дзяржаўнага бязладзьдзя, падняла аўтарытэт і папулярнасьць Уладзімера Пуціна, чалавека яшчэ нядаўна малавядомага сярод расейскае эліты і сярод, нібы загіпнатызаванага фанатычным нацыяналізмам, расейскага народу. Паведамляецца, што такое ўсенароднае згоды Расея бадай ня бачыла ад канца Другое сусьветнае вайны.

У першым тыдні лістапада, пад воплескі журналістаў, Пуцін заявіў, што ён выставіць сваю кандыдатуру на пасаду прэзыдэнта Расеі ў 2000-м годзе. Вось з якою дакладнасьцю збываюцца пляны цёмных разьлікаў, як Расея намагаецца вярнуць у сваю імпэрыю згубленую ў 1996 годзе чужую для яе чачэнскую зямлю і яе гаротны народ.

Вайна за свабоду чачэнскага народу доўжыцца ўжо звыш 160-ці гадоў. У канцы 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя, пасьля задушэньня вызвольнай барацьбы чаркесаў — народаў заходняга Каўказу, барацьба ісламскіх народаў усходняга Каўказу — дагэстанцаў і чачэнцаў — працягвалася перш пад кіраўніцтвам Касі Мулла, які аб'явіў сьвяшчэнную вайну супроць Расеі, а пасьля ягонага забойства расейскімі войскамі, вызвольную барацьбу напрацягу амаль 30-ці гадоў вёў яго сын Шаміль.

У 20-м стагодзьдзі вызвольнаю барацьбою Чэчні кіраваў гэнерал Джохар Дудаеў, які таксама загінуў ад рукі акупантаў.

Шкода, што пасьля чачэнскае перамогі ў 1996 годзе не было блізкага яднаньня паміж Шамілем Басаевым і Салманам Радуевым, зяцем Дудаева, з аднаго боку і выбраным прэзыдэнтам Чэчні Асланам Масхадавым, з другога.

Нягледзячы на менш жорсткае стаўленьне чачэнскага прэзыдэнта да Расеі, Масхадаў нічога добрага ад расейскага кіраўніцтва не заслужыў. Расейскі прэм'ер, публічна абражаючы чачэнскага прэзыдэнта, залічае таксама і Масхадава да гэтак званых чачэнскіх бандытаў.

Расейскі паэт-рамантык Міхаіл Лермантаў, які ўдзельнічаў у заваёўніцкай вайне Расеі супроць народаў Каўказу, ставіўся досыць прыхільна да волі гэтых народаў. Вось як характэрызаваў жыцьцё і паводзіны чачэнскага народу гэты паэт у адным з сваіх вершаў паэмы "Ізмаіл-Бэй", перакладзеным аўтарам гэтых радкоў на беларускую мову:

І дзікія цясьнінаў тых плямёны —  
Ім Бог — свабода, а войны ім — законы.  
У калыханках-песьнях тых людзей  
Расейскімі імёнамі палохаюць дзяцей.  
Там ворага забіць ня лічыцца злачынствам,  
Там дорага сяброўства, а даражэй шчэ помста.  
Там за дабро — дабром, за кроў — крывёю,  
Да ворагаў нянавісьць, там над іхнаю зямлёю.

Некаторыя (160-ці гадовай даўнасьці) выказваньні Лермантава нагэтулькі яскравыя, нагэтулькі падобныя да цяперашніх абставінаў, што, чытаючы іх, чалавеку здаецца, што перадаюцца сёньняшнія апошнія навіны з падзеяў на чачэнскай прыгнечанай зямлі:

**Горят аулы, нет у них защиты,**  
**Врагом сыны отечества разбиты,**  
**И зарево, как вечный метеор,**  
**Играя в облаках, пугает взор.**  
**Как хищий зверь в смиренную обитель,**  
**Врывается штыками победитель,**  
**Он убивает старцев и детей,**  
**Невинных дев и юнных матерей...**

Ня хочацца верыць, што чачэнскі народ ня вытрымае. Не! Такі гэройскі народ ніколі не загіне!



Сакрат ЯНОВІЧ (Беласточчына)

# ТЫСЯЧА ГАДОЎ БЕЛАРУСІ



На тым мейсцы Зямлі — аказалася— магла ўзьнікнуць толькі Беларусь і нішто іншае. У моц безьлічы ўмоў і гісторыі гэтага кутка Эўропы. Гэта праўда, што кожная сытуацыя характарызуецца мноствам варыянтаў яе, але Час выбірае адзін з іх. Аптымальны, як плынь рэчкі.

Банальна вядома, што спачатку была ўлада; нацыя потым. Ніколі наадварот. Улада не ўзьнікае па чыёйсьці фанабэрыі. Яна ёсьць грамадзкай патрэбаю. Таму давайце паважліва адносіцца да згадкі старажытнага летапісца, што Рагвалод, наш першы вядомы князь, прыбыў з-за мора. Не як заваёўнік. Тадышнія славяне запрашалі варагаў-вікінгаў са Скандынавіі дзеля, так сказаць, паліцэйскай службы. Такім чынам паявілася ва ўсходніх славянаў дынастыя Рурыкавічаў, апошні з якіх, Іван Жахлівы, пакінуў трагічную памяць.

Рагвалод княжыў на Полацаку. І ведаем, што каля 980 году зьнішчожыў яго Ўладзімер з Ноўгараду (Вялікага). Згвалтаваў дачку нябожчыка Рагнеду, прымушаючы яе стаць жонкаю. Можна сабе ўявіць тую макабру, публічнае гвалтаваньне ганарыстай дзяўчыны побач яшчэ цёплых трупаў бацькоў і малых родавічаў! Ведаўма, аднак, што гэта не была вайна аднаго племя супроць другога, але крываві канфлікт паміж мацнейшай дружынаю вікінгаў Уладзімера і, відавочна, слабейшым вікінгам Рагвалодам (Рыквальдам?). Іх унутраная разьня. У абедзьвюх дружынах славяне зусім не пераважалі (ваявала ў іх нямала і весяў-уграў, прашчураў цяперашніх эстонцаў ды фінаў).

Шкада ўвагі шаноўных чытачоў на паўторы, вядомых нават школярам пасьлейшых падзеяў, а давайце паставім сабе пытаньне, на выгляд дзіўнае, менавіта: чаму Рагвалод быў у Полацаку ды Ўладзімер у Ноўгарадзе? Гэта што — не было больш гарадоў-местаў? Былі, і то даволі многа, але-ж аніводзін з іх ня быў ім раўня, у значаньні матэрыяльнага патэнцыялу перш за ўсё. Меншыя ўсё. Тады.

Адсюль высновa, што Полацак падначаліў быў сабе акрэсьленую тэрыторыю, а Ноўгарад Вялікі сабе. Пры чым не маглі яны існаваць, не перашкаджаючы адзін аднаму, бо засеслі на тым самым кантынэнтальным шляху тавараў "з варагаў у грэкі", які фінальна кантраляваў Кіеў. Таму Ўладзімер, рушыўшы на поўдзень мусіў растаптаць Полацак і цьвёрда асесьці ў кіеўскіх харомах. І, каб ня быць адтуль выгнаным, заручыцца падтрымкаю імпэрскага Канстантынопаля над Чорным морам, што непазьбежна вяло да хрысьціянізацыі (як-жа сябраваць імператару з чортавым язычнікам?). Натуральна, што праваслаўе, нелітасьціва пашыранае варагскім мячом уздоўж цэлага шляху, сягнула ажно ў цэнтральныя рэгіёны сучаснай Швэцыі, адкуль выводзілася кадра скандынаўскіх русаў, назваўшых басэйн Дняпра Русляндам, Зямлёю Рускаю. Індэнтычна ў сваёй сутнасьці фармавалася і Польшча, на Бурштынавым Шляху з поўдня на поўнач, уздоўж Віслы. Засеўшыя на яе сярэдзіне паляне мусілі зваяваць вісьлянаў з іх Кракавам у вярхоўі, бо без гэтага не было-б лепшага жыцьця ў Паляніі (па-латыні: Палёнія).

Полацак вярнуўся ў незалежнасьць ня столькі ад амбіцыі нашчадкаў аганьбаванай Рагнеды, колькі менавіта ў моц аб'ектыўных фактараў. Будучы надалей магутным на тыя часы эканамічным цэнтрам з уласным па Дзьвіне выйсьцем у Балтыку ды ладзячы гандаль з Захадам, натуральна не гарэў жаданьнем дзяліцца сваім багацьцем з бядненючым Кіевам, які паступова страчваў апору ў візантыйскім Другім Рыме, г. зн. Канстантынопалі, атакаваным туркамі-сельджукамі ды, урэшце, і лаціньнікамі. Тады і Ноўгарад Вялікі пайшоў памалу сваёй дарогаю, а ў слыннае княжаньне Аляксандра Неўскага спакойна глядзеў, як палыхае гэтая "мать русских городов", рабаваная татара-манголамі. Не яго, Аляксандра, прападаў там "бізнэс". Мы часта допускаем памылку, гледзячы на даўнія эпохі цяперашнімі вачыма. У дзесятым, ці нават у трынаццатым стагодзьдзях не існавалі яшчэ ні беларусы, ні рускія, ані ўкраінцы або палякі. Ад Одры з Эльбаю і да Дняпра з Дзьвіною ды ад Дунаю да Балтыцкае Памэраніі гаварылі людкове прыблізна адною моваю. Асобныя пачалі крышталізавацца — на базе сталічных у паасобных дзяржавах дыялектаў — толькі напрыканцы трынаццатага стагодзьдзя і цалкам выразна ў чатырнаццатае. Нехта запытае, чаму не раней. Удумны адказ будзе такі: бо ўжо ўсталяваліся асобныя дзяржавы, што раўназначнае зьнікненьню агульнаславянскага лёсу; пайшоў распад на розныя тэмпы цывілізацыйнага разьвіцьця, розныя пэрспэктывы, і, пасьлядоўна, супярэчнасьці інтарэсаў. Дэталі таго шукайма ў гісторыі Польшчы, Беларусі, Расеі, і г. д. Нішто ня ўпала з нябёсаў, усенька ёсьць прадукт адвечнага і штораз іншага, чым у суседзяў, быцьця. Тысяча гадоў назад беларусаў не было, але нашай цяпер беларускай гісторыяй ёсьць усё тое, што склалася на ўзьнікненьне нас. Як і не было палякаў з чэхамі, штораз даходзіла тамака да стварэньня аднае дзяржавы, а польская зараз адміністрацыйная герархія ды яе назовы мае чэскі радавод, аб чым ведаюць спэцыялісты-гісторыкі. Можна сказаць: палякі ў тую пару гаварылі, як чэхі, а чэхі, як палякі... Перакладчыкаў не патрабавалі, арыентацыйна кажучы: да пэрыяду фармаваньня Вялікага княства Літоўскага вакол Наваградка.

Параўнаньні з палякамі шмат-што тлумачыць нам, найперш у функцыянаваньні гістарычных мэханізмаў, у выніку якіх вось разважаем пра тысячу гадоў Беларусі.

Заўсёды магло быць іначай, на кожным этапе гісторыі. Магло ня быць Беларусі, як і магло ня быць Польшчы. Або Расеі. Як і мог не нарадзіцца я сам, Сакрат; бацькоў не выбіраюць. Можна цікавіцца варыянтамі сытуацыі, але ня больш, чымсьці ў сэньсе дапамогі ў зразуменьні галоўнага. У зразуменьні фактаў, бо гэта яны вырашылі пра тое, што было і што ёсьць. Факты, якія маглі быць, але іх не было, нас не цікавяць. Памятаючы, што ўсяму пачатак улада, і ведаючы адначасна, што ня мае шанцаў разгарнуцца яна там, кудою ходзяць мацнейшыя за яе, запынім сваю далейшую ўвагу на Наваградку. Не таму, што адтуль бралася будучае Вялікае княства Літоўскае, але таму, чаму яно бралася менавіта адтуль, замест, здавалася-б, з Полацаку. Гаворым цяпер пра злом стагодзьдзяў трынаццатага з чатырнаццатым.

Наваградзкая Зямля ў адрозьненьне ад Полацкай Зямлі ўяўляла сабою ня так заможную тэрыторыю, але затое ціхую тады. На поўдні, за багнамі Палесься, бушавала коньніца ад мангольскага Вялікага Стэпу, якая натуральна кепска пачувалася ў дрымучых лясох. Ёй трэба было ўкраінскай прасторы, стэпавай Сандоміршчыны і Вугоршчыны падунайскай, ейнае пушты. На ўсходзе адбівалася Маскоўшчына, брыняючы татарскай хітрасьцяй. На поўначы наступаў на Полаччыну Нямецкі Дом крыжаносцаў, блякуючы найперш вусьце Дзьвіны ў мора, кладучы такім чынам сваю лапу на стругі крывіцкіх купцоў. На захадзе тыя-ж рыцары гомталі агнём ды мячом непадатлівых прусаў, ігнаруючы аслабелую міжсобнаю дзяльбою Польскую Каруну. Наваградчына затым спакойна гадавала ўласную ўладу, чакаючы Гедыміна, бацькі неперамoжнага пасьля Альгерда. Новая дзяржава робіцца менавіта неперaможнай, калі даходзіць у ёй да саюзу мяча з золатам. У гэтым выпадку Наваградка з Полацакам. Застаецца праблема палітычнага цэнтру, сталіцы. Чаму перанесена яе ў Вільню? Добрае пытаньне, бо дае нагоду патлумачыць "азы" вялікае палітыкі. Эфэктыўны саюз двух немагчымы на далёкую пэрспэктыву, калі дамінавацьме ў ім адзін з іх. Як было ўчыніць роўнымі самім сабе Наваградак з Полацакам? Адказ сам напрошваецца: перабрацца вялікаму князю ў іншае мейсца, ва ўсіх адносінах нейтральнае, каб не даваць прычыны для сваркі, хто з двух важнейшы.

Значыць: Вільня. У сувязі з тым зручная нагода заўважыць, што эпоха варагаў даўно закончылася і ўзамен ім зьявілася літва, гэтак-жа языцкія наёмнікі, якіх ахвотна закантрактоўвалі места-гарады, Наваградак, Полацак і Пскоў; служыла літва ў Ноўгарадзе Вялікім. Наёмнікам падабалася жыць у цывілізаваных умовах, жаніліся і хрысьціліся, асімляваліся. Як і варагі раней.

Незайздросная ў эканамічным пляне Вільня ў тую пару мела некалькі іншых пераваг думаючаму вялікаму гаспадару. Стратэгічна знаходзілася больш-менш у аднольквай адлегласьці да Наваградка і да Полацака. Быццам пасярэдзіне. А, можа быць, болей істотнай была патрэба інтэграваць у адзінае Княства неславянскіх пабрацімаў літвы і цераз іх валасьці прабіцца над Балтыку, у вакольлі дэльты Нёмана, абмінаючы нямецкую Рыгу. Марскі гандаль даваў найбольш грашакоў, таму крыжаносцы анэктавалі балтыцкія берагоўі, занадта не паглыбляючыся ў сустрэчныя землі, трактуючы іх як каляніяльнае заплечча дзеля пажаданай на Захадзе сыравіны. Пры чым язычнікі як язычнікі, усё бунтавалі і было прасьцей пацыфікаваць тую Жэмайтыю, стоячы гарнізонам у Вільні, зусім побач. Іншыя манархі ў Эўропе гэтак-жа рабілі, пашыраючы сваё валадарства. Паляне перавялі сталіцу з Гнезна ў Познань, калі захапілі тое вакольле, а даканаўшы вісьлянаў, асталяваліся ў Кракаве. Інкарпарацыя Мазоўша закончыла вандроўкі польскіх сталіц, у Варшаве. Нішто так не інтэгруе, як сталіца якраз. Дае яна карысьць тубыльцам большую, чым мелі яны дагэтуль. Ацішае, пераідэнтыфікоўвае.

Вялікае княства Літоўскае стварылі неславянскія язычнікі. Літву ахрысьціў ня Вітаўт, а Ягайла, без чаго ня змог-бы ён выйсьці ў эўрапейскую палітыку. Забягаючы яшчэ далей наперад — Вітаўт, будучы ў цяні Ягайлы, ня меў такога прымусу і вольна трактаваў свае хрышчэньні. У залежнасьці ад палітычнай патрэбы: каб атрымаць дапамогу ад крыжакоў, стаў каталікам, пасьля праваслаўным, і зноў каталікам, калі пабачыў шанц на ўласную каранацыю (Кракаў перaняў карону, што везьлі ад папы рымскага, і ляхі разьбілі яе аб камень). Ягайлу палякі, зрэшты, ніколі не паверылі, што ён стаў хрысьціянінам. Будучы ахрышчаным ажно ў сорак. А перад гэтым — будучы праваслаўным, хоць таксама не завельмі шчыра, як гэта зазвычай бывае з палітыкам. І папольску гаварыць не навучыўся аж да сьмерці. Тайныя гутаркі з Вітаўтам вёў на незразумелай славянскім шпегам мове, відаць, пажэмайцку (цяперашняя летувіская).

Ходзіць тэза, што Ягайла сеў на кракаўскі трон Польскага Каралеўства, а палякі на гэта пайшлі, таму, што ордэн крыжаносцаў сьмяротна пагражаў і тым і тым. Фактычна, немцы валам валілі ад Памэраніі з Гданскам на Рыгу і эстонскія парты; актуальна тлумілі Жэмайтыю, дабівалі Коўню. Дапусьцім — такая дэшыфроўка іх палітыкі Вільняй і Кракавам адпавядае запраўднасьці. Калі так, дык чаму, разграміўшы іх пад Грунвальдам у ліпені 1410 году, амаль зусім не выкарыстана тае вялізнай перамогі? Хто каго павінен быў забаяцца? Мы іх, ці яны нас? На павярхоўны выгляд справа досыць таемная. Некаторыя тлумачаць яе шырокімі ўплывамі Нямецкага Думу ў Эўропе. Аргумэнтам, што Ягайла надалей лічыўся язычнікам і сама Польшча краінаю з няпэўным каталіцызмам. Усё гэта толькі паўпраўды і чвэрцьпраўды. Бо, праз некалькі дэкадаў пасьля ў меншай вайне беспардонна далучылі да Польшчы нават саму сталіцу ордэна, Мальбарк з найвялікім на нізінах Эўропы замкам, Гданск, Альштын, усю Вармію, прымушаючы чорнакрыжавых рыцараў будаваць сабе Кенігсбэрг-Каралевец. А што, калі-б адкінуць прапаганду тае грунвальдзкай удачы і пагадзіцца з самым звычайным: Мальбарк імкнуўся элімінаваць з палітычнай арэны Польшчу з Літвою і прайграў. Столькі ўсяго: бразгаў зброяй, бразгаў, аж дастаў і ў хвост і ў грыву! Не заваёўваць думаў, а паказацца перад сьветам лепшым панам, якому кланяюцца горшыя паны. Узяць пад сябе тэрыторыю да Чорнага мора ды перадмаскоўскай рэчкі Ака роўна значыла-б распыліцца ў ёй мізэрнымі гарнізонамі і хутка прапасьці. Тадышнія людзі таксама ўмелі думаць, прадбачваць.

Нам Грунвальд — веліч, а заходнія летапісцы ледзь прыкмецілі гэту падзею, пару словамі, як нешта накшталт экзатычнай чуткі з канца сьвету. Тым часам сьпялеў баярскі народ ліцьвіноў. Дзіўны народ — мала, што двухэтнічны, славянскі і неславянскі, то яшчэ і двухверчы, рыма-каталіцкі ад язычнікаў і праваслаўны ад русічаў. Адны хіліліся да

касьцельных ляхаў за заходняй мяжою Княства, за Нарваю і Бобраю. Царкоўныя-ж пазіралі за Смаленск, на чыста-праваслаўнае валадарства. Здавалася-б, Літва павінна была разарвацца на дзьве часткі і перастаць існаваць. Але не, не разьляцелася, хоць хапала мяцяжу ды братазабойчых сутычак на полі бою. Ідэалягічна Літва мелася надта блага, не стварыла ў сваіх элітах аб'ядноўчай ідэі, аказалася моцна запозьненай у духоўным разьвіцці. Яе потым скублі з усіх бакоў, ажно ўрэшце скурчылася да беларускіх ды жэмайцкіх тэрыторыяў пасьля 1569 году (Люблінская Вунія і ўтварэньне фэдэратыўнай Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў).

І зноў пытаньне: чаму так? Вялікае княства Літоўскае вярнулася ў свае першыя межы, быццам разьлівістае возера, воды якога сплылі назад, на першапачатковыя глыбіні. Мінуў час экспансыі, як мінае разводзьдзе.

Неўзабаве ўсё паказвала на тое, што Беларусі, аднак, ня будзе. Праваслаўнае баярства таксама павярнула ў каталіцтва, палянізацыя парабіла яго шляхтаю, Вялікае княства Літоўскае набыло рысаў яшчэ адной, ужо лішняй дзяржавы палякаў і было беспрабачна ліквідаванае Трэцьцямайскай Канстытуцыяй. Ліцьвіны самавызначыліся канчаткова як шчырыя палякі, зводзячы сваё ліцьвінства да рэгіянальнай адзнакі польскага народу. Словам: капцы і крыж!

Ды не! Усенька, што потым выраблялася ў Польшчы, у гістарычнай Літве не знаходзіла адэкватнага водгуку. Або выяўлялася ў супрацьстаўных тэндэнцыях (напрыклад: народнік і шляхціц Каліноўскі, абсалютна непрымальны карэннымі палякамі над Віслаю). Гэны гэнамі, але Каралеўства Польскае ад свайго пачатку крочыла не тым самым гасьцінцам гісторыі. Літва заўсёды мела свой асобны лёс, няшмат падобны на польскі, хоць і апалянізаваная ўжо. Каб магла яна страціць уласную асобнасьць, трэба было-б зрабіць там Польшчу ня толькі ў выглядзе касьцёлаў і мовы, але перадусім цывілізацыйна выраўнаць узровень быту, паставіць нараўні ейную эканоміку. А гэта-ж утопія і мары вар'ята! Сам Госпад Бог быў-бы тут бясьсільны прымусіць мільёны палякаў падзяліцца хлебам з мільёнамі głodnej Litwy, як іранічна гаварылася ў Варшаве і Познані. Адно — гэта палянізаваць, закамплексоўваць кагосьці, а зусім што другое — аддаць таму камусьці ключы ад свае хаты. Бяднейшы, апалянізаваўшыся, усё роўна ні трохі не пабагацее (сёньня русіфікаваная Беларусь так і ня сталася Расеяй, бо не ў мімікрыі ўся сутнасьць). Хамэлеону, як ні зьмяняй колеры скуры, а лавіць аваднёў мус самому.

Амэрыка — гэта не Англія, хоць паангельску гаворыць ды піша. Нешта аналягічнае адбывалася і з Беларусяй. Розьніца ў тым, што будучыя амэрыканцы паднялі гевалт супроць спробаў Лёндану не даць ім багацець. Бунт калёніі можа і ня даў-бы вынікаў, калі-б не дапамога ёй Францыі, адвечна канфліктуючай з Англіяй. З беларусамі было настолькі іначай, што яны ўсё бяднелі. Па іх штораз тапталіся чужакі — маскалі, швэды, казакі запароскія, і ўсякая навалач, якая ваявала за свае інтарэсы, клубуючы між сабою якраз на беларускіх землях, быццам на палігоне якім. А мы ўсё страчвалі — выпальвалі нам да галавешак гарады, рабавалі да апошніх куфраў маёнткі, сотні тысяч гэктараў зарасталі хмызам, паншчынных сялян гналі як быдла ў далёкія стораны, а фахманаў падкуплялі багатымі заробкамі, напрыклад, у Маскве.

Калі амэрыканцы марылі аб тым, каб адчапіліся ад іх іншыя і ў палітыцы вызнавалі ізаляцыянізм, дык беларусы паводзілі сябе, вядома, наадварот: усё клеіліся да кагосьці. Калі беларус рабіўся расейцам, то такім, што самім расейцам бывала страшнавата ад яго. Цяперашнім часам, скажам, Лукашэнка наводзіць на іх ідэнтычны пярэпалах... Тое-ж адбывалася з беларусам, які ўбачыў жыцьцёвы шанц стацца палякам. Гісторыкі ашаломлены лічбамі іх у польскіх элітах, пачынаючы ўжо ад заняпаду Вялікага княства Літоўскага. Кароль Панятоўскі, начальнік Касьцюшка, паэт Міцкевіч, баявікі Яновіч і Пілсудзкі, першы прэзыдэнт Нарутовіч і першы камуністычны прэзыдэнт Берут, чырвоны прэм'ер Ярашэвіч і г. д. Ня кажучы пра баранавіцкага Рэйтана, які крыжам лягаў, рвучы на сабе вопратку, зразумеўшы ўрэшце, што тадышняй Польшчы канец і каюк. Здавалася-б, хай кінуўся-б пад ногі збройным маскалям нехта ад Познані або Кракавава. Але не, скуль!? Ліцьвін грымнуўся.

Адкуль гэтакі нэафітызм? Вядома, адкуль: ад беспэрспэктыўя ў роднай Айчыне, у беларускай Бацькаўшчыне. Гэта агонія баярскага народу ліцьвіноў. Яго мейсца занялі вясковыя беларусы, але не адразу. Іх час толькі надыходзіў, ішоў. Прыйшоў разам з ліквідацыяй паншчыны і дапушчэньнем такім чынам мужыкоў да тварэньня гісторыі. Вецер гісторыі спакваля засыпаў пяском двары, зараслі яны травою забыцьця, гуляючы адначасна ачышчальнай віхураю па сялянскіх задворках. Аднак-жа скажам, што Беларусь з вёскі ня вылезла, а панскі двор з рэшткамі капіталаў і адукаванымі панятамі-унучанячамі перабраўся ў капіталістычны горад, над Нёмнам ці Дняпром надта слабенькі ў супастаўленьні з фабрычным Царствам Польскім (Кангрэсоўка) пад двухгаловым арлом расейскім. Прычыны такое дыспрапорцыі простыя: у Беларусі не аплачваліся капітальныя інвэстыцыі. І ў гэтым аказаўся, парадаксальна, паратунак ёй: страціўшы ўласную дзяржаўнасьць, аўтаномнасьць, не была-б яна ў стане асіміляваць навальны капіталізм і ўпаткаў-бы яе лёс славянскага Шлёнску, які хутка глынула нямецкая індустрыялізацыя. Славутыя пасьля шлёнскія паўстаньні зьявіліся ня столькі паўстаньнямі польскай нацыі супроць немцаў, колькі палітычна маніпуляваным бунтам каталікаў супроць эвангелікаў (трохі на ірляндзкі манер). Польска-славянская гаворка ў тым староньні жыла ў хатах, а не ў мяшчанскіх каменіцах. У фамільгаўзах шахцёрскай бядоты.

Так у чарговы раз праявіўся беларускі лёс, аб'ектывізуючы Беларусь у трывалае зьявішча. Пад падвойным слоем імпэрскай духоўнасьці — расейцаў ад царквы і палякаў ад касьцёлу — пульсавала трэйцяя патэнцыя, цалкам ігнараваная Пецярбургам з аднаго боку і Варшаваю з другога. Маналітны беларускі этнас, уцэмантаваны стагодзьдзямі, бы чарназёмная глеба пад ружамі ў палацавым агародзе. З Беларусяй, зрэшты, бы з цнатліваю паненкаю: аматараў ажаніцца з ёю не бракуе, бо не валачашчая, але да вясельля не даходзіць, бо забедная яна, слабы пасаг. Кажучы катэгорыямі палітыкі — адзін браў яе, а другі не даваў. Амаль гэнэтычная рывалізацыя за яе паміж Польшчай і Расеяй; Варшаве мы Крэсы і ваенная слава на нашых кресах, а Маскве — "искони русская сторона", што ні трохі не перашкаджала расейцам паліць гэту "искони русскую" і расстрэльваць, эшалёнамі вывозіць дабро. Гэта схема гістарычнай сытуацыі, на фоне якое вось што цікава: ні той ані той захопнік, пераменна валодаючы Беларусяй, нават не спрабаваў прыхіліць яе да сябе, прынамсі ілюзіямі раўнапраўнай трактоўкі. Вядома, чаму. Бо гэта несла рызыку коштаў, паслабленьня ўласнага цэнтру. Абодва драпежнікі трымаліся клясычнай каляніяльнасьці. А калёніі не бываюць вечнымі. Таму калёнія і ёсьць калёніяй, што калісьці перастае ёю быць і кожны намагаецца як найбольш узяць з яе і як найменш даць ёй. Парабка пільнуюць, каб рабіў, а кормяць яго як Бог дасьць.

Спасьцігнуўшы такі агляд тысячагодзьдзя Беларусі варта падумаць пра ўнівэрсальныя элемэнты ў яе існаваньні, відочныя таксама ў гісторыі іншых народаў. Так сказаць: законы фізікі нацыі, яе мэханікі быту. Усе, адпаўшыя ад Беларусі яе этнічныя тэрыторыі асуджаны на гангрэну, перш за ўсё цывілізацыйную. Пачнем ад добра вядомай мне Беласточчыны, таго кавалка Чорнай Русі як пачатковай базы колішняга Вялікага Княства. Гэтая, найбагатая ў перадваеннай Заходняй Беларусі, правінцыя сёньня самая ўбогая ў Польскай Рэчы Паспалітай, якой эканамічна — папраўдзе — лішняя (каля паўтара працэнтаў валавога прадукту дзяржавы). Беларускамоўныя тут воласьці (гміны) ужо не зарабляюць на сваё ўтрыманьне, жывуць на датацыях. І — суседняя Гарадзеншчына, якая корміць хлебам і бульбаю Рэспубліку Беларусь; сам Лукашэнка — пабальшавіцку фантастычна перабольшана — раўняе яе з сельскай гаспадаркай Брандэнбургіі. Возьмем затым на агляд Віленшчыну: тая-ж задрыпанасьць, сярод абадранства якой сама Вільня красуецца райскай выспаю (сталіца!). У Латгаліі, што за Дзьвіною, можа крыху лягчэй людцам, але ў бок далучаных да расейскай Пскоўшчыны спрадвечных ваколіц поўначы Беларусі — глухое бязьлюдзьдзе; цэлы дзень ідзеш і чалавека ня ўбачыш. Рыхтык як на Смаленшчыне, дзе ўсенька жывое зьбеглася ў Смаленск, у іх ліку і лясныя зьвяры...

Тое, што гэта зьявішча не датычыць аднае Беларусі, сьведчыць паглыблены працэс маргіналізацыі ўсіх ахапкаў эўрапейскіх нацыяў, інтэграваных існуючымі дзяржавамі. Напрыклад, французская частка Каталёніі, якая ў самой Гішпаніі лічыцца найбагатай аўтаноміяй, а яе сталіца, Барсэлёна, вядомая ва ўсім сьвеце. Сумны лёс фінскай Карэліі, дзе ўжо мала засталося карэла-фінаў, бо і чаго, калі побач знакамітая Фінляндыя, не замурзаная і хлебная. Вянгерскую Вайвадзіну аддалі ў Сэрбію і ня трэба ўжо дадаваць, як тамачныя венгры маюцца... Доўга можна так хадзіць па Эўропе. Справа, відаць, у тым, што кожная дзяржава цэнтралізуецца, а што магчыма патлумачыць на прыкладзе працэсаў узбуйненьня сельскай гаспадаркі таварнага профілю: ну, дадалі нейкаму маёнтку яшчэ адзін фальварак, недзе напрыканцы вёрстаў, ну, няхай, але і без яго маёнтак ня прапаў... А з часам з таго фальварку людзі перабраліся ў двор, дзе больш людзей, весялей, і бліжэй да выпадковай дарэмшчыны, да аказыі дадаткова падзарабіць... У папярэднім беластоцкім ваяводзтве на трох ягоных жыхароў двох было ўжо у самым Беластоку, які, у параўнаньні з перадваенным, разросься ў чатыры-пяць разоў. У маім мястэчку Крынкі асела ўся гміна, а па пустых вясковых вуліцах цяперачы бегаюць дзікі і сарны, ваўкі выюць у абваленых гумнах. У тых Крынках, у якіх некалі гудзела Грамада, прыязджаў Тарашкевіч, беларускі тэатр і капцела сотня гарбарных фабрык ды фабрычак. Дакладна: 144 у 1913 годзе. І хоць цяпер прыгнятальная большасьць крынкаўцаў размаўляе выключна папольску, але іх дзеці даслоўна ня маюць чаго шукаць у тых Крынках, няма работы і ня будзе. Гуртамі зьнікаюць у глыбі Польшчы, у ЗША, запыняючыся па дарозе ў Беластоку. Сытуацыя непатрэбнага польскаму двару фальварка, з якім невядома, што рабіць. Спаліць? Але куды людзей тады падзець?!

Практычна Беларусь незьнішчажальная, як усё немалое. Тэарэтычна можна зьністожыць яе толькі адным спосабам — даючы ёй жыцьцё лепшае, чымсьці ў мэтраполіі анэксіяніста. Абавязкова, менавіта, лепшае, каб трымалася потым аберуч, быццам небагатая баба багатага мужыка... Іначай — усё будзе: здрады, ашуканствы, куцельствы ды ўсякая ўсячына, бы ў шлюбнай пары, у якой адзін з партнёраў пачынае арыентавацца, што кепска выбраў і што мог лепей, але здурэў, асьлеп, не дагледзеў, купіў ката ў мяшку, п'янага каня ці што там яшчэ.

Натура ў шэрага беларуса такая, што задарма ён нікім ня будзе, нават беларусам. Чаму мае быць з ім, інакш, калі столькі каля яго круціцца? Ён потым пераконваецца, што з гэтым ня так. Тады адраджаецца, спачатку мацюгамі.

І ў чарговы раз Беларусь павінна прапасьці, фінальна і назаўсёды. Хоць-бы таму, што дэваставана ёй этнічнасьць у недалёкім мінулым, калі абавязваў фармальны прынцып "Коммунизм — это советская власть плюс русский язык по всей стране". Той-жа "русский" і ў малога і ў старога **бульбаша** (маскоўская іронія). І ўсё роўна для замацаваньня вечнасьці таго, саму Рэспубліку Беларусь узначаліў асабень, у якога гук беларускага слова выклікае наваніты, а замежнай палітыкай кіруе башкір, а ўнутранай расейскі шавіняк, якому беларусы — гэта не нацыя. Расейцам наогул мы не нацыя, а падгатунак іхны. Так лічаць усе яны, ад пецярбурскага бандыта да апошняга маскоўскага дэмакрата. У Эўропе шмат-якія ўнівэрсытэты маюць кафэдры беларускай мовы і літаратуры, найгусьцей іх у Польшчы, ажно ў чатырох. Але ня мог дапытацца я пра хоць-бы адну такую ў нейкім расейскім унівэрсытэце. І ня дзіва, калі там глядзяць на беларусаў як на "тоже-русских". Хутчэй яны донскіх казакаў прызнаюць асобай нацыяй... І ўсё ня могуць пазбавіцца шоку, што Украіна ужо не ў Расеі.

І хоць у Беларусі затапталі беларушчыну дашчэнту і так, што ёй ужо не падняцца да галоўнай ролі, і мала бракуе, каб паявіліся надпісы ва ўстановах тыпу "Плевать на пол и разговаривать по белорусски строго воспрещается", Беларусь, аднак, ня станецца часткай Расеі. Яна, Беларусь, ня можа, як ня можа белы чалавек пераўтварыцца ў негра, у чарнаскурага. Парода ня тая. Беларусь нарадзілася дачкою Эўропы. Як кажуць: як воўка не кармі, а ў лес яго цягне. Ці воўк мае сьвядомасьць? Біялёгі цьвердзяць, што не. Што зьвер рэагуе інстынк-

(далей гл. на стр. 9-ай)

Першымі актывістамі, што стаялі ў пачатку стварэньня гэтае арганізацыі былі: д-р Янка Станкевіч, Пётра Кажура, Мікола Дарашкевіч, Мікола Гарошка, Янка Ніхаёнак, Мікола Кунцэвіч, Міхась Тулейка і іншыя.

31-га ліпеня 1949 году адбыўся пашыраны сход актыву беларускае эміграцыі ў Мангэтане, дзе і было ўтворана БАЗА. Далей узьніклі Аддзелы БАЗА ў Нью-Джэрзі, Мічыган, Огаё, Каліфорніі, Масачусэтс, Канэктыкат, Мэйн і інш. Сяброў налічвалася тысячы. Разам з тым пры БАЗА ўтвараліся ды дзеялі розныя культурныя, навуковыя ды спартовыя ўстановы, дзеялі гурткі і таварыствы. Адным з моцных было — Беларускае Студэнцкае Таварыства ў Амэрыцы. Яно аб'ядноўвала студэнтаў, прыкладна, з 50-ці калэджаў ды ўнівэрсытэтаў.

Жыцьцё беларускае эміграцыі неразрыўна было зьвязана з царквою. Вера ў Бога натхняла людзей змагацца з цяжкасьцямі на чужыне, давала сілы на працу, упэўнівала ў справядлівасьці весьці грамадзкую і палітычную дзейнасьць за незалежную Беларусь, дапамагаць беларусам на Бацькаўшчыне ў барацьбе за іх нацыянальную сьвядомасьць, за свабоду і дэмакратыю.

Цяпер, калі Нью-Ёрскі Аддзел БАЗА сьвяткуе сваё 50-годзьдзе, хочацца адзначыць, што БАЗА зьяўляецца сапраўды масавай беларускай палітычнай арганізацыяй у Заходнім сьв еце, якая шырока ўплывала і ўплывае на думку патрыятычна накіраваных беларусаў ня толькі ў Паўночнай Амэрыцы, але і на Бацькаўшчыне. Падтрымліваючы самыя шырокія кантакты з амэрыканскім урадам, урадамі Эўрапейскіх краінаў, з амэрыканскімі палітыкамі і прадстаўнікамі розных установаў, БАЗА паступова праводзіла беларускія нацыянальныя ідэі супраць бальшавіцкае чумы 20-га стагодзьдзя, супраць панаваньня расейскай акупацыі на Беларусі, за яе незалежнасьць, раўнапраўе беларускага народу з іншымі народамі, за годнасьць беларускае культуры, мовы, за нацыянальныя сымбалі і гістарычную праўду.

Трэба спадзявацца, што БАЗА і надалей здолее гуртаваць ды гартаваць новую беларускую эміграцыю, шырэй пашыраць сваю дзейнасьць на Беларусі з рознымі партыямі і рухамі, з рознымі дзеячамі, — каму дарагая Спадчына, родная культура і мова.

Яскрава таму сьведчыць афіцыйнае сьвяткаваньне 50-х угодкаў Нью-Ёрскага Аддзелу БАЗА ў Мангэтане, дзе на гэтую ўрачыстасьць сабралася больш за 150 беларусаў. А білет на сьвяткаваньне каштаваў 30 даляраў...

Сьвяточна ўбраная заля, дзе беларусы адзначалі свае сьвята, з Пагоняй і бел-чырвона-белым штандарам нараўне з амэрыканскім сьцягам; гучыць родная мова, вясёлыя твары прысутных, бегаюць шчасьлівыя дзеці.

Сьвяткаваньне пачалося амэрыканскім гімнам — гімнам другой Бацькаўшчыны, якая прытуліла шмат беларусаў. Далей урачыстая акадэмія. Прамову меў адзін з ведамых беларускіх дзеячоў і заснавальнікаў БАЗА — дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва д-р Вітаўт Кіпель. Ён горача і шчыра віншаваў прысутных з падзеяй — 50-мі ўгодкамі БАЗА, заклікаў да супольнасьці, быць сьведамымі беларусамі і пашыраць грамадзкую дзейнасьць на карысьць нашае Бацькаўшчыны. Затым адбылося ўрачыстае ўшанаваньне Пасьведчанямі Ўдзячнасьці дзеячоў беларускае эміграцыі ў Амэрыцы і віншаваньне іх кветкамі. Сярод іх былыя старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА і Аддзелаў: д-р Уладзімер Набагез, сп. А. Міцкевіч, сп. Кастусь Мерляк, сп. Юрка Касьцюкевіч, сп. Расьціслаў Гарошка. Асобая ўдзячнасьць была выказана старэйшай з прысутных у залі спадарыні Яніне Каханоўскай, якая самааддана вяла сваю дзейнасьць у культурным і грамадзкім жыцьці беларусаў у Амэрыцы. Заслугоўвае на вялікую пашану

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 50-х УГОДКАЎ БАЗА ў НЬЮ-ЁРКУ




дзеючы старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, які на працягу шмат год узначальвае гэтую ўстанову. Сумленьне, шчырасьць душы, нацыянальная вартасьць і самаадданасьць гэтага чалавека — ёсьць добры прыклад перайманьня новым маладым эмігрантам.

Хвілінай цішыні прысутныя ўшанавалі памяць адыйшоўшых на супакой былых старшыняў і актывістаў БАЗА.

Асабіста з прывітаньнямі для БАЗА выступілі: старшыня Рады БНР сп-ня Івонка Сурвілла, старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, старшыня Нью-Ёрскага Аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, старшыня Аддзелу БАЗА ў Новай Англіі сп. Р. Кардонскі, ад новае эміграцыі сп. Уладзімер Цяліца. Вядучыя праграмы сп-ня Ала Кузьміцкая ды д-р Янка Запруднік зачыталі шматлікія прывітаньні і віншаваньні ад беларускіх дзеячоў і арганізацыяў.

Цікавую думку выказала актывістка Нью-Ёрскага Аддзелу БАЗА сп-ня Ала Кузьміцкая, якая прапанавала беларусам пабудаваць у Мангэтане свой клюб — "Беларускую хату" — афіцыйную рэзыдэнцыю БАЗА. Дзеля гэтага трэба ўтварыць рахунак ахвяраваньняў... і першая шчырасьць была праяўлена прысутнымі, што ахвяравалі ў залі $283 даляры, а д-р Уладзімер Набагез дадаў на гэтую добрую справу чэк на $1000.оо. Шчыры і добры пачатак! Гэта першыя цаглінкі нашай будучай "Беларускай хаты" ў Мангатане.

Пасьля акадэміі ўдзельнікі змаглі пачаставацца абедам і напіткамі, што наладзіла сп-ня Юля Андрусышын.

Канцэртную частку склалі беларускія выканаўцы З. Яўтуховіч, Ліда Кано, Тацьцяна Дзямешчык, Аляксандар Балотнік ды В. Ніканаў.

Самай прыгожай імпрэзай на ўрачыстасьці БАЗА было шоў-паказ беларускіх народных строяў з розных рэгіёнаў Беларусі, што падрыхтавалі сп-ні Вера Бартуль, Ала О. Рамано і Валя Якімовіч. Прыемна было таксама бачыць беларускіх дзетак у нацыянальных строях ды іхнія выступы. Актыўнымі былі Ксеня Капытка, Алёна Гладун і Дыяна Клакоцкая.

Ёсьць усе падставы думаць, што беларуская дзейнасьць у Амэрыцы будзе памысна разьвівацца і ўзмацняцца.

Уся ўрачыстасьць скончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

Віншуем усіх з 50-мі ўгодкамі БАЗА і заклікаем усіх беларусаў гуртавацца і далучацца да справы беларускага адраджэньня і разам з гэтым сьмела змагацца за свабоду, дэмакратыю і незалежную Беларусь. Хочацца закончыць гэты рэпартаж словамі Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!»

Анатоль Тальянскі, Нью-Ёрк.



**Дзьве здымкі са сьвяткаваньня БАЗА ў Нью-Ёрку**

(Працяг са стр. 7-ае)
тамі, а яны існуюць па-за сьвядомасьцяй.

Эўропа вельмі розная ад Азіі. Прыцягальнасьць Эўропы ў тым, што стварае яна людзкае жыцьцё. Лукашэнка сьмяшыць нават Маскву, крычучы ў расейскім парлямэнце, што Беларусь... "он за цивилизацией не поведёт". Ну хай, але, калі не за цывілізацыяй, то за кім і куды/?!/. Ён што надумаў: вярнуць беларусаў у першабытную пушчу, загнаць іх з кватэраў ды на высокія галіны? Сам ён, нябось, у раскошных рэзыдэнцыях начуе. І не баліць яму галава, што летась ураджаі ў калхознай Беларусі настолькі ўпалі, што свайго хлеба стане да Вялікадня. Расея дасьць? Што яна дасьць, калі сама купляе збожжа ў "амэрыканах" і жыве за амэрыканскія пазыкі. Убіўся хлопец, бы парася ў плот, і вішчыць!

А Беларусь век вечная і калісьці пракляне яго!!!

У 1901 годзе, пакідаючы напоўненую русыфікацыйным чадам сваю даўгагадовую мінуўшчыну, беларусы, як народ, мусілі пачынаць з самага пачатку. На новым гістарычным этапе ім патрэбныя былі свае палітычныя лідэры, партыі, органы друку, кнігі, грамадзкія арганізацыі, і нічога з гэтага ў 1901 годзе яшчэ не было. У новай кнізе Ўладзімера Арлова і Генадзя Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" названыя чатыры галоўныя падзеі 1900-х гадоў, якія можна назваць першымі крокамі беларусаў у дваццатым стагодзьдзі. А гэта: утварэньне ПЕРШАЙ беларускай палітычнай партыі — Грамады (1903 г.); заснаваньне ПЕРШАГА беларускага легальнага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца" (1906); выхад першага нумару ПЕРШАЙ легальнай беларускай газэты "Наша Доля" (1906); ПАЧАТАК выхаду

*Ян* ЗАПРУДНІК (ЗША)

# БЕЛАРУСКАЕ СТАГОДЗЬДЗЕ



На парозе 21-га стагодзьдзя і новага тысячагодзьдзя непазьбежна ўзьнікае пытаньне пра кірунак разьвіцьця падзеяў і характар зьменаў у жыцьці беларускага народу. Часамі здаецца, што Беларусь вось-вось і згіне канчальна ў моры ваяўнічае расейшчыны.

На Бацькаўшчыне дэманстрацыі, арышты, турмы, штрафы. У адных пабітыя галовы і паламаныя косьці; у другіх страх, які паралiжуе волю бараніць нацыянальныя вартасьці і чалавечую годнасьць; у трэціх проста зьнікла здольнасьць думаць далей за кавалак хлеба, які становіцца здабываць усё цяжэй і цяжэй.

На чужыне ў беларусаў замежжа духі займае ад думкі, што гібее нацыянальны скарб, занепадае культура, адмірае мова ды — што самае страшнае — можа сканаць у абдымках імпэрскага мядзьведзя аплочаная вялікімі намаганьнямі і ахвярамі дзяржаўнасьць.

Каб разьвеяць сумлевы і трывогі, якія перашкаджаюць нармальна працаваць на грамадзкай ніве, трэба цьвяроза глянуць на стан рэчаў у іхнай гістарычнай рэтраспэктыве. Дзеля гэтага трэба зірнуць на два дзесяцігодзьдзі нашага веку — першае і апошняе — ды адказаць на пытаньне: што мела Беларусь у сваім нацыянальным арсэнале ў 1900-я гады і што мае ў 1990-я? Гляньма на такія паказьнікі:

**Палітычны статус (дзяржаўнасьць) краіны.**
**Наяўнасьць нацыянальна сьведамай інтэлігенцыі.**
**Колькасьць і характар грамадзкіх інстытутаў нацыянальнае скіраванасьці.**
**Сацыяльная структура грамадзтва.**
**Структура эканомікі.**
**Адукацыя і агульны стан пісьменнасьці.**
**Колькасьць нацыянальнамоўных і нацыянальназарыентаваных публікацыяў.**
**Стан распрацоўкі і пашыранасьць мовы.**
**Наяўнасьць дыяспары і ейная заангажаванасьць у нацыянальным руху.**
**Абазнанасьць міжнароднае супольнасьці з Беларусьсю як апрычонай краінай.**

### Адкуль выйшлі (1900-я гады)?

У 1900 годзе паняцьце "Беларусь" было яшчэ пераважна этнаграфічным і расплыўчатым. Ведамы расейскі "Энцыкляпэдны слоўнік" Брокгаўза-Ефрома, прыкладам, гэтак тлумачыў у 1891 годзе, што значыць тэрмін "Беларусь": "У розныя часы пад гэтым імем разумелі розныя часткі заходняе паловы сучаснае Расеі, як і цяпер разумеюць пад ім толькі Магілеўскую і ня ўсю Віцебскую губэрню". У іншым месцы таго-ж "Энцыкляпэдычнага слоўніка" сьцьвярджалася, што "пад імем Беларусі... разумеюць пераважна губэрні Менскую, Магілеўскую, Віцебскую і заходнюю частку Смаленскай". Губэрні Віленская і Горадзенская ў паняцьце Беларусі яшчэ не ўваходзілі, яны афіцыйна называліся яшчэ "літоўскімі" — рэха мінулых стагодзьдзяў, калі Беларусь была ядром Вялікага княства Літоўскага. А ў дачыненьні да ўсяе Беларусі найчасьцей прыкладаўся афіцыйны тэрмін "Паўночна-Заходні Край" — сьлед забароны царом Мікалаем І-м у 1840 годзе назову "Беларусь".

беларускага тыднёвіка "Наша Ніва" (1906). Да гэтага пераліку можна было-б дадаць выхад у 1910 годзе ПЕРШАЙ папулярнай гісторыі Беларусі, напісанай нацыянальна сьведамым беларусам Вацлавам Ластоўскім — "Кароткая гісторыя Беларусі".

Канчаючы сваю невялікую кніжку (усяго 103 старонкі), Ластоўскі падкрэсьліваў, што "запраўдны беларускі рух пачынаецца толькі з 1803 году і ягонага лідэра Кастуся Каліноўскага. Ні слова таксама пра гоманцаў з 1884 году з іхнымі кароткатрывалымі лятуценьнямі пра "фэдэратыўную самастойнасьць" для роднага краю.

Пра дзяржаўнасьць Беларусі ў 1900 годзе ня было гутаркі, бо ня было каму падымаць голас у гэтай справе. Ня было яшчэ сваіх нацыянальных палітыкаў, дзеячы адраджэнскай справы былі яшчэ гімназістамі. Ня было ўсьведамленьня патрэбы свае дзяржаўнасьці ці нават аўтаноміі. Пра Беларусь нельга было гаварыць ня тое што замежнаму сьвету, а нават сабе самым, бо па-першае, на беларускім друкаваным слове да 1905 году ляжала цэнзурная забарона, а па-другое, год пасьля таго як у 1906 годзе пачала выходзіць тыднёвая газэта "Наша Ніва", ад 1907 і па 1917 год панавала суровая цэнзура на палітычныя выказваньні.

Беларусь тады, як казаў недалёкі ад праўды расейскі прэм'ер Сталыпін (застрэлены тэрарыстам у 1911 г.), была краем "пераважна эканамічна багатай польскай мяншыні" (абшарнікі) і "пераважна эканамічна беднай рускай бальшыні" (беларускае сялянства). А па гарадох і мястэчках найбольшай катэгорыяй жыхарства былі габрэі.

Агульная пісьменнасьць у 1900-я гады не перавышала 30 працэнтаў, а паводле некаторых крыніцаў і таго менш. Беларускай мове яшчэ не ставала тэрміналягічнае выпрацаванасьці. "Наша Ніва", як паясьняла рэдакцыя некалькі гадоў у кожным нумары, друкавалася яшчэ "рускімі літэрамі" і "польскімі літэрамі". Для чытача газэты былі тады незразумелымі такія паняцьці, як "беларуская кірыліца" і "беларуская лацінка". Нявыпрацаваная яшчэ была і грамадзка-палітычная лексыка. "Наша Ніва" пісала: "правіцельство" (урад). "государственая" (дзяржаўная), "полномочэны" (упаўнаважаны), грудзень/дзекабр" (сьнежань) і шмат чаго падобнага.

Эканоміка Паўночна-Заходняга Краю базавалася ў асноўным на сельскай гаспадарцы, даволі саматужнай, на дробных фабрыках ды зьбіваньні абмежаваных прыродных багацьцяў. Больш за 60 працэнтаў жыхарства было сельскім, у пераважнай бальшыні няпісьменным.

Пра міжнародныя сувязі Беларусі, як такой, ці хоць-бы таго-ж Паўночна-Заходняга Краю (эканамічныя, палітычныя, культурныя), не магло быць і мовы, бо на міжнародным форуме была толькі Расейская імпэрыя.

З Беларусі ў першым дзесяцігодзьдзі дваццатага веку эміґравалі блізу выключна сяляне, уцякаючы ад малазямельля і беспрацоўя, ды габрэі, ратуючыся ад мястачковай галечы і чарнасоценнага перасьледу. Сувязі з родным краем у іх былі мінімальныя, а нацыянальна-беларускага прадстаўніцтва на месцы новага пасяленьня амаль ніякага.

### Куды прыйшлі (1990-я гг.)?

Розьніца паміж 1900-мі гадамі і 1990-мі вялізарная. Перш-наперш сёньня існуе беларуская дзяржава — суб'ект міжнароднага права, адна з заснавальніц (хай сабе фармальна) ААН. У некалькіх дзесятках дзяржаваў сьвету працуюць беларускія дыпляматычныя місіі, наладжваюцца гандлёвыя сувязі. У Дзяржаўным дэпартаманце ЗША ёсьць адмысловы беларускі стол. Вялікія дзяржавы сьвету — Злучаныя Штаты, Ангельшчына і Расея — гарантавалі Беларусі ў 1994 годзе сувэрэнітэт і тэрытарыяльную цэласьць. Нават ліквідатар беларушчыны Аляксандар Лукашэнка, былы прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь, а сёньняшні ўзурпатар улады, намагаецца прадаць сваю рэспубліку Маскве ў "незалежніцкай" абгортцы.

У канцы дваццатага стагодзьдзя Беларусь ужо не вясковая і не аграрная, а гарадзкая і індустрыяльная — пра гэта гаворыць дэмаграфічная і эканамічная статыстыка. Горад, а ня вёска стаўся сёньня месцам нараджэньня пераважнай бальшыні беларускіх незалежнікаў — палітыкаў і дзячоў культуры.

У адваротнасьць ад 1900-х гадоў, калі беларускі палітычны рух быў толькі ў самым зародку, сёньня ў Беларусі дзейнічаюць, хоць і ня вельмі масавыя, каля дзесятка палітычных партыяў, што маюць у сваіх праграмах незалежнасьць і нацыянальна-культурнае адраджэньне роднага краю.

Пісьменнасьць сёньня паўсюдная. У краіне працуюць дзесяткі вышэйшых навучальных установаў. Паралельна з расейскамоўнымі і расейскацэнтрычнымі публікацыямі ў Беларусі выходзяць беларускамоўныя патрыятычныя пэрыёдыкі і кнігі. У галіне сродкаў масавай інфармацыі, праўда, сытуацыя складаная і трывожная, бо бальшыня афіцыйных газэт, тэлебачаньне і радыёвяшчаньне ў Беларусі пастаўлена на абслугоўваньне прарасейскага курсу палітыкі лукашэнкаўскага рэжыму.

Калі беларуская мова на пачатку веку была яшчэ слаба распрацаваная ў некаторых сваіх дзялянках, дык сёньня яна існуе ў двух варыянтах: удасканаленым і пакалечаным. Удасканаленая на пісьме, пакалечаная ва ўжытку (трасянка), або і зусім з ужытку выціснутая. Нават шмат дзе ў мястэчковым і нават у вясковым асяродзьдзі.

З другога боку, ёсьць цімала людзей у сучаснай Беларусі, якія, хоць і не валодаюць беларускай мовай (якое яны ня вывучалі не па сваёй віне), але цьвёрда стаяць на абароне беларускае дзяржаўнасьці і за стварэньне такога палітычнага ладу, у якім нацыянальная культура мела-б усе магчымасьці разьвівацца і квітнець.

Важным фактарам у беларускім сацыяльна-палітычным жыцьці ў апошнім дзесяцігодзьдзі сталіся міжнародныя кантакты. Дзякуючы Інтэрнэту і шмат якім культурным праграмам, фінансаваным заходнімі фондамі, а таксама дзякуючы гандлёвым і дзелавым сувязям з Захадам, фармуецца маладое беларускае пакаленьне, якое адыгрывае ўжо цяпер вялікую ролю і яшчэ большую адыграе ў бліжэйшай будучыні ва ўзмацняньні дзяржаўніцкіх працэсаў, якія адбываліся на працягу цэлага дваццатага стагодзьдзя.

Асобай тэмай пакідаем збоку пытаньне ролі веравызнаньняў у справе нацыянальна дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Адзначым тут толькі, што апошняе дзесяцігодзьдзе сталася сьветкам пэўнай беларусізацыі рэлігійнага жыцьця з пэрспэктывай узмацненьня гэтага працэсу. Калі ў першым дзесяцігодзьдзі вонкавы сьвет пра Беларусь нічога ня чуў і ня мог пачуць, дык сёньня стан радыкальна зьмяніўся на карысьць беларушчыны. Сёньня пра Беларусь інфармуюць (няхай сабе не заўсёды аб'ектыўна) дзесяткі даведнікаў, манаграфіяў і энцыклапэдыяў. На Захадзе выходзяць чатыры квартальнікі: два паангельску (у Лёс-Анджэлесе і Лёндане), адзін пафранцуску (у Парыжы) і адзін па-нямецку (у Дортмундзе). Па-ангельску выходзіць на Інтэрнэце тыднёвік Belarus Update (Нью-Ёрк). А агульная інфармацыя пра Беларусь і абмяркоўваньне беларускіх праблемаў на Інтэрнэце нагэтулькі шырокая ў розных заходніх мовах, што ўсяго тут і не пералічыш. Усё гэта прывяло да шырокае абазнанасьці міжнародных палітычных колаў з беларускаю праблематыкай, у тым ліку з імкненьнямі

Беларусі да дэмакратыі і незалежнасьці.

Паказальным у гэтым сэнсе можа быць нядаўнае выказваньне Станіслава Шушкевіча ў гутарцы на радыё "Свабода" пра ўдзел дэлегацыі апазыцыйных беларускіх партыяў у міжнароднай канфэрэнцыі, што адбылася ў Стамбуле 18-19 лістапада.

"Нашая група Каардынацыйнай рады палітычных партыяў у складзе прадстаўнікоў 9 партыяў прыбыла ў Самбул на запросіны Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ (Арганізацыя па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе — Я. З.). Мы тут мелі шэраг сустрэчаў з кіраўніцтвам тройкі, якая цяпер узначальвае АБСЭ, і з якой мы абмяркоўвалі сытуацыю ў Беларусі. І што найважнейшае. Нам фактычна ўжо на сёньняшні дзень ня трэба было нікому нічога тлумачыць. Таму што прэзыдэнт Польшчы, кіраўнік дэлегацыі Люксэмбургу, кіраўнік дэлегацыі Швайцарыі, старшыня Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ — усе яны выступілі і, фактычна, вельмі рашуча асудзілі сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Мы думалі, што нам давядзецца пераконваць людзей у гэтым, а да нас фактычна не было пытаньняў. Да нас ужо былі пытаньні як можа далей разьвівацца сытуацыя, і якія дэталі таго, што адбываецца ў Беларусі. Мы растлумачылі, што цяпер адбываецца ў Беларусі, як парушаюцца правы чалавека, як зьнікаюць людзі, як ня можа нармальна працаваць парлямэнт, які ня можа знайсьці памешканьня, каб правесьці сэсію. Гэтая іфармацыя была з разуменьнем прынятая".

У апошнім дзесяцігодзьдзі дваццатага веку справа збаўленьня Беларусі ад расейскага імпэрыялізму і рэштак камуністычнага таталітарызму ды пабудовы дэмакратыі мае на сваім баку міжнародную грамадзкасьць, на якую ўплываюць і беларуская дэмакратычная апазыцыя, і беларуская дыяспара. Гэтая апошняя, хоць і невялікая, інфармуе ўрады краёў свайго пасяленьня аб запраўдным стане на Беларусі, дамагаецца прыняцьця адпаведных пастановаў і мерапрыёмстваў на карысьць незалежнасьці Беларусі. На Беларусь вяшчае штодня радыёстанцыя "Свабода". Пра Беларусь пішуць вядучыя газэты заходніх краінаў, адбываюцца прысьвечаныя Беларусі міжнародныя канфэрэнцыі, у абароне беларускай дэмакратыі і сувэрэнітэту выступаюць заходнія палітыкі і дзяржаўныя дзеячы.

Такім чынам, параўнаўшы два дзсяцігодзьдзі дваццатага веку, першае і апошняе, можна сьмела назваць нашае стагодзьдзе беларускім і зрабіць пры гэтым праекцыю на будучыню. Дваццаць першае стагодзьдзе для Беларусі бачыцца нам, як час далейшага росту ўсьведамленьня беларускім народам асноўнае ідэі веку. А гэта — што аптымальныя магчымасьці ўладзіць свой дабрабыт беларусы змогуць, ідучы далей за прыкладам іншых народаў цэнтральнай Эўропы, якія дамагліся поўнае незалежнасьці, дзякуючы якой пасьпяхова разбудоўваюць у сябе рынычную эканоміку і дэмакратыю. Адсюль праекцыя: напярэдадні новага тысячагодзьдзя, абарона дзяржаўнасьці і разьвіцьцё нацыянальнай культуры на гуманітарнай эўрапейскай аснове стаяць як галоўнае заданьне перад кожным грамадзянінам і грамадзянкай Беларусі, якія жадаюць свайму народу і сабе самым лепшае будучыні.



Міхась БЕЛЯМУК (ЗША)

# ЛЮБЛІНСКАЯ ВУНІЯ



Споўнілася 430 год Люблінскае вуніі, у выніку якой Каралеўства польскае і Вялікае княства Літоўскае злучыліся ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую, што праіснавала да 1795 году.

**У Крэве 6-га жнівеня** 1385 г. вялікі князь Ягайла заключыў дзяржаўна-прававы саюз з Польшчай, прыняў каталіцтва, ажаніўся з каралевай Ядзьвігай і каранаваўся на караля Польшчы. Пасьля каранацыі Ягайла як вялікі князь ВКЛ выдаў каталіцкаму касьцёлу прывілеі, якія зрабілі каталіцтва дзяржаўнай рэлігіяй у Вялікім Княстве. Бальшыня каталіцкага духавенства была польскага паходжаньня і адстойвала польскія інтарэсы ў ВКЛ. Ксяндзы настройвалі літоўскую шляхту супраць літоўскіх магнатаў, асабліва іх актыўнасьць узрасла ў ХУІ ст. Каталіцкае духавенства абяцала шляхце, што вунія з Каронай зраўнае ў правох шляхту з магнатамі. Таксама ксяндзы абяцалі, што вунія значна паменшыць ваенныя падаткі, бо Польшча пачне актыўна дапамагаць у вайне з Масковіяй. Вось так малапісьменная літоўская шляхта пачала настойліва патрабаваць вуніі з Польшчай, і 13 верасьня 1562 г. пад Віцебскам яна стварыла канфэдэрацыю. Шляхта запатрабавала ад в. кн. Жыгімрнта Аўгуста, які адначасна зьяўляўся і каралём Польшчы, каб прыабяцаў, што скліча сойм у справе вуніі. Сталася гэта тады, калі Іван ІУ Жахлівы з 80000 арміяй рыхтаваўся ўдарыць на Полацак. У такой складанай сытуацыі Жыгімонт Аўгуст у Варшаве ў студзені 1564 г. склікае Вальны сойм у справе вуніі. Вялікае Княства не магло прыняць удзелу, бо з усходу пагражала Масковія, але ліцьвіны паслалі на сойм прадстаўнічую дэлегацыю, якую ўзначаліў канцлер Мікалай Янавіч Радзівіл /Чорны/. Дэлегацыя атрымала пісьмовую інструкцыю пра ўмовы заключэньня вуніі, выпрацаваную віленскім соймам.

Гэтую інструкцыю Мікалай Я. Радзівіл перадаў польскаму сойму. Яе зьмест быў наступны: элекцыя /выбары/ ўладара будзе адбывацца на супольным сойме пры роўнай колькасьці дэпутатаў; выбраны ўладар спачатку паедзе ў Кракаў на каранацыю і выдасьць прывілеі Кароне, пазьней прыедзе ў Вільню злажыць прысягу ВКЛ і атрымаць вялікакняжы каранацыйны меч /паднясеньне/ ды выдасьць прывілеі для ВКЛ; у ВКЛ адбываюцца соймы для вырашэньня ўнутраных справаў; Вальныя соймы Кароны і ВКЛ склікаюцца ўладаром, каб разглядзіць справы, што тычацца замежнай палітыкі, гандлю, абароны, заключэньня міру, абвешчаньня вайны; Польшча і ВКЛ супольна вядуць вайну і аднолькава пакрываюць ваенныя выдаткі; кожная дзяржава застаецца пры сваіх урадах з сваім заканадаўствам, мае сваё войска, скарб, манету, пячаткі і тытулы ўрадаўцаў.

Польскія дэпутаты сойму, якія мелі на мэце не саюз дзьвюх дзяржаваў, а далучэньне ВКЛ да Кароны, крытыкавалі літоўскую інструкцыю. Так маршалак сойму Мікола Сяньніцкі казаў, што інструкцыя не скіравана на далучэньне ВКЛ да Кароны, а наадварот, пакідае ВКЛ як самастойную дзяржаву ў фэдэрацыі з Каронай. Ён патрабаваў пакончыць з вялікакняжацкім тытулам і асобымі ўрадамі і стварыць адно каралеўства з адным урадам. Яго падтрымалі арцыбіскуп і прымас Польшчы Якуб Уханьскі і кракаўскі кашталян Марцін Збароўскі.

Канцлер Мікалай Я. Радзівіл, адказваючы польскім прамоўцам, спасылаўся на прывілею в. кн. Аляксандра, якую той выдаў да каранацыі на караля Польшчы і ў якой пакляўся захоўваць дзяржаўную самастойнасьць ВКЛ. Канцлер, паказваючы палякам прывілею, прасіў зьвярнуць увагу, што да гэтае прывілеі польскія саноўнікі прывесілі свае пячаткі, а гэта азначала пацьверджаньне польскімі саноўнікамі самастойнасьці ВКЛ. Мікола Я. Радзівіл тлумачыў, што крэўская ўмова Ягайлы аб далучэньні ВКЛ да Кароны ня мае правамоцнасьці, бо Ягайла мог далучыць сваю маёмасьць, а не маёмасьць ліцьвін. Усім вядома, што кожны ліцьвін — дзедзіч сваёй маёмасьці, на яе мае прывілеі, якія шанавалі вялікія князі. Паколькі палякі таксама спасылалася на старыя прывілеі і па-свойму іх тлумачылі, Радзівіл запрапанаваў даць прачытаць прывілеі дактарам Балонскага ўнівэрсытэту і выслухаць іхнюю апінію і тлумачэньне, але палякі не пагадзіліся. Ліцьвіноў абразіла выступленьне падскарбія Валерыя Дэмбіньскага, які прапанаваў далучыць ВКЛ да Кароны і далучанае княжаства назваць "Новай Польшчай", ён таксама патрабаваў забараніць карыстацца Статутам ВКЛ, манетай і пячаткай, бо на іх адбітак гэрбу "Пагоня".

Нялёгка было ліцьвінам адстойваць самастойнасьць ВКЛ перад палякамі, бо Вялікае Княства было пад пагрозай маскоўскай заваёвы, і гэтую пагрозу ведалі палякі ды стараліся выкарыстаць. Яны патрабавалі ад ліцьвіноў прыняць польскія прапановы — далучыць /інкарпараваць/ ВКЛ да Кароны.

Сытуацыя зьмянілася да лепшага 2-га лютага, калі ліцьвіны атрымалі паведамленьне ад троцкага ваяводы Мікалая Юр'евіча Радзівіла /Рудога/ і гетмана Рыгора Хадкевіча аб поўным разгроме арміі кн. Васіля Шуйскага пад Чашнікамі і паведамленьне ад мсьціслаўскага ваяводы Юрыя Осьціка і аршанскага старасты Філона Кміты аб перамозе пад Дуброўнай, якія разьбілі армію князёў Васіля і Пётра Сярэбраных. Гэты дзьве перамогі натхнілі ліцьвіноў, а палякаў насьцярожылі, бо яны адчулі, што ліцьвіны ўступак рабіць ня будуць. Так яно і было. Перамовы аб вуніі зайшлі ў тупік. 22-га лютага ліцьвіны разьвіталіся з в. кн. Жыгімонтам Аўгустам, польскімі дэпутатамі і пакінулі Варшаву.

4-га чэрвеня 1564 г. сабраўся літоўскі сойм у Бельску. Палякі ў Бельск паслалі прадстаўнічую дэлегацыю, якую ўзначаліў прымас Польшчы Якуб Уханьскі. Дэлегацыя прыехала, каб заручыцца падтрымкаю літоўскае шляхты ў справе вуніі. Літоўская шляхта адказала польскім біскупам і панам, што яна прагне вуніі, але ня коштам страты самастойнасьці ВКЛ.

Напярэдадні люблінскага Вальнага сойму ў Вогліне адбыўся літоўскі сойм. На гэтым сойме в. кн. Жыгімонт Аўгуст 21-га сьнежаня 1568 г. выдаў грамату, у якой прысягнуў, што ліцьвінаў на сойме ў Любліне прымушаць да вуніі ня будуць і яны могуць пакінуць сойм, калі ня будзе ўзаемнае згоды. У той-жа грамаце вялікі князь прысягаў захаваць усе правы, вольнасьці і прывілеі, дадзеныя ім ягонымі папярэднікамі Вялікаму Княству. Ліцьвіны паверылі в. кн. Жыгімонту і паехалі ў Люблін на сойм, які пачаўся 10-га студзеня 1569 г.

У Любліне ліцьвіны мелі паседжаньне ў асобым будынку, дзе абмяркоўвалі свае ўнутраныя справы. 22-га студзеня палякі паслалі дэлегацыю да ліцьвіноў з запытаньнем, калі яны прыйдуць, каб супольна пагаварыць аб вуніі. Ліцьвіны прыйшлі, але селі асобна ад палякаў. Пачаліся выступленьні. Сандэцкі кашталян Яраш Асаліньскі дaказваў, што ў Літве ўжо здаўна ўладараць польскія каралі. Яму запярэчыў канцлер Мікалай Юр'евіч Радзівіл /Руды/: "Што датычыцца таго, што кароль польскі даўна ўладарыць у Літве, то ня думаю, каб была прасьпявана вечная памяць вялікаму князю літоўскаму". Кракаўскі біскуп Піліп Паднеўскі ў сваёй прадмове, абгрунтоўваючы правы Польшчы на Літву, сказаў: "В. кн. Ягайла далучыў Літву да Кароны". На гэта жамойцкі староста Ян Хадкевіч яму адказаў: "Калі мы вам падараваны, дык навошта вам яшчэ вунія з намі патрэбная".

Адносна літоўскага праекту аб заключэньні вуніі, які мала розьніўся ад віленскае інструкцыі і які канцлер М.Ю. Радзівіл перадаў польскім дэпутатам, кракаўскі біскуп П. Паднеўскі сьцьвердзіў: "Тое, што вы напісалі, вядзе не да вуніі, а хутчэй да раз'яднаньня або да нейкай канфэдэрацыі. Такую вунію ня толькі з намі, але лёгка можаце ўчыніць з любым народам". Ізноў прывілеі палякі тлумачылі па-свойму, ізноў ліцьвіны не пагаджаліся з іх тлумачэньнем і пратэставалі, але палякі не зьвярталі ўвагі. У прамовах польскія паны адмаўлялі законнасьць літоўскіх прывілеяў аб захаваньні дзяржаўнай самастойнасьці ВКЛ, якія былі дадзеныя вялікімі князямі Казімерам, Аляксандрам, Жыгімонтам Старым, Жыгімонтам Аўгустам. І гэтак штодня ліцьвіны спрачаліся з палякамі пакуль біскуп П. Паднеўскі адкрыта не сказаў: "Літва павінна належаць Кароне". Гэткае асьведчаньне

уплынула на пастанову ліцьвінаў пакінуць Люблін 1-га сакавіка.

З ад'ездам ліцьвіноў польскія сэнатары атрымалі магчымасьць ажыцьцяўляць свае патаемныя пляны: спачатку далучыць Падляскае і Валынскае ваяводзтвы, потым — Брацлаўскае і Кіеўскае, а пазьней Берасьцейскае з часткаю Наваградзкага, а Жамойць перадаць Каралеўству Прускаму. Прыпушчалі, што абкроенае Вялікае Княства падпіша любы праект вуніі, прадыктаваны Польшчай. Заставалася толькі атрымаць згоду Жыгімонта Аўгуста. Падчас аўдыенцыі сэнатараў кароль Жыгімонт Аўгуст паабяцаў зрабіць усё, што параіць яму каронная рада. Яму запрапанавалі далучыць Падляшша і Валынь да Кароны, і гэта было зроблена 5-га сакавіка 1569 г.

Ліцьвіны, ад'язджаючы з Любліна, пакінулі падканцлера ВКЛ Астафея Валовіча, які меўся спаткацца з в. кн. Жыгімонтам і паясьніць прычыны ад'езду. Польскія паны, атрымаўшы згоду Жыгімонта Аўгуста аб далучэньні Падляшша і Валыні, пачалі шукаць ліцьвіноў, каб прымусіць іх зласжыць прысягу каралю і Кароне. А. Валовіч меў маёнткі на Берасьцейшчыне, і палякі сумысьля далучылі іх да Падляшша, каб запатрабаваць ад А. Валовіча прысягу. 10-га сакавіка яны заклікалі падканцлера ў залю, дзе каронны канцлер Валянцін Дэмбіньскі яму паведаміў: "Яго каралеўская міласьць па жаданьні пасольскага кола і сэнатараў загадвае вам выканаць свой абавязак, прынесьці прысягу Каралю і Кароне". Пратэстуючы супраць незаконнага патрабаваньня, А. Валовіч адказаў каралю: "Міласьцівы наш гаспадар, я ад маладых гадоў служыў сумленна вашай міласьці. Ваша міласьць ніколі не памылілася, даручаючы мне адказныя справы. Я заўжды рабіў так, як належала вернападданаму. Ваша міласьць добра ведае, што я ўжо прысягаў Вам і Вялікаму Княству, ці маю я права цяпер прысягаць Кароне? Раней, як прымушаць мяне да прысягі, зрабіце ласку, давядзіце мне, з якой прычыны мае маёнткі належаць Кароне, а не Вялікаму Княству. Спадзяючыся, што ваша міласьць, як хрысьціянскі ўладар ня будзе прымушаць мяне да таго, што супярэчыць майму сумленьню". А. Валовіча папрасілі выйсьці, а польскія паны пачалі дэбатаваць, што зрабіць з падканцлерам.

Ізноў заклікалі А. Валовіча, ён паўторна зьвярнуўся да манарха са словамі: "Я прыйшоў сюды толькі таму, бо ваша міласьць загадалі прыйсьці. Я выконваю вашу волю як вернападданы... Я прашу вашу міласьць не ўступайце са мною ў судовую справу, бо я не пакліканы сюды літарай закону. Я прашу адпусьціць мяне адсюль з добрымі думкамі". Замест "адпусьціць" каронны канцлер В. Дэмбіньскі зачытаў падрыхтаваную пастанову: "Міласьцівы пан Астафей, вы чулі загад каралеўскае міласьці, таму выконвайце прысягу... у іншым выпадку каралеўская міласьць неадкладна забярэ вашыя маёнткі і распарадзіцца імі, як палічыць патрэбным". Падканцлер А. Валовіч суха адказаў" "Ваша міласьць рабіце са мной што вам заўгодна — прысягаць я не магу". Тут-жа прынялі пастанову забраць маёнткі.

Калі ў Літве даведаліся аб далучэньні Падляшша і Валыні, Гаспадарская рада задумала паслаць пасольства да крымскіх татараў з прапановай ваеннага саюзу супраць Польшчы. У Польшчы таксама загаварылі аб вайне і паходзе на Вільню і Трокі. Польскае каталіцкае духавенства ў ВКЛ супрацівілася саюзу з татарамі і абвешчаньня "паспалітага рушэньня". Яно пачало агітаваць шляхту паўплываць на магнатаў аднавіць перамовы з Польшчай. Такім чынам замест ваеннага настрою пачаў атрымліваць перавагу настрой замірэньня.

У пачатку красавіка літоўская дэлегацыя, узначаленая Янам Хадкевічам, выехала ў Люблін спаткацца з каралём, сэнатарамі, апраўдаць ліцьвіноў, што пакінулі Люблін, прыабяцаць палякам, што ліцьвіны вернуцца. Ян Хадкевіч прасіў караля адклікаць пастанову ад далучэньні Падляшша і Валыні, Яму адказалі, што справа Падляшша і Валыні канчаткова вырашана. Неўзабаве ліцьвіны пачалі варочацца ў Люблін і даведаліся пра пастанову далучэньня Брацлаўскага і Кіеўскага ваяводзтваў да Польшчы. Ян Хадкевіч пісаў канцлеру М.Ю. Радзівілу /Рудому/: "Усе нашыя справы ідуць усё горш і горш, і ня ведаю, як іх паправіць. Палякі, забраўшы ў нас ваяводзтвы і людзей, жадаюць, каб мы іх абаранялі, пэўна, каб хутчэй вынішчыць нас". Калі ён гэтыя словы паўтараў сэнатарам, яны маўчалі, бо вельмі адвочным было іх рабаўніцтва. Кракаўскі біскуп П. Паднеўскі ўльтыматыўна заявіў, што перамоваў ня будзе, пакуль ліцьвіны не пагодзяцца на польскі праект вуніі. Таму Ян Хадкевіч пісаў М. Ю. Радзівілу, што ўсе польскія артыкулы прымаюцца не па ўзаемнай згодзе, але пад польскім прымусам. Аднак у Я. Хадкевіча цяплілася іскра надзеі абараніць тытул вялікага князя, дзяржаўную пячатку, заканадаўства і войска. Пачынаючы з 20-га чэрвеня пачаліся гарачыя спрэчкі з палякамі аб дзяржаўнай літоўскай пячатцы. Ліцьвіны разумелі, што калі яны адступяць і зракуцца пячаткі, то гэта азначала-б, што зракаюцца сымбалю дзяржаўнасьці.

Так надыйшоў дзень 27-га чэрвеня... Ян Хадкевіч у прысутнасьці сэнатараў зьвярнуўся да Жыгімонта Аўгуста: "...Ад дзядоў і прадзедаў заўсёды было так, што не паводле спадчыны, а за вольным абраньнем ваша мосьць панавалі над намі. Калі мы належым да вашай каралеўскай спадчыны, якую перадаеце Кароне, тады разам са спадчынай аддаеце нас у падданства Кароне. Мы ня думаем, каб маглі з добрым сумленьнем, з добрай славай і і добрым розумам згадзіцца на гэта. Няма звычаю, каб падданыя зацьвярджалі дары сваіх паноў, калі мы зацьвердзім варшаўскі "рэцэс", дык зацьвердзілі-б спадчыну і разам з тым наша падданства Кароне. Просім вашу каралеўскую мосьць, пана нашага, няхай гэтая вунія закончыцца так, каб ніякай ганьбы на нас не засталося. Нам і нашым унукам было-б вельмі балюча, калі-б з часам высьветлілася, што на вунію трэба глядзець не з любоўю, а з жалем, што мы мусім вінаваціць сябе за тое, што не разумелі свайго зняволеньня". Пасьля гэтых слоў Ян Хадкевіч упаў перад манархам на калені, са сьлязамі прасіў Жыгімонта Аўгуста: "Просім дзеля Бога, успомніце нашую службу, нашую вернасьць, нашую кроў, якую мы пралівалі дзеля Тваёй славы. Учыні так, каб усім нам быў гонар, а не зьдзек і паніжэньне. Захавай сваё панскае сумленьне. Дзеля Бога просім вашую мосьць памятаць сваю прысягу, якую складалі нам".

Заклік Я. Хадкевіча не падзейнічаў на караля і сэнатараў. Лёс Вялікага Княства ўжо быў загадзя вырашаны. Каронны падканцлер Францішак Красіньскі зачытаў падрыхтаваны адказ караля: "...Я ніколі не пераконваў-бы вас, каб бачыў зьнявагу і прыніжэньні для вас. І паколькі я бачу, што польская справа прынясе вам пажытак і славу, дык я павінен ня толькі раіць, але праз сваю ўладу схіляць вас да вуніі".

Наступныя два дні апрацоўвалі люблінскі акт. Калі акт чыталі 1-га ліпеня 1569 г., то прысутныя і непрысутныя палякі плакалі ад радасьці і зразумела чаму, бо бяз бою атрымалі ад Літвы чатыры ваяводзтвы. Ліцьвіны таксама плакалі, але з жалю, што "мілыя браты" абрабавалі Вялікае Княства. Канцлер Вялікага княства Літоўскага Мікалай Ю. Радзівіл /Руды/ адмовіўся прывесіць пячатку да ганебнага акту. Яго падтрымалі ваяводы і кашталяны Васіль Тышкевіч, Павел Пац, Станіслаў Пац, Юры Осьцік і князі Юры Слуцкі і Ян Саламарэцкі.

Калі падумаем аб падзеях і асобах паловы XVI ст. і аб сучасных дзеячах Беларусі, то знойдзем шмат агульнага паміж імі. Атрымоўваецца, што гісторыя паўтараецца, толькі мяняюцца пэрсанажы і абставіны.

## Адзін з кіраўнікоў паўстання вязняў Нарыльскага ГорЛага Р.Клімовіч лічыць, што беларусам не дазваляе стаць вольнымі страх, які прадаўжае ў іх жыць

"Страх, які і сёння прадаўжае жыць сярод беларусаў, не дазваляе ім стаць свабоднымі людзьмі". Такую думку выказаў Рыгор Клімовіч – аўтар кнігі "Канец ГорЛага", прэзентацыя якой адбылася вечарам 5 кастрычніка ў Менску ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Кніга выдадзена Архівам найноўшай гісторыі Беларускага гуманітарнага фонду "Наша Ніва". Яе аўтар правёў у спецлагерах ГУЛага 13 гадоў і быў адным з кіраўнікоў паўстання вязняў Нарыльскага ГорЛага. Па словах Рыгора Клімовіча, у ГорЛагу налічвалася боль пяці тысяч беларусаў, якія разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў арганізавана падняліся на паўстанне пад Чорна-чырвоным сцягам (колеры абазначалі адмаўленне савецкай сістэмы і пралітую кроў вязняў) за свабоду чалавека і свабоду народа. Паўстанне было жорстка задушана і толькі канчына Лаўрэнція Берыі выратавала жыцце Р.Клімовіча і яго 1.500 таварышаў, што прынялі ўдзел у паўстанні і былі прыгавораны да смерці. "Мы вышлі з лагера больш вольнымі, чым савецкія людзі, што жылі ў стране на волі", --- заявіў на прэзентацыі Р.Клімовіч. Што тычыцца сённяшняй сітуацыі ў краіне, то, на думку былога палітвязня, усім апазіцыйным сілам неабхода аб'яднацца перад тварам дыктатарскага рэжыму, адноўленага ў Беларусі і выкарыстоўваць духоўны досвед з ветэранаў нацыянальнага вызвольнага руху. Асаблівае значэнне, адзначыў Р.Клімовіч, мае "пакаянне нацыі за духовую слепату і абыякавасць у недалёкім мінулым",- "сённяшні рэжым у Беларусі не зможа існаваць без свайго ГУЛага, і гэта можа адбыцца дастаткова хутка. І не думайце, што вашага суседа арыштуюць першым, першым якраз возьмуць тога, хто так думае", - папярэдзіў Р.Клімовіч. Вядомы палітвязень выказаў шкадаваньне з нагоды таго, што досвед удзельнікаў супраціву таталітарнаму рэжыму, якія падняліся супраць яго ў экстрэмальных умовах, так і не стаў набыткам народа Беларусі.

Рэдактар кнігі, дырэктар Архіва найноўшай гісторыі Алег Дзярковіч адзначыў, што аўтар не паддаўся спакусе мадэрнізацыі падзей мінулага і захаваў у сваіх успамінах дух часу. Ён выказаў удзячнасць вядомаму польскаму фотамайстру Томашу Кізнаму за магчымасць выкарыстання ў выданні фотаздымкаў з цыклу "Час імперыі", зробленых у канцы 50-х гадоў на месцах былых савецкіх лагераў. Прэзыдэнт маладзевага культурна-асветніцкага цэнтра "Яравіт" (Гомель) Яўген Касцюшка заўважыў, што такія людзі, як Рыгор Клімовіч, з'яўляюцца жывымі крыніцамі лепшых чалавечых якасцяў, якія дазволілі ім пераджыць трагічны лёс і захаваць чалавечую годнасць. Паводле яго словаў, абапіраючыся менавіта на такіх людзей, Беларусь павінна будаваць сваю лепшую будучыню. Выдатна выданую, накладам у 500 асобнікаў, кнігу дадае спіс беларусаў, што ўзначалілі падчас Нарыльскага паўстання беларускую супольнасць, слоўнік спецыфічнай лексікі і некалькі планаў ГорЛага.

*Марат Гаравы, БелаПАН*

## З 90-мі Ўгодкамі...

Жыццё злучае і роднiць людзей. Сям'ю Каханоўскіх пазнаў я ў Нямеччыне і дапамог пераехаць у ЗША. У Кліўлендзе мы нейкі час жылі як адна сям'я. Ад гэтага часу сп-ня Яня Каханоўская засталася ў маім сэрцы што родная маці. У яе жыцьці надараліся непрыемныя, нават трагічныя моманты, якія, дзякаваць Богу, не паўплывалі на яе характар. Юбілярка да кожнага адносілася ветліва, з усьмешкаю, была спачувальнай, старалася кожнаму дапамагчы. Яе асалодаю ў жыцьці быў унук "Данчык", якога яна песьціла і ўзгадоўвала на беларускага патрыёта і сьпевака.



Так дарагая сп-ня Яня дажыла да свайго слаўнага юбілею, і дай Божа дачакацца наступнага.

Сёньня разам з жонкаю Тамарай і сынам Пятром складаю свае шчырыя зычэньні сп-ні Яні, гэтай сьціплай, сумленнай жанчыне, якая сваё жыццё аддала грамадзкай працы, памятаючы, што яна нашчадак Луцкевічаў, якія свае жыцьці склалі на алтар Бацькаўшчыны.

З глыбокай пашанаю, *Міхась Белямук.*

**Станіслаў Шушкевіч:** "Наша Ніва"

# «Я расчараваўся ў камунізме»

***Наша гутарка са Станіславам Шушкевічам, які правёў краіну ад камунізму да незалежнасьці, адбывалася ў дзень кастрычніцкай рэвалюцыі, але пачалася з тэмы зусім іншага дня.***

**Станіслаў Шушкевіч:** Нам учора не ўдалося сустрэцца, бо я быў на могілках. Там нас сабралося два сыны і тры дачкі, унукі — да бацькі, дзеда... Для мяне вельмі важна бываць там, ля бацькі. Я хацеў бы быць падобным да яго ў сваім стаўленьні да жыцьця, сяброў, да сытуацыі. І дай Бог, каб я мог вытрымаць, калі трэ будзе вытрымаць тое, што ён вытрымаў...

**— Такое можа стацца?**

— У нас чалавек цяпер, як у савецкія часы, не абаронены ніякімі законамі, ні судом, усё падпарадкавана адной пэрсоне, для якой хлусьня і непрыстойнасьць — рэчы цалкам звыклыя. Таму мне здаецца, што ніякія агіднасьці ня выключаныя.

**— Дзяды і Акцябарскія амаль зьбягаюцца ў нашым календары. Якое са сьвятаў застанецца?**

— Ведаеце, у нашай сям'і заўсёды хадзілі на могілкі недзе ў вольны дзень каля першага мая і ў вольны дзень каля сёмага лістапада.

**— Першы верш Вашага бацькі быў прысьвечаны памяці Леніна. Чым быў для яго Ленін? Чым быў камунізм?**

— І бацька, і маці шчыра верылі ва ўладкаваньне грамадзтва на падставе камуністычнай ідэі. Мая маці таксама напісала першае апавяданьне пра тое, як гэта добра, калі маецца калгасны вялікі сад проці таго, як было раней, калі яе брата ў дзяцінстве нехта пабіў за тое, што ён залез у прыватны сад. Паходзілі яны зь вельмі небагатых сем'яў і сьвята верылі ў камуністычную ідэю. Маці расчаравалася ў ёй — яна памерла ў 1980 годзе, і яе расчараваньне адбылося пасьля таго, як і я расчараваўся ў гэтай ідэі недзе ў сярэдзіне 70-х, зьезьдзіўшы ў Польшчу. Я проста паслухаў там пэўныя выступленьні будучага Папы Рымскага, а тады арцыбіскупа Караля Вайтылы, і пачаў задумвацца над тым, што мы робім і што адбываецца.

А бацька... Бацька, і вярнуўшыся з Гулагу, настойваў на тым, што камунізм — ідэя справядлівая, але выканаўцы дрэнныя, што многа непрыстойных людзей падманам вышлі ў кіраўнікі і паводзяць сябе ня так, як належыць сябе паводзіць сапраўдным камуністам. Я папрасіў журналістаў азнаёміцца з асабістай справай майго бацькі ў КГБ. Самому мне было нават трохі страшнавата — а раптам натраплю на нейкую цёмную пляму... Аказалася, што мой бацька нікога не заклаў, ні разу не пайшоў супраць сумленьня, хоць, я ведаю, іншыя паклёпнічалі, яшчэ й як. Бацька, дарэчы, іх не абвінавачваў, бо ведаў, якімі катаваньнямі былі вырваныя прызнаньні-нагаворы.

Ворагамі ён лічыў толькі тых, хто добраахвотна, абы захаваць сябе пры нейкай кармушцы, працавалі ў рэпрэсіўным апараце, выносілі прысуды. Аднаго такога ён сустрэў на вуліцы. Пасьля расшукаў аказалася, што той працуе ў Акадэміі Навук. І мой бацька там такі шурум-бурум падняў, што ад гэтага чалавека мусілі пазбавіцца. Бацька памёр у 91-м годзе 1 лютага. І да скону верыў. Але ён пры гэтым катэгарычна змагаўся з хлусьнёй, з крывадушшам. Ён верыў і ў тое, што Ленін быў такім чалавекам, якім яго малявала камуністычная іканаграфія. Тое, у чым ён быў пераканаexisting, з таго яго зрушыць было немагчыма.

**— Але камунізмаў было шмат: расейскі камунізм, беларускі нацыянал-камунізм, украінскі хвылёвізм... У які верыў Ваш бацька?**

— Ува ўсіх камунізмаў была адна агульная рыса — гэта ўпэўненасьць у неабходнасьці грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Астатняе — дзе, што і як, а вось гэтае было галоўным. Бацька верыў, што на падставе грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці можна пабудаваць прыстойнае грамадзтва. Увогуле, гэта ў традыцыі — паважліва ставіцца да грамадзкай маёмасьці. Мой дзед, дзед Шушкевіч, калі йшоў і на дарозе бачыў камень, дык выходзіў на дарогу і адкідаў яго — бо гэта ж у машыне можа нешта пабіцца ці конь можа нагу зьбіць. Бо гэта ж дарога, гэта належыць усім.

**— Вы сказалі, што ў аснове левага руху ў XX ст. было патрабаваньне грамадзкай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. А што будзе ў грунце левага руху ў XXI стагодзьдзі?**

— Мушу ўдакладніць, што лёзунг грамадзкай уласнасьці быў толькі прыкрыцьцём для ўсталяваньня, захаваньня і ўмацаваньня дыктатуры — спачатку гэта называлі дыктатурай партыі, пасьля пралетарыяту, але фактычна гэта была дыктатура найвышэйшых партыйных ерархаў. Прыкрыцьцём для дыктатуры нацыяналістычнай, савецкай ці іншай.

Што павінна быць у левым руху ў XXI стагодзьдзі? Гэта няпростая размова. Калі ўзяць сёньня, напрыклад, праграмы розных беларускіх партыяў, дык убачым, што праграмы лібэралаў, сацыял-дэмакратаў і іншых рухаў мала чым адрозьніваюцца. Розьніца толькі ў адным: якая доля валавага ўнутранага прадукту павінна пераразьмяркоўвацца ў грамадзтве, ісьці на сацыяльныя праграмы. Камуністы, ні пра што не клапоцячыся, апроч сваёй улады, заўсёды сьцьвярджалі, што гэта павінна быць вельмі вялікая доля. Лібэралы кажуць, што калі не стварыць умоваў для вольнай канкурэнцыі, запаволіцца разьвіцьцё грамадзтва. Правая сацыял-дэмакратыя, у тым ліку й наша Грамада, лічыць, што бюджэтнаму пераразьмеркаваньню мусіць падлягаць такая частка валавага ўнутранага прадукту, якая б не тармазіла разьвіцьцё грамадзтва, ня стрымлівала рост эканомікі. Галоўны крытэр таго, што грамадзтва добра разьвіваецца — паказчык росту валавага ўнутранага прадукту на душу насельніцтва. Польшча ўяўляе вялікі прыклад супрацоўніцтва лібэральных ідэяў Бальцаровіча і сацыял-дэмакратыі. Пры гэтым адбываецца карэкцыя лібэральных ідэяў у бок пабудовы капіталізму, кшталту таго, які існуе ў Швэцыі. У адрозьненьне ад Расеі, дзе ўзьнік алігархічны капіталізм.

**— У Польшчы існуе нацыянальны кансэнсус па прынцыповых пытаньнях — арыентацыя на NATO і Эўразьвяз, павага да прыватнай уласнасьці і капіталістычныя рэформы. У нас нацыянальнага кансэнсусу не прадбачыцца. Ці — прадбачыцца ўсё ж?**

— Расейская імпэрыя, расейскія шавіністы шмат пастараліся, каб такога кансэнсусу не магло ўзьнікнуць ні ў той Польшчы, ні ў нас у Беларусі. У нас ім удалося лепш. Бо хто ёсьць творцам нацыянальнага кансэнсусу і носьбітам нацыянальнай традыцыі? Нацыянальная інтэлігенцыя, эліта грамадзтва. Беларускую эліту вынішчылі цалкам. Першае вынішчэньне адбылося ў XIX стагодзьдзі пасьля вызвольных паўстаньняў, якія былі перадусім беларускімі паўстаньнямі — бо Каліноўскі такі самы паляк або літовец, як я кітайскі імпэратар. Другое вынішчэньне правёў камуністычны рэжым, і яно з усёй нашай пішучай інтэлігенцыі — пісьменьнікаў, навукоўцаў, філёлягаў — не закранула хіба што 7 чалавек. Беларускі дасьледчык Леанід Маракоў зрабіў цікавыя параўнальныя дыяграмы, грунтуючыся на зьвестках зь беларускіх і расейскіх архіваў. У 30-х гадах у Беларусі, Украіне й Расеі доля творчай, пішучай інтэлігенцыі ў працэнтах ад усяго насельніцтва была прыкладна аднолькавай. Пад час рэпрэсіяў жа і ў нас, і ва Ўкраіне, і ў Расеі загінула прыкладна па 400 прадстаўнікоў пішучай інтэлігенцыі. Але калі для Расеі гэта была невялікая частка ўсіх, дык у нас амаль усе да аднаго. Каму ж было адстойваць гэтую мову і гэтую традыцыю? Вось чаму няма каму супрацьстаяць тым псэўдаінтэлігентам-недавукам, што служылі і служаць уладзе, уводзячы людзей у зман. Між тым, часта ў нас — і Ваша газэта гэта часта сабе дазваляе — абвінавачваюць народ, што гэта ён такі несьвядомы, што ён не трымаецца сваёй мовы і нацыянальнай традыцыі, што даў ажыцьцявіцца дзяржаўнаму перавароту, антыбеларускаму па сваёй сутнасьці.

**— Лукашэнка — левы ці правы?**

— Ён увогуле левы, але спытайцеся ў яго, у чым адрозьненьне паміж левымі й правымі, ён Вам ня скажа. Спытайцеся ў яго, адкуль паходзяць гэтыя тэрміны — «левы» і «правы», ён ня скажа. Ён ня мае ўяўленьня пра палітычныя ці эканамічныя лады. Ён прымітыў, і імкнецца праводзіць простую па сутнасьці палітыку. Але грамадзтва цяпер такое, што ня можа быць прымітыўных рашэньняў. У гэтым драма Беларусі. Ёсьць няпростыя рашэньні ў эканоміцы і вельмі няпростыя ў палітыцы, але такія рашэньні здольныя прымаць толькі добра падрыхтаваныя людзі.

**— Беларусь часта называюць «запаведнікам камунізму». Калі злучыць «запаведнік камунізму» і алігархічную Расею, што атрымаецца?**

— Пры ідэалягічных аб'яднаньнях звычайна атрымліваецца, што атрыманае ўтварэньне наследуе найгоршыя рысы тых, што аб'ядноўваюцца. Цяперашняе аб'яднаньне Расеі зь Беларусяй накіраванае на захаваньне ўлады чалавекам, які прывёў Беларусь да крызысу. Прадуманае аб'яднаньне, напрыклад, аб'яднаньне Эўропы, адбываецца зусім на іншым грунце.

**— Вы былі дэлегатам апошняга зьезду Камуністычнай Партыі Беларусі. Чым для Вас застаўся гэты зьезд?**

— Тое, што я быў дэлегатам, было ў пэўным сэнсе выпадковасьцю. Мяне не вылучала ні партыйная арганізацыя ўнівэрсытэту, ні сыстэмы Міністэрства вышэйшай адукацыі. Мяне вылучылі ў канструктарскай арганізацыі, дзе я некалі выступаў — нават не прыгадаю цяпер, як называлася гэтая арганізацыя. Там працавалі сапраўдныя інтэлігенты, на той сустрэчы яны мне задавалі вельмі цікавыя пытаньні — і вось перад зьездам я даведаўся, што яны мяне вылучылі дэлегатам.

Я ня быў чалавекам, які адчуваў у 1989 годзе, што СССР праз год-два перастане існаваць. Стаўшы народным дэпутатам, я меў надзею, што мы ўпарадкуем гэтую сыстэму, што мы створым канфэдэрацыю. Я ў дарозе фармаваўся. Калі я быў на XXXI зьезьдзе дэлегатам, я шчыра думаў, што можна зрабіць праз гэтую арганізацыю, якая мае ўладу, якая мае структуру, каб жыцьцё наша стала больш людзкім і больш беларускім. Я лічыў, што трэба, каб у нас была беларуская камуністычная партыя, а не партыйнае аддзяленьне КПСС. Фактычна, гэта было ў нас галоўнае пытаньне на XXXI зьезьдзе КПБ, гэта было тое, чаго я дабіваўся. А што датычыць выбараў кіраўнічых органаў, я не падтрымліваў партыйных інтэлектуалаў, бо ведаў іх здрадніцкі характар. Не хачу называць прозьвішчы.

**— Вам асабіста і нацыянальна-дэмакратычным сілам увогуле ўдалося шмат чаго дабіцца ў справе пабудовы дзяржаўнасьці на пачатку 90-х. Як Вы лічыце, ці ўдалося б зрабіць столькі ж, каб на XXXI зьезьдзе КПБ перамаглі не памяркоўныя, а артадоксы на чале з Бровікавым?**

— Я думаю, гэта ніяк бы не паўплывала на сытуацыю. Той зьезд паказаў, што палова партыі выступае за тое, каб ісьці да беларускай дзяржавы. Я ведаў Бровікава з даўніх часоў. Ён быў сапраўдным інтэлектуалам, вельмі адукаваным чалавекам, але, на жаль, абсалютна антыбеларускім дзеячом, цалкам перавыхаваным Масквою.

**— Хто зь беларускіх камуністычных кіраўнікоў зрабіў дабро для Беларусі?**

— Лепшыя беларускія кадры забіралі ў Маскву, і калі яны й вярталіся, дык вярталіся вернымі эмісарамі Масквы, а тут рыхтаваліся кадры, якія верна выконвалі ўсё, што ім загадвалі. У тым ліку Машэраў, калі паглядзець, мала дбаў пра нацыянальныя інтарэсы. А вось Міхаіл Кавалёў, старшыня ўраду, пра якога цяпер згадваюць нячаста, у любых пытаньнях, аж да вывазу беларускай сельгаспрадукцыі, упарта адстойваў нашы інтарэсы і нават дазваляў сабе не падпарадкоўвацца нейкім загадам з Масквы.

**— А чыя заслуга ў тым, што ў Менску паставілі помнікі клясыкам беларускай літаратуры?**

— Ня ведаю, чыя гэта заслуга, але лепшым помнікам Якубу Коласу было б тое, каб ягоная

 



ўнучка магла пайсьці ў беларускую школу, а яна такой магчымасьці за Машэрава ня мела і цяпер ня мае. Або каб збор твораў Янкі Купалы быў выдадзены ў поўным выглядзе, а не без 70 твораў, як у тыя гады. «Табе, правадыр, нашы песьні і думы І шчырага-шчырага сэрца парывы» ня выкінулі, а найважнейшыя творы выразалі.

**— Якія з гаспадарчых праектаў камуністычнай эпохі Вы ацэніце як карысныя для Беларусі?**

— Вельмі цяжкім грузам вісяць на нас цяпер машынабудаўнічыя гіганты, якія паціху канаюць і вельмі цяжка рэфармавацць...

**— Адам Міхнік неяк сказаў: «Змагаючыся з камунізмам, мы й ня ведалі, якія пачвары павылазяць пасьля ягонага падзеньня». Ці датычыць гэта нашага грамадзтва?**

— Мы пра гэта ня раз гаварылі з Адамам. Я тут заўважу трохі іншае. Да ўлады ў нас прыйшлі людзі мала дасьведчаныя ў эканоміцы і палітыцы. Іх рашэньні не абгрунтаваныя навукай. Прыкладам, Лукашэнка дамагаецца аб'яднаньня з Расеяй, але робіць гэта фактычна толькі для захаваньня ўласнай улады, а не для карысьці Беларусі...

**— Адна з кніг Вашага бацькі называецца «Казёл на верталёце». Дык калі ў яе зноў зьявіцца шанец быць перавыдадзенай?**

— У майго бацькі была іншая кніга — «Зьвярыны баль», яшчэ даваенная, у якой апісваецца, як добрыя, пачцівыя зьвяры скідаюць тырана-лява і балююць ад радасьці. Гэтак будзе і ў нас. Толькі б не прыйшла пасьля з трэцяй бацькавай кнігі «Ліса з магнітафонам».

**Гутарыў Андрэй Дынько**



**Сяргей ШУПА**

## Кучма — беларус

**Прэзыдэнцкія выбары ва Ўкраіне, здавалася б, ня маюць дачыненьня да беларускага культурнага кантэксту. Аднак пару тыдняў таму, напярэдадні першага туру, адбылася адна падзея, якая мусіла б знайсьці шырокі водгук у Беларусі.**

**А падзея гэтая — рэпартаж расейскага тэлеканалу НТВ з роднай вёскі Леаніда Кучмы. Пад час гутарак з аднавяскоўцамі ўкраінскага прэзыдэнта выявіўся яскравы факт — усе ўдзельнікі сюжэту гаварылі па-беларуску. Гэта была чыстая — без украінскіх або расейскіх дамешак — беларуская мова. Ясная справа, што ні аўтары сюжэту, ні расейскія гледачы не зьвярнулі на гэты нюанс ніякае ўвагі — нічога дзіўнага, што ва Ўкраіне гавораць не па-расейску. Магчыма, што і ўкраінскія гледачы паставіліся да гэтага спакойна — мала якія бываюць украінскія дыялекты.**

**Тым часам паўночная Чарнігаўшчына — колішняя Северская зямля — усімі моваведамі заўсёды залучалася ў беларускі моўны абшар. Яна належыць да зоны сярэднебеларускіх гаворак, што, дарэчы, выразна чулася ў рэпартажы. Аўтары сюжэту зазначалі, што зусім побач тут — мяжа з Расеяй. Цалкам магчыма, што калі заехаць за тую мяжу, можна будзе пачуць тую самую мову. Пра блізкасьць беларускай мяжы НТВ і не прыгадвала — для расейцаў гэта ўжо нібы й не мяжа...**

**Кучмавы аднавяскоўцы амаль аднагалосна зьбіраліся галасаваць за земляка —.нават тыя, хто наракаў на цяперашняе жыцьцё й парадкі. Адзіным заўзятым апанэнтам Кучмы і агітатарам за ягонага суперніка Сіманенку быў мясцовы камуніст. Ён быў і адзіны, хто гаварыў не па-беларуску.**

**Што ж нам з усяго таго? Ды, бадай, нічога. Можна цешыць сябе думкай, што Леанід Кучма нарадзіўся і нейкую частку жыцьця пражыў у беларускамоўным асяродзьдзі — можа й сам нейкі час гаварыў толькі па-беларуску, бо йнакш ня ўмеў. Укладальнікі сьпісаў нашых славутых суродзічаў могуць сьмела прыпісаць ягонае прозьвішча туды, дзе ўжо Міхась Глінка й Тодар Дастаеўскі, Адам Міцкевіч і Гіём Апалінэр, Айзэк Азімаў і Ўэйн Грэцкі. Прынамсі цяпер Леанід Кучма будзе заўсёды выклікаць у мяне беларускія асацыяцыі.**

**Украінцы, бывае, пытаюцца ў нас — канфідэнцыйна, як пра нешта інтымнае і не зусім прыстойнае: «А гэты, ваш, Лукашэнко, выпадкам не ..?» Слова «ўкраінец» нават не вымаўляецца — страшна і сорамна, калі раптам праўда. «Ня бойцеся, гэты — наш, чый жа яшчэ...» — супакойваем мы. А цяпер во можам яшчэ й сказаць: «А гэты ваш — дык ён таксама наш. Але за гэтага хоць ня так сорамна...»**

# Кнігі генерала

### (З бібліятэкі Кастуся Езавітава)

Знаходцы, пра якую хачу распавесці, ужо не адзін дзесятак гадоў. Адбылося гэта ў адным з чытальных пакояў Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэкі Расіі, што ў Старасадскім завулку, недалёка ад сядзібы беларускага пасольства ў Маскве. Дарэчы, фонды маскоўскай «гістарычкі» прываблівають, акрамя іншага, даволі багатым, талкова сістэматызаваным раздзелам па беларусіцы; трапляюцца тут рэдкія, для даследчыка-беларусаведа часам нечаканыя выданні.

Павінен агаварыцца: у сярэдзіне сямідзесятых мае даследчыцкія інтарэсы былі далекаватымі ад беларусікі. І ўсё ж пры чытацкіх замаўленнях, акрамя профільнай літаратуры (па тэме даследавання), дадавалася адно-другое беларускае выданне. Нацыянальны неспакой, адчувалася, штораз глыбей, вастрэй варушыў ва мне пачуцці, патрабуючы адпаведнага наталення. Вось і тым разам сярод замоўленых кніг па гісторыі Польшчы, міжнароднага камуністычнага руху, па «мировому социализму» значылася і першае, прыжыццёвае выданне «Вянка» Максіма Багдановіча. Дома на паліцы стаяў двухтомнік паэта, але нейкае патаемнае пачуццё падштурхоўвала зазірнуць, патрымаць у руках слынную кніжачку «з друкарні Марціна Кухты».

Ужо з тытульнай старонкі, помніцца, мой лірычны настрой прыгасіла пытанне цалкам празаічнае: што за нечаканасць?! І замест таго, каб гартаць пажоўклыя старонкі паэтычнага зборніка, я застыў, слупянеючы, над пячаткамі чырвонага колеру, што красаваліся на тытуле. Першая з іх, што кінулася ў вочы, месцілася на ніжняй частцы аркуша, мела паўавальную, завостраную па баках форму і нагадвала сабой распаўсюджаны ўзор бібліятэчнага штэмпеля, але сведчыла пра кнігазбор прыватны: «Библиотека П.К.Пономаренко. N ....» (адсутнічау). У верхнім жа куткy заўважаліся яшчэ два авальныя відарысы, адрозныя зместам ад першага, панамарэнкаўскага. Гэтыя два другія ўспрыняліся мною напачатку неяк мімаходзь і не выклікалі асаблівага засяроджання. Увага, а з ёй абвостраныя пытанні-недаўменні цалкам былі скіраваны да першай, асабістай «пячаткі» вядомага ў свой час партыйнага і дзяржаўнага дзеяча. Беларуская унікальная кніжачка — уласнасць калісьці ўладарнага ў БССР чалавека — апынулася ў фондах маскоўскай бібліятэкі. Падарункавы жэст персанальнага пенсіянера ўсесаюзнага значэння? Але чаму ў такім разе было не адарыць Дзяржаўную бібліятэку Беларусі, якая пацярпела ў вайну? Аднак пафас маіх маўклівых ушчуванняў адразу прыціх, калі на ўнутраным баку тыльнай вокладкі зглядзеўся яшчэ адзін штэмпель: «Магазин 14», ніжэй, алоўкам — цана: 20 р. Стала ясна — за адплату, «праз магазін», кніжачка і перавандравала ад прыватнага ўладальніка ў сховішча «гістарычкі». Што ж, ёй тут, пэўна, будзе надзейней...

Цяпер вернемся да непасрэднай тэмы нашых разважанняў, канкрэтна — да двух другіх экслібрысаў на згаданым упачатку Багдановічавым «Вянку». Адзін з іх — вертыкальна выцягнуты авал з выявай «Пагоні» і абрэвіятурамі БПР(?) і НС (В.Герасімавым расчытана як Народны Сакратарыят). Побач яшчэ адна авальная выява з надпісам-аўтографам «К.Езовитов». Тады, пры першым азнаямленні, надпісы і прозвішча на гэтых штэмпелях, калі не хітраваць, не вельмі мне штосьць гаварылі. Можа, на сёе-тое намякалі (аб нечым палітычна-крымінальным). Тым не менш, канстатацыя факта адбылася: першым уладальнікам зборнічка Багдановічавых вершаў быў К.Езавітаў, пасля — П.Панамарэнка; ён жа праз маскоўскую кнігарню N 14 і прадаў гэтае выданне Расійскай гістарычнай бібліятэцы.

Неацэнную пазнавальную ролю адыграла знаёмства з асабістым фондам N 458 Канстанціна Барысавіча Езавітава ў Нацыянальным архіве Беларусі. Згаданы фонд, паводле інфармацыі дырэктара Вячаслава Селяменева, пераказалі ў архіў у свой час з Камітэта Дзяржбяспекі БССР, дзе, як вядома, сустрэў апошні прыпынак адзін з арганізатараў І Усебеларускага з'езда, заснавальнікаў Беларускага Войска, апальны генерал, ён жа — нацыянальны асветнік і паэт Кастусь Езавітаў. Сярод унікальных матэрыялаў фонду знаходзіцца каталог часткі езавітаўскай бібліятэкі, напісаны ім уласнаручна.

На першай старонцы загаловак: «Каталог беларускіх кніжак, якія я маю, па гадам выданьня». Ніжэй — падзагаловак: «1. Кніжкі беларускія і аб беларусах і Беларусі, выдадзены да пачатку XX стагоддзя».

Усяго ў каталогу ўлічана каля 300 назваў кніг, распісаных у храналагічнай паслядоўнасці. Прадстаўлены тут і «Вянок» М.Багдановіча — верагодна, той самы, што цяпер захоўваецца ў маскоўскай «гістарычцы». Пазначана ў гэтым як зводзе некалькі друкаў малавядомых, прынамсі, у ведамых мне бібліяграфічных крыніцах не зафіксаваных.

У «Каталогу» Езавітава зафіксаваны сем выданняў працы М.Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі». Вяртаюся да панамарэнкаўскай «калекцыі» — замаўляючы і ідэнтыфікуючы адпаведныя выданні, з надзеяй натрапіць на чарговыя экслібрысы Езавітава. Зглядзеліся шуканыя знакі яшчэ на адной кніжачцы: Купала Я. Раскіданае гняздо (Вільня, 1919). Затое нечакана трапіліся два іншыя бібліятэчныя штэмпелі на кнігах, якія ўскосна дазваляюць аднесці іх таксама да Езавітавага кнігазбору. Першы — у выглядзе прамавугольніка чырвонага колеру з надпісам «Беларуская школа ў Латвіі», пазначаны на зборніку Ф.Багушэвіча «Дудка беларуская» (Коўна, 1922); другі, падобны формай і колерам, з надпісам «Голас Беларуса. Рэдакцыя» — на Купалавай «Спадчыне» (Мн., 1922).

Асобнай увагі патрабуюць яшчэ дзве кнігі, дзе ёсць маргіналіі на некаторых старонках, як сведчанне таго, што гэтыя выданні прайшлі праз рукі Езавітава. Рукапісныя паметы на палях надта падобныя да ягонага почырку — на іх варта спыніцца.

У Купалавым зборніку «Шляхам жыцьця» (Пб., 1913) на ст. 229 насупраць першае страфы паэмы «На папасе» паметка алоўкам: «Такім спосабам уяўляў сабе Янка Купала «хождение в народ», як тое прадугледжвалася працай народавольцаў, а таксама загаворшчыкаю працаю прад паўстаннямі польска-беларуска-літоўскімі». Не засталося незаўважаным і чатырохрадкоўе, адкрэсленае вертыкальнай лініяй, з «птушачкай» проці апошняга радка (ст. 239):

*Йдуць песьні, казкі ў дамавіну,*
*Якія дзед сьпяваў, складаў,*
*Сваё жалейкі люд закінуў,*
*Чужым сьвісьцёлкам месца даў.*

Згаданыя вышэй паметы цікавыя найперш для асэнсавання літаратурна-мастацкага светаўспрымання і ў нейкай ступені — паэтычнага густу Кастуся Езавітава. З гісторыка-літаратуразнаўчага боку больш каштоўнымі падаюцца ягоныя маргіналіі на «Гісторыі беларускай літаратуры» М.Гарэцкага (выд. 4-е, Мн., 1926). Так, на ст. 117, дзе гаворка ідзе пра творчасць Яна Чачота, ён пакідае наступнае ўдакладненне: «У беларускай мове былі вядомы да 1922 году 29 вершаў, напісаных самім Чачотам. У 1922 годзе знойдзены яго ранейшыя вершы. Аб (слова не расчытана) у стацьці Ст.Станкевіча — «Беларуская філёмацкія вершы Яна Чачота», 1935 г., «Калосьсе», т.3, 159—169". Невялічкая заўвага на ст. 128 выклікана разглядам творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча: «М.Гарэцкі зусім не ўспамінае аб «Залётах». На глыбейшыя, канцэптуальныя развагі наводзяць паметы рымскімі лічбамі І, ІІ, ІІІ, IV на ст. 131, проці пасажа М.Гарэцкага пра няпростыя абставіны сталення новай беларускай літаратуры: чужамоўны характар пануючай у краі культуры, адсутнасць уласна беларускай перыёдыкі і залежнасць ад «добрай волі» рэдактараў расейскіх выданняў, неадназначная пазіцыя краёвай спольшчанай шляхты і г.д.

З разгледжанай вышэй кніжнай калекцыі нельга абмінуць яшчэ адзін прыкметны экслібрыс, заўважаны на «Беларускім календары Сваяк на **1919 год**», выдадзеным у Вільні В.Ластоўскім. На тытуле кнігі, над ужо знаёмай чырвонай пячаткай выразна чарнее тушаваны відарыс — стройны сілуэт паністага суродзіча, з прыўзнятым капялюшам перад рашучым вершнікам-пагонічам на ўздыбленым кані, а ўнізе — шматзначныя і даволі «празрыстыя» літары ВЛ. Кніжная пячатка пана Вацлава? Нечаканы след яшчэ аднаго кнігазбору — славутага сакратара «Нашай нівы»? Словам, «властазнаўцам», і не толькі, ім ёсць над чым засяродзіцца.

**Аляксей КАЎКА.**

## Няма нацыянальнага стрыжня

Зусім нядаўна мне давялося прысутнічаць на пашыраным паседжаньні Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, што застаўся на пазыцыях Канстытуцыі 1994 году. І вось што мяне там уразіла. Усе папярэдне падрыхтаваныя дакументы былі выключна на расейскай мове. На расейскай мове вялося і паседжаньне. Нават тыя дэпутаты, што ў кулуарах прыватныя гутаркі вялі па-беларуску, там сталі размаўляць выключна на расейскай мове. Хоць гэта і зьдзівіла мяне, але адначасова падумалася: "А можа сапраўды ўся наша бяда ў тым, і гэтага складу беларускага парлямэнту таксама, што няма ў нас нацыянальнага стрыжня"

*Язэп Палубятка*

 

# *Апанэнты Зянона Пазьняка абралі сваім новым старшынём Вінцука Вячорку.*

***За яго аддалі галасы 228 дэлегатаў зьезду. За спадара Пазняка было аддадзена 11 галасоў.***

Аднак у выніку скандалу паміж прыхільнікамі Вячоркі й Пазьняка большая частка дэлегатаў пакінула залю паседжаньняў. Канфлікт пачаўся з таго, што прадстаўнікі партыі Зянона Пазьняка на працягу 2-х гадзінаў не дапускалі ў будынак палацу культуры "Сукно" сваіх апанэнтаў зь лягеру Вячоркі.

Абодва бакі, абвінавачвалі адзін аднога ў жаданьні прыцягнуць на зьезд як мага большую колькасьць сваіх прыхільнікаў, каб выйграць галасаваньне ў выбары старшыні БНФ. А паколькі паплечнікі З. Пазьняка зьяўляліся ўчора афіцыйнымі арандатарамі залі палацу, то ў сувязі з гэтым яны не хацелі саступаць мейсца ў прэзыдыюме сваім апанэнтам.

У выніку прыхільнікі В. Вячоркі, якіх у залі аказалася бальшыня, пакінулі паседжаньне зьезду. Паплечнік сп. Вінцука Лявон Баршчэўскі заклікаў гэтую частку дэлегатаў правесьці зьезд ў тым жа памяшканьні, але а 18-й гадзіне ўвечары.

Тым часам, 111 дэлегатаў-прыхільнікаў сп. Пазьняка правялі пад кіраўніцтвам Юрася Беленькага асобны зьезд, пад час якога падцьвердзілі паўнамоцтвы свайго лідэра, а таксама абралі новых намесьнікаў старшыні арганізацыі – спадароў Анцыповіча Старчанку й Беленькага.

Зьезд прыхільнікаў т. зв. палітыкаў "новае хвалі", які пачаўся ўчора ўвечары, прыняў рашэньне аб правядзеньні таемнага галасаваньня па кандыдатурах старшыні гэтае часткі Фронту, шасьці ягоных намесьнікаў і 49-ці сябраў Сойму БНФ.

Было раздадзена 246 выбарчых бюлютэняў і дэлегаты на працягу паўгадзіны апускалі іх у скрыні. Падліковая камісыя працавала амаль усю ноч і сёньня на ранішнім паседжаньні зьезду былі абвешчаныя вынікі галасаваньня.

11 дэлегатаў аддалі свае галасы Зянону Пазьняку, 228 чалавек выказаліся за тое, каб старшынём гэтае фронтаўскае групы стаў Вінцук Вячорка. Ягонымі намесьнікамі зьезд бальшынёю галасоў абраў спадароў Бяляцкага, Хадыку, Сіўчыка, Івашкевіча, Фёдарава й Севярынца. Кандыдатура сп. Беленькага, вылучаная на ліпеньскай сэсыі зьезду тады яшчэ адзінага Фронту Зянонам Пазьняком не атрымала дастатковай падтрымкі дэлегатаў. Зьезд прыхільнікаў Вінцука Вячоркі абраў новы склад Сойму й кіруючыя ворганы партыі БНФ.

Дэлегаты таксама прынялі некалькі ўхвалаў і зваротаў зьезду – аб сытуацыі вакол падпісаньня беларуска-расейскае хаўруснае дамовы, аб спыненьні гэнацыду чачэнскага народу, і патрабаваньне да беларускіх уладаў пра неадкладнае вызваленьне ўсіх палітвязьняў і актывізацыі пошукаў зьніклых Захаранкі, Віньнікавай, Ганчара й Красоўскага. Пасьля заканчэньня зьезду, дэлегаты амаль у поўным складзе накіраваліся ў Курапаты на мітынг-рэквіем па ахвярах бальшавіцкіх рэпрэсыяў.

**Альгерд Невяроўскі, Менск**

# БНФ: новы лідэр — Вячорка

*Другая сэсія шостага зьезду БНФ у менскім ДК «Сукно» канчаткова патлумачыла сытуацыю ў найбуйнейшай беларускай апазыцыйнай партыі. Відавочна, што адбыўся не раскол, як раней меркавалася, а вылучэньне з Фронту адной ягонай часткі — так званых «пазьнякоўцаў». І калі на першай сэсіі ў ліпені галасы дэлегатаў падзяліліся пароўну, дык цяпер перавага «вячоркаўцаў» была відавочнаю.*

У суботу, 30 кастрычніка, а 10-й раніцы ля ўваходу ў Дом культуры тоўпілася каля сотні дэлегатаў, а таксама журналісты і шараговыя фронтаўцы. Іх не пускалі ў будынак з розных прычынаў: дэлегатаў — бо не ставала нейкіх сьпісаў, шараговых і журналістаў — бо такое было распараджэньне прапазьнякоўскай часткі кіраўніцтва БНФ: Чахольскага, Беленькага, Крываротa ды старшыні мандатнай камісіі Кароліка. Людзі мерзлі на вуліцы, затрыманыя дружынаю Алеся Чахольскага, нягледзячы на заклікі Вячоркі і Баршчэўскага прапусьціць іх.

Зьезд пачаўся а дванаццатай. Папярэдне дэлегатам быў раздадзены «пагаджальны» факс Пазьняка, дзе ён прапанаваў сфармаваць Сойм БНФ з роўных частак прадстаўнікоў абодвух бакоў. Але была і ўмова: старшыня — сам Пазьняк.

Весьці паседжаньне выпала Вінцуку Вячорку. Першае галасаваньне было пра тое, каб пусьціць у залю журналістаў. «За» — прыкладна 150 чалавек з 200 прысутных на той момант. Дружына Маладога Фронту ўзялася выконваць гэтае рашэньне, тымчасам А.Чахольскі заблякаваў уваход сваімі людзьмі і адмовіўся выконваць рашэньне зьезду. Узьнікла патасоўка. У выніку зьмерзлыя на вуліцы патрапілі ў фае.

Тымчасам у залі разгортваліся падобныя падзеі. На сцэну выскоквалі прадстаўнікі «пазьнякоўцаў» з абразамі ў бок апанэнтаў. Юры Беленькі выхапіў у Вячоркі мікрафон і аб'явіў, што весьці паседжаньне будзе ён. Зразумела, што сп.Вячорка, як чалавек выхаваны, ня стаў усчынаць сварку. У залі пачаўся шум, загучалі абразы, справа вось-вось магла перарасьці ў бойку. Уздоўж сцэны ўстаў ланцуг з хлопцаў-маладафронтаўцаў, якія ўзялі на сябе функцыю дружыны і больш нікога на сцэну не пускалі. Бабулькі-«пазьнякоўкі», што сядзелі ў першых шэрагах, называлі маладафронтаўцаў фашыстамі ды плявалі ў іхны бок. Дзіўна, што людзі, у якіх так багата энэргіі, адмовіліся браць удзел у Маршы Свабоды 17 кастрычніка. Там іхны імпэт спатрэбіўся б больш.

Бэдлам, верагодна, працягваўся б да вечара, але «вячоркаўцы» прынялі рашэньне пакінуць залю. І вось тут «пазьнякоўцаў» чакаў шок. У залі засталося каля 70 чалавек з 320 дэлегатаў зьезду. Ні пра які кворум не магло быць і гаворкі. Тым ня менш, Ю.Беленькі правёў паседжаньне «свайго фронту», на якім былі абраныя старшыня Зянон Пазьняк, намесьнікі і Сойм. Усе 70 чалавек былі разьмеркаваныя па пасадах.

Увечары, а 18-й, пачаўся зьезд «вячоркаўцаў», якіх, дзякуючы кворуму ў 239 чалавек, цяпер і можна лічыць Беларускім Народным Фронтам. Старшынём БНФ стаў **Вінцук Вячорка,** намесьнікамі: Алесь Бяляцкі, Віктар Івашкевіч, Павал Севярынец, Анатоль Фёдараў ды Юрась Хадыка. Сярод сяброў новаабранага Сойму — духоўныя лідэры Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Артур Вольскі.

Цяпер пытаньні стаяць наступным чынам: дзьве партыі — БНФ і пазьнякоўская КХП — пад адным дахам жыць ня будуць, таму пытаньне нумар 1 — пра памяшканьне Ўправы. Пытаньне нумар 2 — пазыцыя Мінюсту адносна мінулага зьезду. Спрыяньне КХП з боку ўладаў у гэтай справе пацьвердзілася шэрагам прыкладаў. Міністар Сухінін, паведамляючы заяўляльнікам ад БНФ пра тое, што «ўжо аддаў дакумэнты» сп.Папкову, спаслаўся на распараджэньне «зьверху».

Пры ўсёй сваёй важнасьці гэтыя пытаньні, тым ня менш, не затуляюць галоўнага: Беларускі Народны Фронт, які захаваў вернасьць уласнаму статуту і скінуў зь сябе баласт, мусіць распачаць новы ўзьлёт у гісторыі арганізацыі. Калі толькі выбраныя стратэгія ды тактыка не акажуцца памылковыя.

**Аляксей Шыдлоўскі**

# ВЕЛЬМІ ЦІКАВА...

**Один из лидеров Союза правых сил, экс-премьер России Сергей Кириенко выступает категорически против подписания Союзного договора между Беларусью и Россией в его нынешнем виде. В крайнем случае Кириенко намерен оспаривать договор в Конституционном суде.**

**«Мы за популярную идею объединения русского и белорусского народа. Но для этого надо сделать нормальные условия этого объединения. Договор, который предполагают подписать 26 ноября, нельзя исполнить» - так, по сообщению «Интерфакса», заявил Кириенко 21 ноября. Он пояснил, что каждый пункт этого документа "натыкается на то, что непонятно, как его дальше выполнять: или он нарушает основы Конституции России, или он нарушает равноправие субъектов России". В частности, экс-премьер выступает против обозначенного в проекте Договора равного представительства Беларуси и России в новом объединенном законодательном органе. Он утверждает, что два государства сейчас не могут "на равных принимать решение о таможенных пошлинах, не могут на равных регулировать курс рубля, национальной валюты, контролировать национальный банк". "Это заведомо невыполнимые вещи", считает один из лидеров СПС.**

**"Моя оценка - в такой форме этот Договор является политиканством перед выборами, красивой игрой, жестокой эксплуатацией того самого стремления любого нормального человека к объединению с братским народом Беларуси", заявил Кириенко. Нынешний договор, по его мнению, закладывает "мину замедленного действия" под конституционное устройство России, "потому что первое, что должен сделать, например, Татарстан, это заявить о выходе из состава России, чтобы потом войти в него на условиях Беларуси".**

**Если Договор будет ратифицирован Госдумой, "мы воспользуемся правом обратиться в Конституционный суд России", сказал экс-премьер.**

**Он подверг критике нынешние власти Беларуси и, в первую очередь, главу государства Александра Лукашенко, заявив "о сомнительной легитимности президента Беларуси". Кириенко также обратил внимание на то, что Договор будут подписывать с одной и с другой стороны "власти временные". "Им осталось очень мало времени. И это вопрос предсказуемости в сотрудничестве государств и предвыборная акция", констатировал экс-премьер.**



# Выходзіць, беларуская навука — абыякавая або нават варожая да беларускай мовы і беларускасьці?

*Гэтае пытанне вельмі набалелае для кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, сапраўды заклапочанага лёсам беларускай нацыі. Яно нясцерпным болем праходзіла праз душу заўжды, калі -ранейшы, і сучасны прэзідэнты Акадэміі навук Беларусі (пакуль што — не нацыянальнай у поўным сэнсе гэтага слова) агітавалі за поўнае з'яднанне Беларусі з Расіяй, гэта значыць — за поўнае зьнікненне беларусаў у этнічных адносінах. Гэтак было, калі праводзіліся сесіі гэтай акадэміі і ўрачыстасці, на якіх не толькі не панавала, а нават і не гучала беларуская мова; калі яна выганялася прэч з акадэмічнай аспірантуры і навуковых выданняў; калі ў апраўданне гучала хлусня аб тым, што быццам бы беларускі народ сам выказаўся на рэферэндумах за сучасны гаротны стан беларускамоўнасці, хоць нідзе і ніколі ў беларусаў не пыталіся пра згоду на знішчэнне роднай мовы і самастойнай дзяржаўнасці.*

*Мяне вельмі здзіўлялі выказванні некаторых дырэктараў НДІ: маўляў, а навошта тая мова — народу ўсё роўна, на якой мове размаўляць, яна ж не дае ні дабрабыту, ні грошай... Гэтыя людзі (вучоныя нібыта!) не разумеюць, навошта Бог стварыў розныя этнасы як аснову існавання і развіцця ўсяго чалавецтва, яго самаўдасканалення.*

*Усё адзначанае прымусіла Мінскую гарадскую раду Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звярнуцца з адкрытым пісьмом да дырэктараў НДІ і іншых устаноў Акадэміі навук Беларусі, да кіраўнікоў праектных, праектна-вытворчых інстытутаў. Аналагічны зварот да кіраўніцтва ВНУ рэспублікі паказаў глыбокае разуменне нашай заклапочанасці. Толькі рэктарат БСГА даў фактычна зневажальны адказ ды зусім не адгукнуліся недзяржаўныя ВНУ. Гэтым самым яны паказалі, што служаць не справам Беларусі, а амбіцыям сваіх кіраўнікоў.*

*Прывожу змест нашага звароту.*

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разам з прадстаўнікамі нацыянальна свядомай грамадскасці сур'ёзна заклапочана станам беларускамоўнасці ў нашай краіне як аднаго з галоўных фактараў захавання і развіцця беларускага этнасу, станаўлення нацыі і захавання самастойнасці Беларускай дзяржавы. Усё больш рэальнай становіцца пагроза канчатковай асіміляцыі беларусаў з прычыны звужэння арэалу нашай культуры і мовы.

Вельмі насцярожвае тое, што лідэрам у гэтым трагічным працэсе з'яўляецца наша сталіца Мінск. Пацвярджэнне таму — хуткае скарачэнне беларускамоўнага навучання ў школах. Так, калі ў 1993—1994 навучальным годзе 58,6% першакласнікаў Мінска прыйшлі ў беларускамоўныя класы, то ў 1997—1998 гг. — ужо толькі 7,3%, а ў 1998—1999 гг. яшчэ меней — 4,9%. У 11-х жа класах двухмільённай сталіцы з 13.382 вучняў толькі 108 (!) навучаюцца па-беларуску. І гэта ў горадзе, дзе пераважная колькасць жыхароў — беларусы і якія павінны быць узорам этнічнага самазахавання і развіцця карэннага народа. Другога такога прыкладу сярод цывілізаваных сучасных краін не існуе.

Прычын такога жахлівага працэсу шмат. Сярод іх назавём найбольш відавочныя, карані якіх — у трагічнай гісторыі Беларусі..

* Толькі за час "невядомай вайны" 1654—1667 гг., якую вёў самы "добрейший человек славной русской души" цар Аляксей Міхайлавіч, большая частка беларусаў была знішчана, а многія з тых, хто застаўся ў жывых, вывезены ў няволю. У выніку аказаўся моцна разбураны генафонд беларускага этнасу.

* У 1836 годзе царскім указам было поўнасцю забаронена беларускамоўнае навучанне ў школах, і да 1915 г. ніводнае беларускае дзіцё не вучылася на роднай мове.

* За савецкі перыяд у выніку палітычных рэпрэсій толькі на працягу 20—50-х гадоў камунабальшавізм знішчыў каля 600 тысяч найбольш адукаваных, гаспадарлівых і свядомых людзей Беларусі — мозг і сумленне яе народа.

* Пачынаючы з часоў захопу Беларусі Расіяй, самая элітная частка беларусаў "высмокталася" спачатку Масковіяй, а потым СССР. А на нашу зямлю для мацавання расійскіх і бальшавіцкіх парадкаў, пасылаліся адпаведныя асобы.

* Цяперашнія вярхоўныя ўлады Рэспублікі Беларусь карыстаюцца самымі непрыстойнымі прыёмамі, каб зрабіць беларускую мову зусім непатрэбнай у дзяржаве і грамадстве, зацята нацкоўваюць саміх беларусаў супраць сваёй роднай мовы.

Такія метады выкарыстоўваюцца, каб паказаць, што ў Беларусі практычна ўжо не існуе і сам беларускі этнас. Апошняму пацвярджэнне — праведзены ў гэтым годзе перапіс насельніцтва, які з'яўляецца па сутнасці акцыяй, скіраванай супраць этнічных і дзяржаўных асноў беларускасці. Пра гэта сведчыць адно з пастаўленых у перапісных лістах пытанняў: "На каком языке вы обычно разговариваете дома?" Вынікі загадзя вядомых адказаў будуць выкарыстаны ўладамі, каб крычаць на ўвесь свет: "Праблем беларускай мовы не існуе, бо беларусы ўжо не карыстаюцца ёю". А калі няма беларускай мовы, то няма і беларускага этнасу.

У гэты лёсавызначальны для нашага народа час вельмі здзіўляюць паводзіны Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дакладней — яе кіраўніцтва, якое сваім дагаджальніцтвам перад уладамі фактычна спрыяе знішчэнню беларускай мовы і саміх беларусаў. Аналагічнае стаўленне да беларускай мовы і ў большасці кіраўнікоў галіновых навукова-даследчых і праектных інстытутаў, навукова-вытворчых устаноў, якія падобным чынам спрыяюць знішчэнню ў нашым краі каранёў беларускасці.

У адпаведнасці з вышэйадзначаным просім Вас зразумець прычыны нашай велізарнай заклапочанасці сучасным станам беларускай мовы на яе этнічнай тэрыторыі і адказаць на наступныя пытанні, каб ацаніць рэаліі яе функцыяніравання ў асяроддзі людзей творчай працы, і планаваць мерапрыемствы па ўратаванні роднага слова карэннага насельніцтва краіны.

1. Ці згодны Вы з тым, што мэтанакіраванае з боку афіцыйных улад знішчэнне беларускай мовы як аднаго з галоўных фактараў этнічнай самабытнасці беларусаў з'яўляецца сусветным злачынствам? Пастаноўка дадзенага пытання выклікана тым, што этнасы як генетычна родная еднасці людзей са сваёй сукупнай душой і мовай, іншымі самабытнасцямі створаны не выпадкова. А каб праз жыццёвае ўзаемадзеянне сваіх розначасцяў забяспечваць існаванне ўмоў для безупыннага самаўдасканалення ўсяго чалавецтва. Таму выпадзенне з ланцуга агульначалавечай супольнасці 12-мільённага звяна беларусаў збядніць яго магчымасці.

2. У адпаведнасці з адзначаным ці можна лічыць нармальным, калі кіраўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі фактычна выкінула родную мову са свайго ўжытку? Нават на ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Акадэміі навук, што праводзілася на пачатку года ў Вялікім тэатры оперы і балета з удзелам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі (гл. "Звязду" ад 16.02.1999 г.), гучала выключна мова суседняга народа.

3. Ці можаце Вы ўявіць штосьці падобнае, напрыклад, у сапраўды братняй нам Украіне ці суседніх Літве, Латвіі, Польшчы?

4. Ці можна лічыць нашу Акадэмію навук сапраўды нацыянальнай? Такая фармулёўка пытання звязана з тым, што першаснай задачай любой сапраўды нацыянальнай акадэміі навук ва ўсім свеце з'яўляецца спрыянне захаванню і развіццю асноў нацыі, створанай на аснове тытульнага этнасу дзяржаўнай еднасці народа, аб'яднанага грамадскімі агульнасцямі жыццядзейнасці, самабытнай культурай, мовай і ладам жыцця. Кіраўніцтва ж беларускай Акадэміі навук падтрымлівае накірунак далучэння Беларусі да Расіі, г.зн. знішчэнне асноў беларускай нацыі. Ці задумваюцца вучоныя мужы, што калі зьнікне нацыя, не будзе патрэбы і ў нацыянальнай АН?

5. Ці можа, на Вашу думку, узначальваць АН Беларусі чалавек, які негатыўна ставіцца да беларускасці наогул?

6. Ці згодны Вы з тым, што на чале любой навукова-даследчай, навукова-праектнай, навукова-вытворчай установы павінен быць спецыяліст, у чалавечую сутнасць якога закладзена павага да ўсяго беларускага, у тым ліку — да беларускай мовы?

7. Якая Ваша думка адносна таго, каб у нашай краіне беларуская мова была сапраўды вядучай унутрыдзяржаўнай (з абавязковым выкарыстаннем ва ўсіх відах навучальнага працэсу), руская — рэгіянальнай (для зносін у СНД і славянскім свеце), адна з вядучых замежных сучасных моў (напрыклад, ангельская) — сродкам міждзяржаўных зносін?

8. Ці можна лічыць нармальнымі безупынныя спасылкі не асабліва выніковых навукоўцаў і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, што, маўляў, выкарыстанне беларускай мовы не толькі звужае магчымасці прапаганды іх дасягненняў, але нават і шкодзіць у іх працы?

9. Калі так, то чаму пры выкарыстанні толькі рускай мовы ў АН БССР (а потым — РБ) даволі вялікай арміяй навукоўцаў ні адзін з іх не адзначаны Нобелеўскай прэміяй?

10. Як (станоўча ці адмоўна) суаднесці адзначаныя сцвярджэнні пра негатыўны беларускамоўны ўплыў на навуку з вядомай ісцінай, у адпаведнасці з якой Ханс Крысціян Андэрсен (1805—1875 гг.) здабыў сабе неўміручую сусветную славу, ствараючы свае звышглыбокадумныя творы на мове маленькага дацкага народа? Тое ж можна аднесці і да троіцы Ангетрэм (бацька, сын, унук) — шведскай дынастыі фізікаў, астраномаў, геафізікаў, сусветную значнасць адкрыццяў якіх не засланіла родная мова 8-мільённага народа.

11. Паспрыяў ці не "могучий русский язык" якому-небудзь беларускаму рускамоўнаму фізіку — у выніковасці ягоных даследаванняў?

Толькі глыбока задумаўшыся над гэтымі пытаннямі і чэсна адказаўшы сабе самім на іх, мы здолеем зрушыць з месца замшэлую глыбу на шляху да духоўнай святыні беларускай нацыі — роднай мовы.

**Аляксей САЛАМОНАЎ.**

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І КУЛЬТУРУ

### Што такое родная мова?

Родная мова - гэта мова, якой спрадвек карысталіся продкі, мова да якой чалавек мае прыродную схільнасьць. Бог даў кожнаму народу сваю мову, якая яму і той зямлі, на якой ён жыве і якой найбольш адпавядае.

### Якая наша мова?

Наша беларуская мова адна з найчысцейшых у славянскай моўнай сям'і. На думку часткі вучоных-філолагаў, ня толькі беларускіх, але і замежных, беларуская мова займае па мілагучнасьці другое месца ў Эўропе (пасьля італійскай). Наша мова вельмі сьпеўная і гібкая, таму вельмі добра надаецца да паэзіі і песьняў. З той прычыны, што мова захавала даўнейшы славянскі характар, яна – як маці ў славянскай сям'і моваў. Да яе, як дзеці на маці, падобны ўсе славянскія мовы: расейская, чэская, польская і інш. Але пры гэтым яна, як і кожная іншая мова асобная і самабытная.

### Якая гісторыя нашай мовы?

Раней нашая мова была адной з самых прэстыжных і распаўсюджаных славянскіх моваў, ёю гаварылі князі, большасьць люду Вялікага Княства Літоўскага, каралі польскія, гаспадары малдаўскія. У Вялікім Княстве Літоўскім яна была дзяржаўнай мовай: на ёй пісаліся ўсе законы, вяліся справы ў судах, адбываліся соймы і інш. Беларуская мова была мовай дыпламатычнай на ўсходзе Эўропы. Ад тых часоў засталося шмат дакументаў, кніг, граматаў і ўсе яны напісаны старабеларускай мовай.

Але ў цяжкія перыяды нашай гісторыі спробы нашых ворагаў пазбавіць нас беларускай мовы мелі пэўны посьпех, але яна ізноў натуральным шляхам паўставала з народу і натуральна гучала ў вуснах беларусаў.

### Што ёсьць самабытная нацыянальная культура?

Нацыянальная культура гэта набытак народа, які фарміраваўся на працягу ўсёй яго гісторыі. Культура утрымлівае ў сабе мову, гісторыю, сьветаўспрыманьне і шмат іншага, што мае толькі адзіны канкрэтны народ і ні які іншы. Народны вопыт канцэнтруецца ў культуры народа, выніку яго самапазнаньня. Гэты вынік не абавязкова цалкам дзейсны для кожнага наступнага пакаленьня, бо зьмяняюцца жыццёвыя абставіны ў якіх жыве народ, а адпаведна і культура. Але вынік самапазнаньня народа – культура – ёсьць базіс, на якім заснавана ўсялякае новае самапазнаньне.

### Чаму беларусы павінны шанаваць перш за ўсё менавіта беларускую культуру?

Беларускі народ пазнаў самога сябе. Індывідуальны характар беларускай нацыі знаходзіць сабе найбольш поўнае і яркае ўвасабленьне ў самабытнай нацыянальнай культуры і гэта культура дастаткова гарманічна, гэта значыць асобныя яе часткі не супярэчаць адна адной. Толькі тады беларускі чалавек будзе жыць годна, калі ён ня будзе супярэчыць самому сабе. "Пазнаць сябе" і "быць самім сабой" - гэта два бакі аднаго мэдаля, і бяз гэтага немагчыма быць на самой справе тым, для чаго нас стварыў Бог і гэта ёсьць асновай пазітыўнага ныцыянальнага патрыятызма.

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»*
чакае Вашае ахвяры
на
**ВЫДАВЕЦКІ ФОНД!!!**





Сьв. Памяці

## НАДЗЯ ГРУША

22. 8. 1937 — 25. 10. 1999



адыйшла на вечны супачынак 25-га кастрычніка 1999 г., пакінуўшы ў вялікім смутку мужа Аўгена, трое дзяцей: Міхася, Таню і Пятруся; трое маленькіх унукаў, — Тамарку, Джэйсана і Магдалену, сястру Кацю і 5 братоў ды шмат прыяцеляў, знаёмых і суседзяў.

Паховіны адбыліся ў Мэлбурне, Аўстралія, на беларускай частцы магільніку "Фаўкнер".

Пахавальны абрад выканалі а. А. Кулакоўскі, настаяцель мясцовае царквы, і а. Міхась Бурнос, які з матушкай спэцыяльна прыехаў з Адэлайды на гэты сумны абрад. Нябожчыца Надзя мела шмат знаёмых і прыяцеляў у Адэляйдзе і часта там бывала.

Асьвету Надзя здабыла ў Аўстраліі, дзе закончыла "бізнэс коледж" і пасьля доўгія гады працавала асабістай сакратаркай у вялікіх і ведамых прадпрыемствах.

Сьв. пам. Надзя была добрай жонкай, руплівай маткай, — узгадавала 3-е дзяцей і дачакалася 3-х унукаў, якіх моцна любіла. Надзя вызначалася вялікай актыўнасьцю ў беларускай грамадзкай і царкоўнай працы. Была актыўнай у парафіі БАПЦ. Увесь час сьпявала ў царкоўным хоры, была сакратарам Сястрыцтва пры парафіі і сяброўкай Управы Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі. Доўгі час сьпявала ў беларускім сьвецкім хоры пры БЦК. Таксама была сакратаром-скарбнікам у Беларускім Жаночым Камітэце, належала да Беларускага Сацыяльнага Клюбу ў Мэльбурне ды выконвала абавязкі сакратаркі для Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

Як сказаў сп. Павел Гуз над сьвежай магілай нябожчыцы, — "у Мэлбурне ніякія імпрэзы ці сьвяткаваньні або акадэміі не абыходзіліся без удзелу Надзі Груша. Беларуская грамадзкасьць Мэлбурну страціла сваю вельмі актыўную і працавітую сяброўку..."

Сьпі спакойна дарагая Надзя і няхай аўстралійская зямелька будзе Табе пухам!

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

А

### Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | | |
|---|---|---|
| 216. Моніка Банькоўска | (Швайцарыя) | $100.оо |
| 217. Т. Д. | (Ангельшчына) | $200.оо |

**Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступным № нашае газэты...**

**Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.**



### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ...

**Каля 43-х мільёнаў чалавек былі зьнішчаны ў Расеі і СССР з 17-га па 53-ці гады — у пэрыяд панаваньня Леніна і Сталіна. Гэтыя даныя былі абнародаваныя старшынёю камісіі па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсіяў Аляксандрам Якаўлевым і прадстаўнікамі аб'яднаньня "Мэ марыял".**

**Праваабаронцы паведамілі пра падрыхтоўку грамадзкага суда над камуністычнай партыяй Савецкага Саюзу, які павінен адбыцца ў 2000-м годзе. Асноўныя пункты абвінавачаньня — гэнацыд народу, перасьлед свабоднага слова, адсталасьць краю, падтрымка пракамуністычных рэжымаў у Усходняй Эўропе, фінансаваньне заходніх кампартыяў...**

## АСАБІСТАЯ ПАДЗЯКА...

Гэтым выказваю шчырую падзяку сястры Каці і яе дачцы Ані за вялікую дапамогу маёй жонцы Надзі ў часе яе цяжкае хваробы.

Таксама Каця, Аня і Дэбі рупліва наладзілі памінальны абед, дзе сабралася больш як 150 асоб, каб ушанаваць памяць нябожчыцы Надзі.

Вялікае дзякуй а. А. Кулакоўскаму з матушкай Раісай, якія часта адведвалі хворую ў шпіталі. Падзяка належыцца а. Міхасю і матушцы Вользе Бурнос ды Галі Кандрусік, якія прыехалі з Адэлайды, каб разьвітацца з Надзяй. Дзякуй сп-ні Анюці Карп, якая напякла шмат смачных булак на памінальны абед. Спадарства Карп ведалі Надзю яшчэ з Нямеччыны.

Трэба падзякаваць а. Аляксандру Грыцуку за збор грошай на "Беларускі Дайджэст", — замест кветак на сьвежую магілу Надзі.

Выношу шчырую падзяку ўсім родным, сябром, прыяцелям ды знаёмым, якія прыслалі спачувальныя карткі ці лісты. Усім дзякую за дапамогу, памяць і спачуваньні ў часе вялікага смутку ад усёй сям'і Грушаў.

З вялікім болем у сэрцы, *Аўген Груша.*

## Міхаіл Чыгір на свабодзе

*30-га лістапада ў другой палове дня Міхаіл Чыгір, які правёў за кратамі дакладна 8 месяцаў, выйшаў з турмы на вуліцы Валадарскага ў Менску. Яго чакалі родныя, паплечнікі і журналісты. Потым у офісе палітыка адбылася прэсавая канфэрэнцыя.*

Міхаіл Чыгір заявіў журналістам, што не зьбіраецца ані пакідаць Беларусь, ані сыходзіць зь беларускай палітыкі. Ён сказаў, што актыўна заняцца палітыкай мае намер пасьля заканчэньня судовай справы над ім. Я гатовы супрацоўнічаць як з апазыцыяй, гэтак і з уладамі, – сказаў Чыгір і патлумачыў, што падтрымлівае перамоўны працэс, які кансультацыйна-наглядальная група АБСЭ спрабуе наладзіць паміж уладай і апазыцыяй. Але нельга дапускаць, каб аб апазыцыю выцiралі ногі, тады дыялёг немагчымы; пакуль гэта будзе працягвацца, перамоўны працэс – беспэрспэктыўны, – патлумачыў спадар Чыгір.

Я папрасіў яго выказаць стаўленьне да саюзнай дамовы паміж Беларусяй і Расеяй, а таксама ацаніць адтэрміноўку яе падпісаньня.

Міхаіл Чыгір сказаў:

**(Чыгір: )** "Вы ведаеце, што я гляджу на гэта як на палітычныя акцыі. Калі я быў прэм'ерам, мы зрабілі ўсё для сумеснай дзейнасьці эканомікаў Беларусі і Расеі, падпісалі дакумэнты аб адзінай мытнай прасторы. Усё астатняе – гэта тлум і трaскатня. Кожны пункт дамовы супярэчыць канстытуцыям як Беларусі, так і Расеі. Я мяркую, я хацеў бы меркаваць, што ў Расеі ўцямілі і жахнуліся – што ж мы робім?"

Такім чынам ацэньвае адтэрміноўку падпісаньня беларуска-расейскай дамовы Міхаіл Чыгір.

Былы вязень паведаміў, што напярэдадні вызваленьня сьледчыя запатрабавалі ад яго падпісаць ня толькі паперу аб нявыезьдзе, але й абавязак кампэнсаваць дзяржаве нанесеныя страты. Як было паведамлена сёньня на прэсавай канфэрэнцыі ў Гэнеральнай пракуратуры, праваахоўныя органы ацэньваюць гэтыя страты прыблізна ў 4 мільёны даляраў. Але Міхаіл Чыгір згадзіўся даць толькі падпіску аб нявыезьдзе. Ён заявіў, што лічыць сябе ні ў чым не вінаватым і спадзяецца, што суд цалкам апраўдае яго.

Я не згаджуся зь любым іншым прысудам, – заявіў ён сёньня журналістам. Ён выказаў удзячнасьць апазыцыі, эўрапейскім дзяржавам і Злучаным Штатам Амэрыкі, якія змагаліся за ягонае вызваленьне.

Неўзабаве пасьля вызваленьня Міхаіла Чыгіра павіншавалі лідэры апазыцыйных палітычных партыяў Беларусі, а таксама па тэлефоне – старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Сямён Шарэцкі.

**Юры Дракахруст, Менск**



## Замест кветак на сьвежую магілу Надзі Груша — ахвяра на "Беларускі Дайджэст".

| | |
|---|---|
| 1. Сям'я Мілкі Корбут | $300.оо |
| 2. а. Міхась і матушка Вольга Бурнос | $120.оо |
| 3. Міхась Мілеўскі | $100.оо |
| 4. Міша Сасноўскі | $100.оо |
| 5. Аўген Груша | $150.оо |
| 6. Міша Груша | $100.оо |
| 7. Таня Груша | $50.оо |
| 8. Пятрусь Груша | $50.оо |
| 9. Тамара Груша, унучка | $20.оо |
| 10. Джэйсон Груша, унук | $20.оо |
| 11. Магдалена Груша, унучка | $20.оо |
| 12. Дзьмітро Груша | $50.оо |
| 13. Марыя Корбут | $50.оо |
| 14. Павел Сасноўскі | $50.оо |
| 15. Галя і Мікалай Кандрусік | $50.оо |
| 16. Аня Палмэр | $50.оо |
| 17. Уладзімір Сідлярэвіч | $50.оо |
| 18. Мікалай і Тамара Субач | $50.оо |
| 19. Сястрыцтва БАПЦ, Мэлбурн | $50.оо |
| 20. Парафія БАПЦ Сьв. Ап. Пятра і Паўла, Адэлайда | $50.оо |
| 21. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі | $30.оо |
| 22. Сям'я П. Т. Гуз | $30.оо |
| 23. Сям'я Калесьнiковіч | $20.оо |
| 24. М. Колес | $20.оо |
| 25. Сям'я Ялоўз | $20.оо |
| 26. С. Корбут | $20.оо |
| 27. А. Ф. Корбут | $20.оо |
| 28. Л. Кінг | $20.оо |
| 29. Ліля Яцкевіч | $20.оо |
| 30. Сям'я Попэрэчны | $20.оо |
| 31. Трэйсі Фонкел | $20.оо |
| 32. Чарлі Поулін Шуцс | $20.оо |
| 33. Сям'я Каравэн | $20.оо |
| 34. Рэй Адам Крысты Рэбэка | $20.оо |
| 35. а. Аляксандар Грыцук | $20.оо |
| 36. Р. Дургам | $20.оо |
| 37. Вера і Рыгор Шайпак | $20.оо |
| 38. А. І. Яшчэнко | $20.оо |
| 39. Антон Гакогэртны | $20.оо |
| 40. Іра Говар | $10.оо |
| 41. Жэня Дэмідэнко | $10.оо |
| 42. Т. М. Рабчэнко | $10.оо |
| 43. Л. А. Д. Салсевіч | $10.оо |
| 44. В. Г. Мыцбойлiў | $10.оо |
| 45. А. Русак | $10.оо |
| 46. В. Русак | $10.оо |
| 47. Стэфан Грэцк | $10.оо |
| 48. Юры Корбут | $10.оо |
| 49. Сям'я Басарановіч | $10.оо |
| 50. Ян Барысевіч | $10.оо |
| 51. І. В. Шэўчык | $10.оо |
| 52. Алег Шнэк | $10.оо |
| 53. П. Буцак | $10.оо |
| 54. Н. Яўневіч | $10.оо |
| 55. П. Бранлей | $10.оо |
| 56. К. Спітэры | $10.оо |
| 57. Л. Спітары | $5.оо |
| 58. Н. В. Устіноў | $10.оо |
| 59. Д. Калвэ | $5.оо |
| 60. Л. Савка | $5.оо |
| 61. Л. Рубі | $5.оо |
| 62. Сям'я Смольскі | $5.оо |
| 63. Б. Біржынскі | $5.оо |

**Разам сабрана $2090.оо аўстралійскіх даль.**

**Дзякуем, А. Груша.**